# НАШ КРАЙ



№ 5 (32) МАЙ 1928

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА



# ЗЪМЕСТ.



## МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.



## ПРОГРАМЫ, АНКЕТЫ І ІНСТРУКЦЫІ.



## ХРОНІКА.



## БІБЛІОГРАФІЯ.



---

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ



№ 5 (32) Май 1928

ГОД ВЫДАНЬНЯ ЧАЦЬВЕРТЫ

ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1928

# Ад Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

З надыходам вясны ажывілася і краязнаўчая праца на мясцох. Вясна і лета—найбольш спрыяючыя краязнаўчай працы поры году. У гэты час асабліва зручна наладжваць экскурсіі і экспэдыцыі краязнаўчага характару. Яны могуць быць аднадзённымі і шматдзённымі, і об'ектам іх могуць зьяўляцца як непасрэдна блізкая тэрыторыя, так і іншыя раёны, бо толькі шляхам параўнаньняў можна пазнаваць край. А матар'ял для такіх параўнаньняў можна набыць ня інакш, як шляхам падарожнічаньня па сваёй і суседніх тэрыторыях. Па складу свайму экскурсіі могуць быць і шматлюднымі і малалюднымі. Зручней арганізоўваць, бясспрэчна, малалюдныя экскурсіі. Калі жадаючых падарожнічаць шмат, лепш арганізаваць некалькі экскурсій малалюдных, чым адну шматлюдную. У інтарэсах вывучэньня свайго раёну мясцовыя арганізацыі павінны пастарацца ўкласьці маршруты экскурсій адпаведна пляну свае дасьледчае працы і скарыстаць усе сабраныя экскурсантамі рэчавыя матар'ялы для сваіх музэяў і выставак.

Шэраг цэнтральных навукова-дасьледчых установаў летам наладжвае шмат дасьледчых экспэдыцый у розныя месцы Беларусі. Аб гэтых экспэдыцыях Цэнтральнае Бюро Краязнаўства будзе паведамляць мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі. Ім трэба паклапаціцца наладжаньнем цеснай сувязі з экспэдыцыямі, калі яны прыбудуць на месцы. У інтарэсах посьпеху навуковай працы неабходна дапамагаць экспэдыцыям у справе выкананьня іх працы. Разам з тым экспэдыцыі павінны дапамагчы краязнаўчым арганізацыям. Яны павінны зрабіць даклады аб задачах экспэдыцыі, мэтодах яе працы і, урэшце, аб выніках працы. Калі на мясцох знойдуцца краязнаўцы, якія пажадаюць прыняць удзел у працах экспэдыцыі, апошняя павінна пайсьці насустрэч такому жаданьню. Гэта вельмі важна для разьвіцьця краязнаўства, бо краязнаўца на практычнай працы зьліквідуе сваю навуковую няпісьменнасьць і стане падрыхтаваным краязнаўцам, якіх яшчэ ня так многа.

На працягу вясны і лета мясцовымі краязнаўцамі будуць выконвацца розныя досьледы прыродазнаўчага характару. Спаміж іх асаблівую ўвагу трэба зварачаць на сталае бязупыннае вядзеньне фэнолёгічных нагляданьняў. Як вядома, фэнолёгічныя нагляданьні толькі тады каштоўны, калі яны рэгулярна вядуцца ў данай мясцовасьці на працягу доўгага часу. Раней у працы некаторых мясцовых наглядальнікаў такой рэгулярнасьці ня было. На працягу данай вясны і лета яе трэба канчаткова замацаваць, бо фэнолёгічныя нагляданьні маюць вельмі вялікае навуковае і практычнае значэньне.

Перад тым, як усе мясцовыя працаўнікі атрымаюць час для адпачынку і пачнуць яго скарыстоўваць на краязнаўчую працу, як на найлепшы від адпачынку, мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі павінны на-

ладзіць падлікавыя агульныя сходы. На іх трэба падлічыць усю працу за мінулы зімовы час і вызначыць першачарговыя працы на лета. Адначасна можа адбыцца падлікавая выстаўка краязнаўчых матар'ялаў мясцовай організацыі. Тыя з матар'ялаў, якія павінны быць адасланы к гэтаму часу ў цэнтральныя ўстановы, як, напр., адказы на програмы аб вывучэньні мясцовых гаворак і інш., трэба адаслаць у Цэнтральнае Бюро Краязнаўства і паведаміць аб гэтым сваё акруговае таварыства краязнаўства.

Пэўную ўвагу мясцовых краязнаўцаў павінна займаць і тое, што рэдакцыя к канцу лета чакае вынікаў іх працы для зьмяшчэньня іх у сваім часопісе.

*ЦБК.*

---

**Проф. І. Замоцін.**

# Аб увязцы беларускага літаратуразнаўства з краязнаўчаю працаю.

*(З прац Катэдры гісторыі беларускае літаратуры ІБК).*

Перад Катэдраю гісторыі беларускае літаратуры ІБК, якая распачала сваю працу ў бягучым акадэмічным годзе, стаяць наступныя чарговыя задачы: зьбіраньне featur розьнастайных літаратурных матар'ялаў, якія неабходны для выданьня твораў беларускіх пісьменьнікаў і для ўсебаковага іх дасьледваньня; рэгістрацыя, клясыфікацыя і апісаньне гэтых матар'ялаў, якія з часам могуць скласьці цэльны рукапісны схоў; зьбіраньне матар'ялаў для крытыка-біографічнага слоўніка беларускіх пісьменьнікаў і ўкладаньне самага слоўніка; акадэмічнае выданьне твораў беларускіх пісьменьнікаў і, урэшце, навуковае дасьледваньне беларускае літаратуры з мэтаю пабудаваньня гісторыі беларускае літаратуры.

Само сабою разумеецца, што катэдра, якая пакуль што складаецца з чатырох штатных працаўнікоў і асьпіранта, занятага навуковаю падрыхтоўкаю па спэцыяльнасьці, ня мае магчымасьці выканаць усе гэтыя задачы сваімі сіламі: ёй патрэбна шырокая дапамога з боку шырокіх грамадзкіх колаў, у прыватнасьці-ж з боку іншых навуковых установ ІБК, якія па сваіх занятках зьяўляюцца сумежнымі з катэдраю літаратуры.

Такою ўстановаю, якая сваімі заняткамі набліжаецца да катэдры літаратуры, трэба лічыць, між іншым, і Бюро Краязнаўства (ЦБК) Інбелкульту.

У чым-жа можна бачыць некаторую ўвязку працы катэдры беларускай літаратуры з працай ЦБК? Пераглядзім пад гэтым поглядам чарговыя задачы катэдры. Першая задача—зьбіраньне матар'ялаў. Вядома, што ня маючы ў сваім складзе выстарчаючай колькасьці супрацоўнікаў, катэдра ня можа сама зьбіраць матар'ялы па розных мясцох Беларусі. У гэтых адносінах краязнаўцы могуць аказаць справе зьбіраньня фактычную дапамогу. Краязнаўцы, якія жывуць на мясцох, могуць абсьледваць мясцовыя архівы, музэі, кнігасховы і т. д. з погляду інтарэсаў катэдры беларускай літаратуры і, калі знойдуцца на мясцох тыя ці іншыя літаратурныя матар'ялы, могуць накіраваць іх у ІБК; у крайнім выпадку яны могуць давесьці да ведама ІБК, дзе такія матар'ялы маюцца. Магчыма, дзе-небудзь па мясцох захоўваюцца літаратурныя матар'ялы і ў прыватных руках, паколькі традыцыя нядаўна памершых беларускіх пісьменьнікаў яшчэ жыве ў іх сем'ях, сярод іх блізкіх і далёкіх родзічаў, сярод знаёмых і пашаноўнікаў іх;

скарыстаць ці, прынамсі, адшукаць гэтыя прыватныя крыніцы літаратурных спадчын і традыцый лягчэй усяго якраз краязнаўцам, якія могуць быць больш ці менш знаёмы з асобнымі сем'ямі і асобамі данай мясцовасьці, якія захоўваюць якія-небудзь літаратурныя сувязі з літаратурным мінулым ці ўспаміны аб ім. Для гэтай працы краязнаўцаў, бязумоўна, патрэбны пэўныя програмы і анкетныя ўказаньні (схэмы, пытальнікі, інструкцыі); аб гэтым паклапоціцца катэдра беларускай літаратуры, і такія ўказаньні будуць выпрацаваны.

Другая задача—рэгістрацыя, апісаньне і захоўваньне сабраных матар'ялаў. Здавалася-б, тут у нас, спэцыялістых па катэдры беларускай літаратуры, няма пунктаў датычэньня з краязнаўствам. Але гэта ня так. Накапленьне, рэгістрацыя і апісаньне літаратурных матар'ялаў павінны прывесьці да стварэньня якога-небудзь схову рукапісаў і іншых докумэнтаў літаратурнай гісторыі,—па магчымасьці нават да стварэньня літаратурнага музэю, як концэнтрацыі ўсяго, што адносіцца да вывучэньня данай літаратуры. У дасягненьні гэтай мэты могуць аказаць вялікае падтрыманьне і краязнаўцы шляхам адшуканьня розных, гэтак кажучы, гісторыка-літаратурных рэліквій, якія дадуць магчымасьць ілюстраваць і конкрэтна выявіць тую ці іншую літаратурную эпоху, таго ці іншага беларускага пісьменьніка. Думаю, што краязнаўцы маглі-б узяць на сябе таксама ініцыятыву ў стварэньні мясцовых літаратурных музэяў там, дзе памяць аб даным пісьменьніку яшчэ сьвежая і найбольш выражаная ў якіх-небудзь докумэнтах і матар'ялах.

Трэцяя задача катэдры беларускай літаратуры—гэта падрыхтоўка і ў будучым выданьне крытыка-біографічнага слоўніка беларускіх пісьменьнікаў. Я разумею пры гэтым ня толькі зьбіраньне матар'ялаў для біографіі і ацэнкі пісьменьнікаў, ужо сышоўшых з жыцьцёвай сцэны, але і зьбіраньне матар'ялаў аб пісьменьніках—нашых сучасьніках. Апошняе зьбіраньне асабліва важна, дзеля таго што карыстаючыся непасрэднымі зьвесткамі з вуснаў самых-жа пісьменьнікаў можам устанавіць ня толькі біографічную канву для кожнага з іх, але і атрымаць ад іх-жа набор неабходных фактычных даных для навуковага дасьледваньня іх творчасьці. У гэтых адносінах зноў вельмі пажадана дапамога краязнаўцаў, таму што Катэдра беларускай літаратуры ня можа толькі сваімі сіламі рабіць адпаведнае апытаньне пісьменьнікаў дзеля набываньня патрэбных для слоўніка і дасьледваньня вестак. Але кожны краязнаўца, які па месцы сваёй працы блізкі да тых ці іншых пісьменьніцкіх колаў ці да асобных пісьменьнікаў, мог-бы, мне здаецца, узяць на сябе абавязак запоўніць хоць-бы ў адносінах да аднаго-двух пісьменьнікаў адпаведныя анкеты, узоры якіх катэдра апрацавала і друкуе як дадатак да гэтага артыкулу (гл. аддзел „Програмы, інструкцыі і анкеты“). Апрача таго, у пісьменьнікаў-нашых сучасьнікаў заўсёды могуць аказацца ў распараджэньні такія матар'ялы (рукапісы іх уласных твораў, выпіскі з крытычных водзываў аб іх, перапіска, дзеньнікі, фотографічныя здымкі і т. д.), якія яны пажадаюць перадаць на захоўваньне і навуковае скарыстаньне ў ІБК; зьбіраньне такіх матар'ялаў у паасобных выпадках таксама могуць узяць на сябе краязнаўцы.

Чацьвертая задача катэдры—выданьне твораў беларускіх пісьменьнікаў. Гэта, бязумоўна, спэцыяльная задача тых асоб, якія абслугоўваюць катэдру. Але і ў гэтай спэцыяльнай задачы ёсьць момант, дзе работа спэцыялістых-літаратурнікаў зноў-жа сутыкаецца з работай краязнаўцаў. Справа ў тым, што кожнае акадэмічнае выданьне пісьменьніка патрабуе крытычнага апарату (устанаўленьне тэксту пісьменьніка, зьбіраньне вестак і матар'ялаў па гісторыі гэтага тэксту,

увагі да тэксту ня толькі моўнага характару, але і характару гістарычна-літаратурнага і т. д.), а крытычны апарат тым лепей і цікавей чым багацей традыцыя данага пісьменьніка як крытычна-біографічная, так і ўласна гістарычна-літаратурная. Гэтую традыцыю ствараюць усе тыя весткі аб пісьменьніку і аб яго літаратурнай дзейнасьці, якія атрымоўваюцца і з вусных гутарак аб ім, і з дзеньнікаў, лістоў і ўспамінаў аб ім-жа, апрацаваных у пісьмовай форме, і з розных рэцэнзій, нататак і даведак газэтных і часапісных, якія даюць што-небудзь для яго біографіі ці для гісторыі асобных яго твораў. Назьбіраць такія зьвесткі аб пісьменьніку, вельмі неабходныя для больш падрабязнага і конкрэтнага тлумачэньня яго твораў, магчыма таксама толькі пры шырокай дапамозе ўсіх, хто цікавіцца лёсам свае роднае літаратуры. І ў гэтых адносінах перад краязнаўствам адчыняецца шырокая магчымасьць увязкі з літаратуразнаўствам, таму што ўсякі набыты ім біографічны факт, кожная гістарычна-літаратурная ці тэкстуальная дробязь, якая датычыць пісьменьніка, увойдзе, як адна з частак у апарат выданьня яго твораў і навуковага іх дасьледваньня.

Апошняя і, так сказаць, канечная задача катэдры гісторыі беларускай літаратуры—гэта дасьледваньне сабраных матар'ялаў, якое мае мэтаю пабудову ня толькі асобных гістарычна-літаратурных монографій і нарысаў, але і пабудову гісторыі беларускае літаратуры ў цэлым. У якім сэнсе тут магчыма ўвязка працы катэдры з працай краязнаўцаў? У гэтым пункце інтарэсы літаратуразнаўства і краязнаўства, уласна кажучы, узаемна пераплятаюцца: краязнаўцы карыстаюцца часам мастацка-літаратурным матар'ялам для больш глыбокага і яркага пазнаньня мясцовай прыроды, быту, псыхічнага складу, грамадзкага жыцьця і т. д.; наадварот, літаратуразнаўцы стараюцца абаперціся якраз на краязнаўчы матар'ял, каб установіць сувязь пісьменьніка з пэўнай мясцовасьцю, высьветліць мясцовы генэзіс данага твору, знайсьці ва ўмовах і абстаноўцы мясцовага жыцьця фактычнае абгрунтаваньне некаторых тыповых карцін і вобразаў, намалёваных пісьменьнікам і т. д. У даным выпадку, калі я кажу аб увязцы навуковага дасьледваньня літаратуры з працай краязнаўцаў, я маю на ўвазе другі з паказаных відаў зблiжэньня літаратуры і краязнаўства. Бязумоўна, краязнаўцы маюць падставу карыстацца для сваіх мэтаў мастацка-літаратурным матар'ялам,—гэта ў іх інтарэсах; але мы, літаратуразнаўцы, у гэтым мала зацікаўлены. Наадварот, з свайго боку мы жадаем, каб краязнаўцы прадставілі ў наша распараджэньне ўвесь магчымы фактычны матар'ял, прыгодны для навуковага тлумачэньня і дасьледваньня пісьменьніка, г. зн. такі матар'ял, які ўскрывае генэзіс данае творчасьці на аснове фактаў сувязі пісьменьніка і яго твораў з даным краем, высьвятляе яго зарысоўкі, апісаньні, характарыстыкі, розныя апавядальныя эпізоды—зноў-такі ў сэнсе іх таго ці іншага мясцовага паходжаньня, дае даведкі аб клясавай і ідэолёгічнай позыцыі аўтара, таксама зьвязанай, магчыма, з мясцовымі ўплывамі, нарэшце, ускрывае мясцовыя элемэнты ў яго стылі.

Для дасягненьня гэтай апошняй мэты, г. зн. для вывучэньня літаратуры з погляду мясцовых, краёвых яе асаблівасьцяй, надзвычайна важна мэтодычна-правільная пастаноўка вывучэньня культуры данага краю ў яго асобных „гнёздах", з якімі звычайна зьвязана гісторыя як розных асьветных і навуковых устаноў, так і асобных літаратурных напрамкаў, школ, пісьменьнікаў і т. д.

Гэтую задачу ставіць нядаўна вышаўшая з друку кніга проф. Н. К. Піксанава „Областные культурные гнезда" (Дзярж. Выдав. М.-Л. 1928). Кніга прадстаўляе сабою „гістарычна-краязнаўчы сэмінары"

(тэмы, бібліографія да іх і пытальнікі) з вялікім уступным артыкулам аўтара. Краёвы прынцып у расійскім культуразнаўстве быў намечаны Н. К. Піксанавым яшчэ ў 1913 годзе ў кнізе „Три эпохи“, потым быў разьвіты ў наступных яго дакладах і працах, асабліва ў кнізе „Два века русской литературы“ (М. 1923). Кніга „Областные культурные гнезда“ цалком ужо прысьвечана данаму пытаньню.

Ва ўступным артыкуле пад загалоўкам „Областные культурные гнезда. Введение в их изучение“ аўтар дае нарыс краёвых зьяў (дэцэнтралізацыі) у заходня-эўрапейскіх культурах і потым пераходзіць да характарыстыкі краёвай дыфэрэнцыяцыі ў культурах вялікарускай, украінскай і беларускай. Падрабязна апісваючы расійскія культурныя цэнтры, аб'яднаньні і гнёзды, аўтар усебакова высьвятляе іх значэньне як наогул для вывучэньня гісторыі культуры ў розных адносінах, так у прыватнасьці для вывучэньня мастацтва і літаратуры ў іх краёвых праявах і match разнастайнасьцях. Шырокая асьвядомленасьць аўтара ў літаратуры данага пытаньня і яго ўласнае вывучэньне гісторыі асобных культурных гнёзд вельмі слушна кажуць чытачу аб неабходнасьці краязнаўчага падыходу да вывучэньня культуры наогул і літаратуры прыватна. Увязка краязнаўства з гістарычна-літаратурнымі дасьледваньнямі становіцца зусім відавочнай. Цэлы шэраг тэм з бібліографіяй і пытальнікамі, прысьвечаных асобным культурным цэнтрам (краям, гнёздам), даюць чытачу неабходны мэтодычны апарат для навукова-дасьледчай працы ў даным напрамку.

Адна з тэм прысьвечана беларускай культуры і літаратуры („Белорусская культура и литература“, стр. 101-102). Гэтая тэма, бязумоўна, ня вычэрпвае задачы краёвага падыходу да вывучэньня беларускай культуры, але яна, аднак, гаворыць за тое, што гэты падыход трэба зрабіць з належнаю ўвагаю, паглыблена і падрабязна. Кніга Н. К. Піксанава для гэтага можа служыць вельмі добрым мэтодолёга-мэтодычным дапаможнікам. І такое краёвае вывучэньне беларускай культуры ня толькі дасьць многа каштоўнага для агульнага яе вывучэньня, але і выявіць шэраг краёвых зьяў у гісторыі беларускай літаратуры і тым самым узбагаціць новымі фактамі і новым асьвятленьнем гісторыю паасобных літаратурных напрамкаў, груповак, асобных беларускіх пісьменьнікаў і іх твораў. У гэтым пункце праца краязнаўцаў зноў сутыкаецца і вельмі цесна з працай гісторыкаў беларускай літаратуры.

---

**П. В. Харламповіч.**

# Два помнікі ўзаемаадносін Беларусі і Запароскай Сечы ў XVIII ст.*).

### 1. „Сволак“ 1847 году.

Летам 1927 г. у Днепрапятроўску (б. Кацярынаслаўе) нам трапілася быць у гістарычна-археолёгічным музэі (б. імя Пэля). Тутака ў аддзеле запароскага казацтва загадчык музэю проф. Зьм. Ів. Эварніцкі азнаёміў нас з цікавым помнікам Запароскай старажытнасьці, які застаўся ад Менскага курэня і, такім чынам, мае беспасрэдныя адносіны да Беларусі.

*) Артыкул друкуецца з мэтай адчыненьня дыскусіі па закранутым у ім, зусім новым і вельмі цікавым, пытаньні аб „Менскім курэні на Запарожжы“. Рэдакцыя чакае, што на гэты артыкул адзавуцца шырокія колы дасьледчыкаў і больш грунтоўна ўмацуюць думку аўтара аб пэўнай сувязі названага курэня з Менскам-Беларускім. *Рэдакцыя.*

Курэнем (ад слова „курыць“—курная хата—першапачатковая казарма запарожцаў) называлася „курэнная жыхарка“, казарма, якая мела ў даўжыню да 44 арш. і ў шырыню 5 арш., ці 13,5×6 арш., альбо 10×5 арш. Курэнь будаваўся з рубанага і рэзанага дрэва, меў 4 вялікія квадратовыя вокны ў доўгай сьцяне і нізкія дзьверы з паўкруглай перакладзінай у папярэчнай сьцяне. З левага і правага боку дзьвярэй было па адным акне. Курэнь пакрываўся дахам з драніц, у 3 драніцы, над якім падымалася 3 высокія з покрыўкамі „дымары“ ці коміны. Унутры курэня знаходзіўся стол з лаўкамі, па сьценках—нары. Кожны курэнь быў разьлічаны на 30-40 казакоў. У пярэднім куце былі размешчаны абразы, на сьценах зброя. Пад стольлю, на „перамежных“ сьценках працягнут быў „сволок“—бэлька з вырэзанымі крыжамі пасярэдзіне, годам пабудоўлі курэня і імя курэннага атаманабудаўніка. Курэнь аддзяляўся перамежнай сьцяной ад сенцаў, дзе ўладжвалася „кабыця“—вогнішча для варкі стравы.

Пры курэнях часам будаваліся і прыватныя хаткі вайсковага старшыні, якія з надворнага боку не адрозьніваліся ад курэняў па велічыні. Унутраным аздабленьнем яны былі падобны да хат сучасных заможных украінскіх сялян [1]).

Як вядома, Запароская Сеч, у выпадку розных акалічнасьцяй, некалькі разоў мяняла сваё месцапалажэньне. Апошняя (восьмая) Сеч—Новая ці Пітпіленская, якая ўзьнікла ў 1734 г., існавала да 1775 г., г. зн. да самага зьнішчэньня Сечы. На месцы Сечы ў сучасны момант знаходзіцца с. Пакроўскае.

Тутака яшчэ да 90-х гадоў мінулага сталецьця стаялі хаты, якія былі пабудованы запарожцамі, і, паміж іншых, у селяніна Мітрафана Чорнага (прозьвішча яго Папуша) захоўваўся „Сволок“ (бэлька) ад хаты, пабудаванай выдатным сябрам Менскага курэня Васілём Рыгоравічам у 1747 г. Гэтая хата стаяла паблізу запароскай царквы. Паводле апавяданьняў старых, у ёй зьбіраліся запарожцы для рады [2]).

Гэты надзвычайна цікавы помнік беларуска-запароскіх узаемаадносін выяўляе з сябе сасновы сухі, вельмі моцны брус, даўжынёю ў 4,8 мэтры, і 0,48 м. з бакоў, якія ўстаўляліся ў зруб. Шырыня бэлькі 0,26 мэтры, а вышыня—0,22 м. бэлька вымалевана ў блакітны колер. Уздоўж усёй бэлькі з шырокага боку цягнецца выразаны ў два радкі надпіс. Ён падзяляецца пасярэдзіне крыжам, з звычайнымі дэталямі—кап‘ём, троцьвік і інш., які абкружаны вянком; ад вянка адыходзіць у бакі надпісу квятковы орнамэнт.

З канцоў бэлькі, па самых краёх знаходзяцца невялічкія кругі з упісанымі ў сярэдзіне шасьціканечнымі зоркамі; перад надпісам і ў канцы яго—квятковы орнамэнт.

Надпіс выразны, зроблены славянскімі літарамі з цітламі і чытаецца так—у першым радку: „Благословеніем отца изволеніем сіна исодѣйствіем (надпіс тут перапыняецца крыжам, а далей): стаго дх҃а аминь 1747 года“; у другім радку: „Созданы домъ сей а коштом пана Васілія Грігоріевича (крыж) знатного товарища куреня Менского, мца августа 13“ [3]).

З. другога боку бэлькі (вышыня), пасярэдзіне выразаны вялікі круг

---

[1]) Д. И. Эварницкій. Исторія запорожских казаков. Спб. 1892, т. I. 200-202.

[2]) Д. И. Эварницкій. Запорожье в остатках старины и преданиях народа. Спб. 1888. т. II, 190.

[3]) Малюнак гэтага „Сволака“ зьмешчаны ў працы З. І. Эварніцкага „Запорожье в остатках старины и преданиях народа“. (Тр. 1888, II паміж стар. 44-45).

з орнамэнтам у краткі, на бакох якога на некаторай адлегласьці знаходзяцца два меншыя кругі з зоркамі ў сярэдзіне.

З надпісу, які знаходзіцца на гэтай бэльцы („сволаку") відаць, што будаўнікам хаты Менскага курэню быў „знатны таварыш", г. зн. асоба, якая выбіралася казакамі на тую ці іншую курэнную або агульнавайсковую, ганаровую і адказную пасаду.

Гэтай асобай быў Васіль Грыгоравіч Сыч[1]) кашовы атаман (галоўны начальнік) усяго войска запароскага[2]) ў 1745-1746 і 1753 г.г.[3]).

Вось які помнік захаваўся да нашага часу ад беларуска-запароскіх узаемаадносін паловы XVIII сталецьця на Украіне.

## II. Азяранскае эвангельле.

Другім помнікам, які блізка злучае б. Запарожжа з Беларусьсю, зьяўляецца надпіс на эвангельлі, якое захоўваецца ў Менскім Дзяржаўным Музэі. Яно атрымана ў 1924 г. пры дапамозе слухача Вышэйшых Курсаў Беларусазнаўства Д. Л. Бажкова, з царквы с. Азяраны, Рагачэўскага раёну, Бабруйскай акругі (б. Рагачэўскага павету).

Эвангельле гэтае ў аркуш, маскоўскага друку, 1758 г., мае на адвароце выходнага ліста наступны надпіс скорапісам таго часу:

„1761 года октября 6-го, священная сія книга привезена з Сечи Запорожской, надана до катэдры Могилевской тамошними славного войска запорожского козаками, а именно Куреня Шкуринского Атаманомъ Павлом Флоровым з товарищи, для всегдашнего за них богомольствованія".

Аправа эвангельля—навейшага часу: дошкі, абцягнутыя аксамітам малінавага колеру, з бляшанымі пазалочанымі штампованымі аздобамі.

Гэты помнік яскрава сьведчыць, што паміж Запароскай Сеччу і Магілеўшчынай існавала сувязь. З аднаго боку гэтую сувязь падтрымлівалі самі запарожцы, дзеля чаго лічылі для сябе прыемным і неабходным набыць і падараваць эвангельле ў катадральны магілеўскі спаскі сабор. Мажліва, што гэты падарунак быў зроблены, каб моральна падтрымаць беларусоў праваслаўнае епархіі, якія пераажывалі вельмі дрэнныя часы. З другога боку,—хаця мы ня ведаем, хто такі быў па нацыянальнасьці атаман Павал Флораў[4]) і яго таварышы,—але пакольк ў Сечы было шмат беларусоў, якія маглі знаходзіцца ня толькі ў Менскім курэні,—мажліва, што яны былі параскіданы і па іншых курэнях, напрыклад, былі і ў курэні Шкурынскім,—яны былі беларусы. Уцекачы з бацькаўшчыны не забывалі яе, цікавіліся тым, што робіцца там, і, бязумоўна, трымалі сувязь з Беларусьсю.

Даравальнікі, верагодна, былі беларусамі, якія пакінулі родны край з прычыны розных неспагадных акалічнасьцяй.

---

[1]) З докумэнтаў „Сказки" Міргародзкага абознага Фёдара Маскова ад 13 мая 1755 г. відаць, што апошні прымаў удзел у разьвязаньні прэтэнзій крымскіх татар, якія былі абрабаваны гайдамакамі ў запароскіх месцах. У гэтай гісторыі прыняў удзел і кашавы атаман Васіль Сыч („понѣже сѣчи запорожской тогда бывший кошевой атаман Василь Сичъ найденъ во взятии от гайдамаковъ разграбленныхъ въ техъ татаръ нѣкоторыхъ дорогихъ вещей и денегъ приличенъ..."). Васіль Сыч быў накіраваны ў Кіеўскую губэрскую канцэлярыю, дзе і памёр. Эварницкій, Д. И.—Сборник матерьялов для истории запор. казаков. Пр. 1888. XLVI, 117.

[2]) Д. И. Эварницкій. История запорожскихъ казаков. Спб. 1892. I, 171.

[3]) А. Скальковскій. История Новой Сечи, или последняго коша запорожскаго. Одесса. 1841. I, приложение, № 21.

[4]) Ці не зьяўляецца гэты Павал Флораў тэй асобай, аб якой упамінаецца ў „Наказе" Кацярыны II для выбарных 1766 г., а таксама ў кошэвым рапарце, што быў падан гр. Румянцаву-Задунайскаму ў 1769 г., ад вайсковых старшынь пад імем Паўла Флорава Галаватага?—Скальковскій, А.—История Новой Сечи или последнего коша запорожского. Одесса, 1841, I, 492, 415.

Калі і пры якіх умовах гэтае эвангельле папала з Магілева ў Азяранскую царкву даных няма.

Гэты другі помнік, 1761 году, 6 кастрычніка, таксама як і першы 13 жніўня 1747 г. мае вялікую гістарычную каштоўнасьць, паколькі адчыняе зусім нераспрацаваную старонку ў гісторыі Беларусі.

Лічым неабходным у некалькіх словах спыніцца на пытаньні аб узаемаадносінах паміж Беларусьсю і Запароскай Сеччу і аб Менскім курэні Запароскага войска.

### III. Агульныя заўвагі да гісторыі Менскага курэня ў Запароскай Сечы.

Экономічны, нацыянальны і рэлігійны ўціск з боку паноў, улады і ксяндзоў часта даводзіў насельнікаў Беларусі і Украіны, якія знаходзіліся пад Польшчай, да вялізных крывавых паўстаньняў.

Можна сьмела сказаць, што галоўным рухавіком—і часта пачынальнікам паўстаньняў—было казацтва. Казацтва, якое ўзьнікла дзякуючы цэламу шэрагу розных гістарычных умоў, галоўным чынам—зямельных, экономічных у канцы XV ст., згрупавалася па ніжнім цячэньні Дняпра, за парогамі, дзеля чаго і стала называцца *запароскім войскам.* Утварыўшы з сябе вайсковую грамаду, нешта падобнае да вайсковага ордэну,—звычайна свой лягер, „кош", запарожцы называлі Сеччу, куды з ахвотаю прымалі ўсіх, жадаючых паступіць да іх.

Сеч папаўнялася ўсякім збродам –уцекачамі, злачынцамі, авантурнікамі. Тут супыняліся ўсе тыя, хто лічыў сябе пакрыўджаным на бацькаўшчыне, хто зьбег ад пана, хаваўся ад урадавых чыноўнікаў, хто ратаваўся ад рукі ката, ад турмы. Сюды ішоў, хто змагаўся за сваё існаваньне, хто шукаў раздольля, маладзецтва, здабычы. Тут можна было сустрэць і украінца, і беларуса, і паляка, і літоўца, і татарына, і немца [1]).

Ня гледзячы на свой рознашэрсны соцыяльны і нацыянальны склад, запарожцы, моцна зьвязаныя вайсковымі законамі ў Сечы і асабліва ў паходзе, выяўлялі з сябе поважную вайсковую сілу.

Маючы часта сутычкі з сваімі бліжэйшымі суседзямі—крымскімі татарамі, казакі не задумваліся бязбоязна на чаўнох пераплываць праз Чорнае мора і нападаць на турэцкія берагі, наводзячы страх на ворагаў. Прымаючы ўдзел ва ўсіх народных паўстаньнях супроць польскай улады, запарожцы часта станавіліся пад яе сьцягі дзеля абароны дзяржавы ад агульных ворагаў—татар, турак. Разам з усёй Украінай (у 1654 г.) да Маскоўскай дзяржавы далучыліся і запароскія казакі. Паддаўшыся новай уладзе, абараняючы яе інтарэсы, казакі ўчынялі ёй шмат няпрыемнасьцяй, што, зразумела, выклікала з боку маскоўскай улады ў адносінах да іх цэлы шэраг рэпрэсій. Паступова трацячы сваё значэньне, Сеч Запароская была зьліквідавана ў 1775 г.

У нас, на жаль, адсутнічаюць даныя аб самастойных народных паўстаньнях на Беларусі, аналёгічных украінскім. У час казацкіх паўстаньняў у Беларусі ў значнай колькасьці організаваліся так званыя гайдамацкія загоны—партызанскія казацкія атрады, якія асабліва жорстка распраўляліся з панамі і ксяндзамі [2]).

Трэба думаць, што насельніцтва Беларусі, якое было раскідана па вялізнай тэрыторыі, не заўсёды мела магчымасьць самастойна выступаць супроць прыгнятацеляў, а патрабавала падтрыманьня суседзяў.

---

[1]) Д. И. Эварницкий. История Запорожских козаков. Т. I, Спб., 1892, 182.

[2]) М. О. Коялович. Чтения по истории Западной России. Изд. 4, Спб. 1884, 32.

Так, напрыклад, віцебляне, перад забойствам уніяцкага біскупа Іосафата Кунцэвіча (1623 г.), утайку дагаварыліся з казакамі адносна таго, каб яны, казакі, як будзе забіты Кунцэвіч, паднялі паўстаньне і ўвайшлі-б у Беларусь [1]).

Праўда, казакі не пасьпелі падтрымаць віцеблян, але такі дагавор многа гаворыць аб узаемаадносінах беларусоў і казакоў. І дзеля гэтага ня дзіва, што паміж запароскіх казакоў знаходзіўся не малы лік беларусоў. На ўдзел іх у казацкіх шэрагах паказвае пададзеная назва аднаго з 38 курэняў запароскіх, на якія з няпомных часоў дзялілася Сеч у вайсковых адносінах.

Кожны курэнь меў сваю назву. Звычайна назва гэтая вынікала ад імя атамана-заснавальніка курэня, альбо ад назвы гораду, адкуль вышлі першыя запарожцы, ці ад назвы большасьці казакоў, якія першыя склалі курэнь [2]). Паміж гэтых курэняў быў курэнь „Менскі“ ад назвы гораду Менску, што ясна паказвае на тое, што гэты курэнь складаўся з беларусоў, мажліва, галоўным чынам, з менчукоў.

Колькасьць казакоў у кожным курэні часта, як відаць, мянялася. Так, напрыклад, у Менскім курэні ў 1759 г. налічвалася 611 казакоў, а ў 1769—297 [3]).

У 1756 г. атаманам Менскага курэня быў Фёдар Шкура, вядомы тым, што 8 лістапада 1756 г. сумесна з Ірылеўскім курэнным атаманам Кішэнскім „возмутя казаков (числом до 300 чел.) разных куреней, взяли кошли (якія замянялі літаўры) насилно и в оніе полѣнами бючи собрали раду“ і скінуўшы кашавога атамана Рыгора Фёдарава, абралі кашавым яго, Шкуру. Новы кашавы быў атаманам ня доўгі час. Ужо 17 лістапада вышаў загад гэтмана Кірылы Разумоўскага, якім Шкура быў арыштаваны і накірованы ў Глухаў, у генэральную вайсковую канцэлярыю [4]).

Да гэтага-ж часу належыць і ўспамін аб „писаре Минском“ Петраку Чарняўскім і другім—Данілу Баліцкім, якія былі камандыраваны ў Паланін (павятовая акруга)—першы ў Кадак і другі ў Протаўч [5]).

У наказе „выбранным, по силе ея и. в. манифеста, декабря 14 дня 1766 г., состоявшегося, от всего войска Запорожскаго низового, депутатам: старшинѣ войсковому судьѣ Павлѣ Флорову Головатому, да куренному атаману Мойсѣю Степанову Скапѣ“—прыводзяцца прозьвішчы гэтых дэпутатаў, прычым дэпутатамі ад курэню „Минъского“ зьявіліся: „атаман Юско Шулга, Иван Середа, Андрей Прусенко, Оврам Горкуша і Яцко Решетило“ [6]).

У сьпіску вайсковай старшыны 1769 г. курэнным атаманам Менскага курэню значыцца Даніла Імоус [7]).

Здаецца, гэтымі мізэрнымі данымі амаль што вычэрпваюцца зьвесткі ў літаратуры аб Менскім курэні слаўнага войска запароскага.

---

[1]) Там-жа стар. 228.

[2]) Д. И. Эварницкий. История запорожских казаков. I, Спб. 1892, 199.

[3]) А. Скальковский. История Новой Сечи, или последнего коша запорожского Одесса. 1841. I, 22.

[4]) Д. И. Эварницкий. Сборник материалов для истории запорожских казаков. Спб. 1888. LIX, 142-144.

[5]) А. Скальковский. История Новой Сечи, или последнего Коша запорожского. Одесса. 1841, I, 428.

[6]) Там-жа, 492-513.

[7]) Там-жа, 415-417.

**М. Касьпяровіч.**

# Краязнаўства ў Эстоніі, Латвіі, Літве і Польшчы.

Тэхнічныя дасягненьні і мэтоды краязнаўства ў эўропейскіх дзяржавах цікавяць беларускі краязнаўчы рух. Першапачатковыя весткі пра гэта ўваходзяць нават у праграму мэтодычнай краязнаўчай падрыхтоўкі. Таму ня лішне ведаць і пра самы стан краязнаўства ў маладых суседніх буржуазных дзяржавах.

Эстонскае краязнаўства, таксама як фінскае, зрабіла даволі вялікія посьпехі, дзякуючы існаваньню старога унівэрсытэту ў Тарту, навуковы пэрсонал якога сам займаўся дасьледваньнем краю і падрыхтоўваў кадры новых навуковых працаўнікоў. Вынікі працы катэдраў унівэрсытэту, яго габінэтаў і інш. устаноў друкуюцца ў працах унівэрсытэту, а таксама ў іншых навуковых выданьнях. Апрача таго, пры унівэрсытэце працуе шэраг навукова-дасьледчых таварystваў, якія працуюць над чыста навуковымі проблемамі, а таксама ў галіне краязнаўства. Так, акадамічнае географічнае таварыства робіць вялізарную працу папавятовага апісаньня Эстоніі. Ужо выдадзена апісаньне Тартаўскага і Вэрскага паветаў. Канчаецца друкам апісаньне Пэрноўскага павету. Працай таварыства ў гэтай галіне кіруе вядомы профэсар Гранэ. У працы ўкладаньня гэтых усебаковых апісаньняў, якія лічацца аднымі з лепшых у Эўропе, прымаюць удзел і студэнты унівэрсытэту. Скарыстоўваюцца таксама матар'ялы мясцовых краязнаўцаў. Акадэмічнае таварыства роднай мовы заснавана ў 1920 годзе і аб'яднае каля 100 чал. спэцыялістаў, студэнтаў і аматараў. Галоўнаю сваёю задачаю таварыства лічыць вывучэньне эстонскай літаратурнай і народнай мовы. Штогод таварыства камандыруе каля 30 студэнтаў стыпэндыятаў на месяцы два на месцы для зьбіраньня матар'ялаў. Яны правяраюць словы па слоўніку Відэмана і запісваюць новыя словы з магчыма большаю колькасьцю сказаў, у якіх данае слова гаворыцца, а таксама паказваецца месца запісу і інш. даныя. Такіх слоў-картак сабрана ўжо каля 200.000. Ёсьць карта мясцовасьцяй, дзе народныя словы сабраны і дзе яшчэ трэба сабраць. Даную працу мяркуецца скончыць на працягу 10 год, але яна ўжо зроблена на 60 процантаў Адначасна пры дапамозе фонографа адбываецца запіс фольклёру з дыялектолёгічнымі мэтамі, робіцца морфолёгічны і інш. агляд гаворкі для ўсебаковага вывучэньня яе. Таварыства выдае свой часопіс. Акадэмічнае таварыства прыродазнаўства, заснаванае 74 гады назад, мае 276 сяброў і складаецца з сэкцый: орнітолёгічнай, вазёрнай і аховы помнікаў прыроды. У мінулым акадэмічным годзе таварыства мела 14 агульных сходаў з 24 навуковымі дакладамі. Штогод таварыства выдае свае працы ў колькасьці 3-4 кніг па 300-500 старонак. Пад загадам таварыства знаходзяцца два орнітолёгічныя запаведнікі. Мясцовыя аматары зьвязаны пераважна з орнітолёгічнаю сэкцыяй таварыства. Акадэмічнае гістарычнае таварыства выдае свой часопіс 5-6 кніг на год, у якім ёсьць і краязнаўчы матар'ял. Апрача таго, гэтае таварыства выдае эстонскі біографічны слоўнік і давяло яго да літары „м". Эстонскае навуковае акадэмічнае таварыства, якое мае мэтаю вывучэньне Эстоніі ў этнографічным, географічным, гістарычным і інш. стасунках, выдае штогоднік сваіх прац на нямецкай мове, бібліографічны штогоднік і інш. каштоўныя для краязнаўцаў выданьні.

З навукова-дасьледчых таварystваў, ня зьвязаных з унівэрсытэ-

там і выконваючых краязнаўчую працу, асаблівае ўвагі заслугоўвае эстонскае літаратурнае таварыства. Яно заснавана яшчэ ў 1907 годзе і ў сучасны момант налічвае звыш 2.000 сяброў. Пераважная большасьць з іх жыве на мясцох, але таварыства сваіх аддзяленьняў не адчыняе, а мае інстытут упаўнаважных у колькасьці 60, якія зьбіраюць сяброўскія складкі і зьяўляюцца сувязьзю паміж сябрамі таварыства і праўленьнем яго. Апошняе абіраецца агульным сходам сяброў таварыства, на які зьяўляецца ня больш 200-300 чалавек. Навукова-дасьледчая праца таварыства адбываецца ў сэкцыях, сябрамі якіх зьяўляюцца спэцыялістыя. Іншая маса сяброў таварыства не зьяўляецца сябрамі сэкцый, хоць часамі з месц і паступаюць краязнаўчыя матар'ялы. Апрача спэцыялістых, ва ўсіх сэкцыях штогодна працуюць студэнты стыпэндыяты ў колькасьці каля 50 чал. Гістарычная сэкцыя таварыства перакладае розныя крыніцы па гісторыі Эстоніі на эстонскую мову, падрыхтоўвае да друку гістарычны атлас Эстоніі і інш. Сэкцыя мовы выдае слоўнік эстонскай літаратурнай мовы з ортографічнымі мэтамі, першы том якога вышаў другім выданьнем у 1925 г. Яна-ж зьбірала дыялектолёгічны эстонскі матар'ял на мясцох, але гэта праца ў апошні час перайшла ў акадэмічнае таварыства роднай мовы, усе сябры якога зьяўляюцца сябрамі і данай сэкцыі. Такі-ж стан і ў іншых сэкцыях таварыства ў стасунку да іншых акадэмічных таварыстваў. Праца ў сэкцыях і ў апошніх узгадняецца. Так, сэкцыя таварыства па вывучэньні радзімы працуе над па павятовым апісаньнем Эстоніі сумесна з географічным акадэмічным таварыствам. Сэкцыя штомесячнага часопісу таварыства кіруе выданьнем яго. Часопіс выходзіць памерам у 4-5 друкарскіх аркушоў у колькасьці 1500 паасобнікаў. Падпішчыкаў ёсьць каля 500, але часопіс пасьпешна прадаецца комплектамі, якіх за 1918 год, напрыклад, ужо амаль зусім няма ў продажы. Сэкцыя мотываў эстонскіх народных песень сабрала вялізарную колькасьць матар'ялаў на мясцох і цяпер прыступіла да выданьня іх. Першы том канчаецца друкам. Пад кіраўніцтвам профэсара Эйзэна, які працуе за цэлую сэкцыю, адбываецца фольклёрная праца таварыства. Пяць стыпэндыятаў штогодна командыруецца за зьбіраньнем фольклёру, хоць эстонскія колекцыі яго і лічацца доволі поўнымі. Да гэтага часу таварыства выдала каля 100 кніг эстонскага фальклёру ў сыстэматычным парадку. Цяпер выданьнем фольклёру, пераважна народных песень, ведае асабная комісія. Першая кніга яе прац ужо вышла з друку. Яна зьмяшчае каля 12 песень з адменьнікамі іх і ўсебаковым дасьледваньнем іх на 560 стар. Другая частка гэтай кнігі канчаецца друкам. Усяго мяркуецца надрукаваць 20 частак. Бібліографічная камісія таварыства ўкладае бібліографію газэт і часопісаў, прычым расьпісана ўжо 160 часопісаў-комплектаў гадавікоў і ёсьць каля 240.000 картак. Сэкцыя зносін з эстонцамі, якія жывуць за межамі організуе экскурсіі іх у Эстонію. Архіўная камісія ўкладае сьпісы архіву таварыства. Сэкцыя школьнай і народнай літаратуры ня маюць цікавасьці ў краязнаўчым стасунку. Таварыствам выдаецца штогоднік апрача памянёных сэкцыйных выданьняў. Таварыства наладжвае публічныя сходы з markdownрознымі навуковымі аглядамі на іх. Раней такія сходы адбываліся і ў провінцыяльных гарадох Эстоніі.

Усе памянёныя таварыствы разьвіваюць сваю дзейнасьць у навуковым асяродку Эстоніі—Тарту, але ў сталіцы Эстоніі—Таліне ёсьць нямецкая акадэмічнае таварыства і ў горадзе Пэрнове археолёгічнае таварыства, якія выдаюць свае працы на нямецкай мове. Талінскае нямецкае акадэмічнае таварыства заснавалася яшчэ ў 1874 г. і раёнам сваёй дзейнасьці лічыць усю Эстонію. Яно складаецца з сэкцый: пры-

родазнаўства, гісторыі, генэолёгіі, тэхнікі, мастацтва і філёзофіі. У працах таварыства ёсьць шмат краязнаўчых матар'ялаў з мясцовага архіву і інш.

Галоўная мэтэоролёгічная обсэрваторыя ў Тарту мае пад сваім загадам 20 мэтэоролёгічных станцый 2-га разраду, 60 дажджамерных і 100 сьнегамерных пунктаў. Апрача таго, обсэрваторыя выдала фэнолёгічную програму профэсара Фрыша і атрымлівае фэнолёгічныя нагляданьні з 15-20 пунктаў, якім дасылаецца па 2 экз. програмы штогодна. Пры галоўнай управе навук і мастацтваў міністэрства асьветы існуе асобны савет па ахове помнікаў старасьветчыны. Выданы закон аб ахове і фактычнае выкананьне яго ляжыць на мясцовых адміністрацыйных уладах і ўласьніках помнікаў або зямлі, на якой яны знаходзяцца.

Талінскі эстонскі музэй заснаваны ў 1919 годзе талінскім музэйным таварыствам, якому і належыць да гэтага часу, але атрымлівае ўрадавую дапамогу. У 1926 годзе музэй з культурна-гістарычнага і этнографічнага быў рэорганізаваны ў мастацкі з культурна-гістарычным і этнографічным аддзеламі, укладзенымі з пункту гледжаньня асноўнага аддзелу. Краязнаўца ў ім могуць зацікавіць надзвычайна цікавыя помнікі мясцовага мастацтва і колекцыі народнага мастацтва. Апошнія складаюцца амаль з 12.000 рэчаў, з якіх выстаўлена каля 1.500. Асаблівую цікавасьць маюць народныя дываны ў колькасьці 60. Провінцыяльны музэй талінскага нямецкага акадэмічнага таварыства па сутнасьці зьяўляецца сховам, часамі надзвычайна цікавых экспонатаў. Дзякуючы браку сродкаў ён заняпаў, а з прычыны недагляду частка асабліва каштоўных орнітолёгічных экспонатаў зусім сапсавана. Эстонскі народны музэй у Тарту асабліва цікавы сваім этнографічным аддзелам, які налічвае звыш 26.000 рэчаў. Апрача этнографічнага і мастацкага аддзелаў, організуецца гістарычна-археолёгічны аддзел, экспонаты якога знаходзяцца цяпер у іншым памяшканьні. Музэй гэты пачаты зьбіраньнем яшчэ ў 1906 годзе агрыкультурным таварствам, прычым большасьць экспонантаў сабрана сіламі студэнтаў. Цяперака пры музэі ёсьць музэйнае таварыства, якое апякуецца ім. Музэй у гэтым годзе выдаў свой трэці штогоднік, прысьвечаны гісторыі эстонскай вопраткі. Апрача таго, музэй выдаў вельмі каштоўныя монографіі аб эстонскіх рукавіцах і кубках і дзьве сэрыі паштовак, а дырэктар музэю—этнографічны слоўнік. Апрача памянёных, у шмат якіх провінцыяльных гарадох ёсьць мясцовыя музэі. Побач з эстонскімі музэямі неабходна ўспомніць дзяржаўны архіў у Тарту, агульная даўжыня паліц якога налічвае каля 8 кілёмэтраў і талінскі дзяржаўны архіў, выдатны сваімі інкунабуламі і унікумамі з мясцовай гісторыі і, паміж іншым, першаю друкаванаю эстонскаю кнігаю 1528 году.

Дзеля таго, што Эстонія вельмі невялікая краіна, у ёй не адчуваецца вялікай патрэбы організаваньня мясцовых краязнаўчых таварыстваў: кожны можа быць членам агульнага дзяржаўнага таварыства і кожнае такое таварыства можа лёгка прасякнуць ва ўсе куткі Эстоніі.

Латыскае краязнаўства выяўляецца пераважна ў працы цэнтральных навукова-дасьледчых устаноў і організацый у сталіцы Латвіі—Рызе. Мясцовыя краязнаўчыя організацыі выявілі сябе ў значна меншай ступені.

Асяродкам навуковага жыцьця Латвіі зьяўляецца унівэрсытэт. Пры ім існуе шэраг навукова-дасьледчых таварystваў: філёлёгіі, тэолёго-тэософскае, рэлігійна-філёзофскае, Канта, латыскае біолёгічнае, матэматыкі і прыродазнаўства і акадэмічнае социяльных ведаў. Унівэрсытэт заснаваны ў 1919 годзе, таварыствы—у розны час, пачынаючы з 1922 г. Членамі таварыстваў зьяўляюцца пераважна асобы са складу навуко-

вага пэрсоналу унівэрсытэту. Таварыствы маюць свае выданьні і ладзяць сходы з дакладамі і лекцыямі. Толькі некаторыя з іх у сваёй працы дакранаюцца краязнаўства. Галоўная-ж краязнаўчая праца выконваецца габінэтамі і лябораторыямі унівэрсытэту, а таксама студэнтамі пад кіраўніцтвам спэцыялістаў-краязнаўцаў, якія працуюць у навукова-краязнаўчых таварыствах, ня зьвязаных з унівэрсытэтам. Летам студэнты выконваюць шэраг краязнаўчых прац, якія таксама ня зьвязаны з іх працаю ў унівэрсытэце. Але латыскае краязнаўства ў вы-



Рыга. Музэй.

даньнях студэнцкіх аб'яднаньняў, а таксама ў студэнцкай газэце „Студэнт“ амаль не адлюстроўваецца.

Значна больш увагі аддае краязнаўству латыскае таварыства дасьледваньня старажытнасьцяй. Яно заснавана ў 1922 годзе і ў сучасны момант мае звыш 100 членаў. Дзейнасьць яго адбываецца галоўным чынам у штотыднёвых сходах, а таксама выданьнях. З апошніх вельмі цікавым у краязнаўчым стасунку зьяўляецца выданьне аб гарадзішчах Курляндыі.

Даволі старое Рыскае таварыства гісторыі і старажытнасьцяй, заснаванае ў 1836 годзе, за час свайго існаваньня дало шэраг каштоўных прац з багатым краязнаўчым матар'ялам. Цяпер яно мае каля 50 членаў. Праца вядзецца і выданьні друкуюцца на нямецкай мове. Пры таварыстве існуе яго гістарычна-археолёгічны так званы Домскі музэй.

Другое нямецкае таварыства—курляндзкае таварыства літаратуры і гісторыі ў Мітаве ў апошні час амаль зусім замерла і мае толькі каля 20 членаў. Як вынік ранейшае працы таварыства пры ім існуе Мітаўскі музэй.

Вялікую будучыню ў краязнаўчым стасунку мае латыскае геаграфічнае таварыства, якім кіруе вядомы географ Лянсман. Ужо цяпер яно дало шэраг каштоўных краязнаўчых прац у сваіх выданьнях.

Але краязнаўчым цэнтрам Латвіі становіцца ўправа па ахове помнікаў старасьветчыны пры міністэрстве асьветы. Управа ўжо фактычна вырасла з сваёй назвы пад кіраўніцтвам краязнаўца віцебляніна,

Ф. М. Азоліна. Заснавана яна ў 1923 годзе і складаецца з 5-ці асоб: 2-х прадстаўнікоў унівэрсытэту, аднаго прадстаўніка акадэміі мастацтваў, аднаго прадстаўніка гістарычнага музэю і старшыні па прызначэньні міністра асьветы. Управа мае мэтаю ахову этнографічных, archэолёгічных, архітэктурных, мастацкіх наогул, архіўных і бібліографічных помнікаў. Управа ўжо склала інвэнтар археолёгічных рэчаў, разьмешчаных у розных музэях. Інвэнтар мае выгляд картотэкі, прычым на кожнай картцы ёсьць малюнак і апісаньне рэчы. Ён сыстэматызуецца па географічным прынцыпе. Другою вялікаю працаю ўправы зьяўляецца зробленая пры дапамозе студэнтаў, праверка месца знаходжаньня археолёгічных помнікаў у 9 паветах (усяго паветаў у Латвіі 20) на прадмет укладаньня археолёгічнай карты Латвіі і выяўленьня правільнасьці тых вестак, якія ёсьць у ўправе аб археолёгічных помніках. Аб розных помніках, патрабуючых аховы, управа сабрала багаты архіўны матар'ял (картографіі, апісаньні і інш.), разьмешчаны па паасобных краёх Латвіі. У шмат якіх мясцох Латвіі ўправа зрабіла археолёгічныя раскопкі ахоўнага характару, бо ўправа мае мэтаю пераважна ахову, а не вывучэньне. Управаю выяўляюцца тыпы помнікаў і будуць укладацца тыполёгічныя карты. Управа выпрацавала інструкцыю для аховы і апісаньня помнікаў, правяла цераз парлямант закон аб ахове помнікаў, а ў 1926 годзе адчыніла пад'аддзел фольклёру, які завецца фольклёрным архівам. Рамонт будынкаў, якія маюць значэньне помнікаў, адбываецца пад наглядам управы. Апошняя ўжо прыступіла да апісаньня будынкаў Гварэнгі, Растрэлі інш., для чаго ўжо ёсьць архіўны матар'ял.

У этнографічным стасунку ўправаю чацьверты год зьбіраюцца матар'ялы па духоўнай і матар'яльнай культуры латыскага народу паводле выпрацаваных ёю анкет і праграм. Латгалія ўжо абсьледвана цалком; па матар'ялах абсьледваньня можна напісаць этнографічны агляд латыскага насяленьня Латгаліі, якое складае там меншасьць. Управаю распачата праца па організаваньні музэю пад адкрытым небам і ўжо намечаны адпаведныя будынкі для гэтага. Фольклёрны архіў пад кіраўніцтвам А. Бэрзкальнэ зрабіў вялізную працу па зьбіраньні і клясыфікаваньні латыскага фольклёру. Да пачатку прац архіву шмат хто думаў, што амаль увесь латыскі фольклёр сабраны Баронам і выданы расійскай акадэміяй навук пад вядомаю назваю латыскіх дайн. Паміж тым, архіў выявіў, што на вялікіх тэрыторыях Латвіі зьбіраньне фольклёру яшчэ зусім не адбывалася, хоць там ёсьць багатыя запасы яго. Цяпер архіў мае 549 зьбіральнікаў фольклёру на мясцох з мясцовай інтэлігенцыі: настаўнікаў, лясьнічых, вучняў і інш. Сыстэматызацыя адбываецца ў самым архіве 6 супрацоўніцамі па сыстэме проф. Андэрсона. Апрача гэтай працы, архіў пачаў укладаць слоўнік да латыскіх песень (дайнаў). Для зьбіраньня сваіх матар'ялаў управа організуе экспэдыцыі, у якіх прымалі ўдзел студэнты філёлёгічнага і архітэктурнага факультэтаў унівэрсытэту, акадэміі мастацтваў і настаўніцкага інстытуту, прычым апошнія выявілі сябе найлепшымі працаўнікамі. Пашыраючы кола сваіх працаўнікоў на мясцох і кола заданьняў управы, Ф. М. Азолін стаіць перад задачаю рэорганізацыі ўправы ў дзяржаўны краязнаўчы цэнтр, што спатыкае спачуваньне міністра асьветы, вядомага поэта Я. Райніса.

Нацыяльны музэй у Рызе вельмі цікавы для краязнаўцы сваім этнографічным аддзелам з самымі markнастайнымі колекцыямі. Дзяржаўны гістарычны музэй заснаваны латыскім таварыствам горада Рыгі каля 20 год назад. У гістарычна-археолёгічным аддзеле музэю ёсьць каля 2.000 рэчаў, у этнографічным—каля 20.000. Музэй мае

двох працаўнікоў па зьбіраньні экспонатаў. Вялікія сумы на зьбіраньне экспонатаў для музэю дае ўправа па ахове помнікаў старасьветчыны, якая таксама і сама перадае ў музэй шмат розных экспонатаў. Педагогічны музэй міністэрства народнай асьветы мае пэўны краязнаўчы ўхіл, бо ў школах выкладаецца асобны прадмет—радзімазнаўства, а ў пэдагогічных навучальных установах—мэтодыка радзімазнаўства. Гэты музэй укладае рухомы аддзел для абслугоўваньня провінцый. У рыскай гарадзкой бібліотэцы побач з цэлым шэрагам унікумаў ёсьць тэксты гандлёвых дагавораў Рыгі са Смаленскам, першая кніга на латыскай мове, якая належыць да 1586 году і інш. каштоўныя краёвыя помнікі, якія надзвычайна цікавы для кожнага краязнаўцы.

Дзяржаўная друкарня выдае часопіс „Латыскі Орнамэнт“, дзе большасьць матар'ялаў маюць краёвы характар.

Літоўскае краязнаўства значна слабейшае і маладзейшае, чым у Эстоніі і Латвіі. Затое бліжэйшыя пэрспэктывы разьвіцьця яго значна больш спрыяючыя. Гэта залежыць галоўным чынам ад таго, што ў Літве самыя розныя пласты насяленьня імкнуцца прымаць удзел у краязнаўчай працы ў большай меры, чым у суседзяў Літвы, дзе краязнаўства замыкаецца ў больш вузкіх колах спэцыялістых і аматараў. Праўда, гэты ўдзел у краязнаўчай працы розных колаў насяленьня пашыраецца паволі з прычын адсутнасьці сталых краязнаўчых традыцый.

У Літве ў сучасны момант ёсьць дзьве вышэйшыя школы: унівэрсытэт у Коўне і сельска-гаспадарчая акадэмія ў Датнове. Літоўскі дзяржаўны унівэрсытэт зьяўляецца ўстановаю ня толькі навучальнаю, але і навукова-дасьледчаю, бо пры ім існуе цэлы шэраг навуковых таварystваў. Апрача таго, навукова-дасьледчая праца унівэрсытэту робіцца галоўным чынам габінэтамі, лябораторыямі і інш. установамі яго. Кожны факультэт выдае свае працы выпускамі або паасобнымі кнігамі. Выданьне прац—як і дасьледчыя экспэдыцыі катэдраў унівэрсытэту адбываюцца пераважна пры ўдзеле навуковых таварыстваў, якія існуюць пры факультэтах.

Так, пры гуманітарным факультэце унівэрсытэту з посьпехам працуюць таварыствы: навуковае таварыства гісторыі, літваністыкі і філёзофіі, таварыства вывучэньня тэатральнай справы. Абодвы яны маюць музэі і абодвы зьмяшчаюць свае працы ў часопісе „Народ і Слова“ і „Працах гуманітарнага факультэту“. Першы орган зьяўляецца навукова-популярным часопісам і ў ім прымаюць удзел мясцовыя працаўнікі, студэнты і іншыя побач са спэцыялістамі. „Працы гумінатарнага факультэту“ чыста навуковае выданьне, у якім супрацоўнічае амаль выключна профэсура; часопіс асьвятляе проблемы агульна-навуковага характару не дакранаючыся спэцыяльна літоўскіх. „Народ і Слова“ вышаў у колькасьці 4-х томаў, „Працы“ ў колькасьці 3-х томаў. Таварыства разам з факультэтам за ўвесь час свайго існаваньня наладзіла шэраг сходаў з дакладамі і лекцыямі, а таксама організавала некалькі экспэдыцый у паасобныя краіны Літвы. Пры рэдакцыі „Народ і Слова“ знаходзіцца цэнтр зьбіраньня літоўскага фольклёру. У зьбіраньні прымаюць удзел профэсары, студэнты і мясцовая інтэлігенцыя: запісана каля 12.000 песень, 3.000 казак і 20.000 павер'яў. Павер'і адносна жывёл, апрача таго, зьбіраюцца студэнтамі прыродазнаўчага факультэту. Таварыствам праведзена вялікая праца ў справе ўпарадкаваньня слоў-картак Бугі, Вірылюнаса, Дабушыса і інш. і запісы новых слоў для слоўніка літоўскай мовы. Усяго ёсьць звыш 800.000 слоў-картак. Падтрыхтавана да друку частка слоўніка на „а“ і „б“ і выдадзена два сшыткі яго. На далейшае друкаваньне не хапае

сродкаў. У таварыстве ёсьць матар'ялы па літоўскай дыялектолёгіі і програма для зьбіраньня іх. Апрача яе, на месцы пасылаюцца нявялікія анкеткі—лісткі па дыялектолёгіі, адказаў на якія ўжо атрымана каля 20.000.

Пры прыродазнаўча-матэматычным факультэце працуе таварыства дасьледваньня прыроды. Яно выявіла даволі жывую дзейнасьць арганізаваньнем дакладаў, лекцый і экспэдыцый. Вынікі прац таварыства маюць быць надрукованы ў спэцыяльным выданьні. Факультэт выдае свае працы асобна. Яно мае мэтаю распрацоўку навукова-тэхнічных пытаньняў, пераважна зьвязаных з тэрыторыяй Літвы. Вялікія дасягненьні гэтае таварыства мае ў галіне распрацоўкі пытаньняў аб аднаўленьні гарадоў і прамысловасьці па вывучэньні будаўнічых матар'ялаў, скарыстаньня вадзяной сілы, торфараспрацовак і г. д. Своеасаблівую ўласьцівасьцю гэтага таварыства зьяўляецца рэзка-практычны характар яго дзейнасьці дасьледваньня прыроды.

Пры тэхнічным факультэце існуе літоўскае тэхнічнае таварыства. Яно мае 150 членаў і разам з факультэтам выдае часопіс „тэхніка".

Урэшце, пры мэдычным і экономічна-юрыдычным факультэтах працуюць мэдычнае і юрыдычнае таварыствы. Другое, праўда, амаль незалежна ад факультэту. Дзейнасьць гэтых таварыстваў носіць ужо больш тэорэтычна-навуковы характар. Літоўскае мэдычнае таварыства выдае свой орган „Мэдыцына".

Гаворачы аб навукова-дасьледчай працы, зьвязанай з літоўскім унівэрсытэтам, неабходна ўспомніць прыродна-дасьледчую станцыю і батанічны сад.

Прыродна-даследчая станцыя заснавана ў Коўні ў 1919 годзе міністэрствам земляробства; у 1922 годзе яна перайшла пад загад міністэрства асьветы і ў тым-жа годзе—пад загад унівэрсытэту. Асноўная задача станцыі—дасьледваньне літоўскай фаўны. За час свайго існаваньня станцыя сабрала шмат даволі багатых колекцый, асабліва орнітолёгічных і энтомолёгічных, а таксама рыб. Пераважная большасьць матар'ялаў належыць да тэрыторыі Літвы. Літоўскі батанічны сад, заснаваны ў 1922 годзе і ў ім шмат працаваў вядомы вучоны Рэгель. Сад адлюстроўвае пераважна флёру Літвы, але мае і вялікі лік цяпліц з чужаземнымі расьлінамі. У садзе зварачваюць на сябе ўвагу няжывы гэрбары, фітопатолёгічны гэрбары і гэрбары лекавых расьлін.

Студэнты літоўскага унівэрсытэту прымаюць параўнальна вялікі ўдзел у краязнаўчай працы. Большасьць іх аб'яднаньняў побач з іншымі задачамі ставіць і працу зьбіраньня краязнаўчых матар'ялаў і апрацоўкі іх. У сувязі з гэтым пры такіх аб'яднаньнях існуюць архівы і музэі, але часамі сабраныя матар'ялы перадаюцца унівэрсытэту. Больш актыўным у краязняўчым стасунку зьяўляюцца корпорацыі „Юнай Літвы" і „Будучых Надзей". Першая з іх мае падобныя да сябе організацыі ў сярэдніх школах і на вёсцы. Аб'яднаньні студэнтаў выдаюць свае часопісы, але мясцовы край адлюстроўваецца ў іх мала.

З навуковых таварыстваў, ня зьвязаных з унівэрсытэтам, трэба ўспомніць аб літоўскім таварыстве краязнаўства і літоўскім мастацкім таварыстве.

Літоўскае таварыства краязнаўства заснавалася нядаўна і мае каля 100 членаў. Яно займаецца зьбіраньнем матар'ялаў з галіны матар'яльнай і духоўнай культуры літоўскага народу, а таксама ўсебаковым вывучэньнем Літвы наогул. Геофізычная сэкцыя таварыства робіць рэкогносцыровачнае абсьледваньне вазёр Літвы. Распачала працу сэкцыя батанікі і біолёгіі. На мясцох таварыства пакуль што членаў ня мае, але ў Шаўлях працуе падобнае таварыства краязнаўства. Літоўскае таварыства краязнаўства ўжо організавала шэраг наву-

ковых сходаў і экспэдыцый. Вынікі маюць быць апублікаваны ў спэцыяльных выданьнях таварыства. Нельга не адзначыць вялізнай працы па літоўскай этнографіі, якую робіць у таварыстве проф. Вольтэрыс са сваімі студэнтамі.

Літоўскае мастацкае таварыства заснавана ў 1907 годзе і да гэтага часу працуе пад кіраўніцтвам выдатнага організатара-мастака Жмудзінавічаса. Яно налічвае 216 членаў і выдае каталёгі, монографіі




Слуцкі пояс з колекцыі галерэі імя Чурлёніса ў Коўне.

і інш. выданьні, а таксама організуе бязупынны шэраг выставак у сваім салёне. Члены таварыства паказваюць у сваіх творах літоўскую прыроду і побыт; апрача таго, таварыства сабрала вельмі багатыя колекцыі па народным мастацтве, пераважна так званых літоўскіх крыжоў, а таксама тканін у рэчах і фотографіях і выдала вялікую моногрфію аб крыжох. У гэтым годзе таварыства організавала чарговую выстаўку літоўскага народнага мастацтва, на якой выгодна вылучаліся 2 статуэткі чарцей, паяскі, тканіны і інш. Паміж іншым заслугоўвала





ўвагі спроба маладога мастатка Ясінусаса даць узоры новай кампозыцыі орнамэнту ў народных паяскох, якіх ён даў на выстаўку звыш 100. На гэтай выстаўцы было таксама экспанавана два вялізарных альбомы фотографій літоўскіх крыжоў.

У сталіцы Літвы—Коўне існуюць 4 музэі: гарадзкі, культурнагістарычны, мастацкая галярэя імя Чурлёніса, ваенна-гістарычны і гандлёва-прамысловы, а таксама дзяржаўная бібліотэка, якая мае 10 аддзяленьняў у провінцыяльных гарадох Літвы. Ваенна-гістарычны музэй зьмяшчаецца ў будынку былой царквы, складаецца амаль выключна з экспонатаў апошняе вайны за незалежнасьць Літвы і асаблівай цікавасьці ня мае. Гандлёва-прамысловы музэй па сутнасьці зьяўлецца таварным. Гарадзкі культурна-гістарычны музэй, апрача аддзелаў нумізматыкі і археолёгіі, мае невялікі яўрэйскі аддзел, колекцыю народнага мастацтва, карціны старых майстроў і інш. Мастацкая галярэя імя Чурлёніса мае ў сваёй аснове працы апошняга ў колькасьці 217 і, апрача іх, рэчы сучаснага літоўскага мастацтва ў колькасьці 155, а таксама асабліва цікавыя ў краязнаўчым стасунку колекцыі народнага мастацтва ў колькасьці звыш 7.000 рэчаў. Падобна традыцыі літоўскага мастацкага таварыства галярэя наладжвае розныя выстаўкі. Так, у гэтым годзе адбылася надзвычайна цікавая выстаўка літоўскага народнага лубка, першы ўзор якога экспанаваўся з датаю—1710 г. На гэтай выстаўцы быў добра прадстаўлены літоўскі каляровы дрэварыт. Неабходна адзначыць таксама вельмі цікавую колекцыю беларускіх слуцкіх паясоў, якая зьмяшчаецца ў гэтай галярэі.

На мясцох у Літве ёсьць краязнаўчыя організацыі, якім нават давалася дзяржаўная грашовая дапамога, прыпыненая ў апошнія часы. Вялікую краязнаўчую працу робяць розныя асьветныя організацыі і гурткі моладзі. З апошніх сваёй актыўнасьцю ў краязнаўчым стасунку вылучаюцца гурткі „Вясны“ і „Саюзу Моладзі“, якія налічваюць каля 5.000 членаў.

У школах навучаньне вядзецца на аснове радзімазнаўства і выкладаецца нават асобны прадмет, які так называецца. Ва ўсіх пэдагогічных навучальных установах выкладаецца мэтодыка радзімазнаўства.

Галоўнаю хібаю літоўскага краязнаўства зьяўляецца адсутнасьць дзяржаўнага рэспубліканскага краязнаўчага цэнтру, які-б аб‘яднаў і каардынаваў рознастайную краязнаўчую працу ў Літве.

Польскае краязнаўства ўжо больш 20 год выяўляецца ў дзейнасьці польскага таварыства краязнаўства. Гэта дае некаторае права пры азнаямленьні з польскім краязнаўствам зварачаць меншую ўвагу на дзейнасьць розных навукова-дасьледчых устаноў і організацый у галіне краязнаўства. Дзеля таго, што навуковае дасьледваньне Польшчы вядзецца гэтымі навуковымі інстытуцыямі, польскае таварыства краязнаўства аб‘ядна́е і абслугоўвае пераважна аматараў. Характар яго дзейнасьці даволі рознастайны, але ў большай меры культурнагістарычны. Вялікую работу таварыства выконвае ў галіне папулярызацыі ідэй краязнаўства і вестак аб краі.

Таварыства заснавана ў 1906 годзе і за час ад заснаваньня да сусьветнай вайны зрабіла надзвычайна вялікую працу ў справе аб‘яднаньня мясцовых краязнаўцаў і ў справе краязнаўства наогул. Перад пачаткам вайны таварыства мела 30 аддзяленьняў у Польшы, якія ўмацаваліся організацыйна і вялі сыстэматычную працу. Усіх членаў тады было 5.722. На дакладах таварыства прысутнічала на працягу аднаго перадваеннага году 10.822 ч., а ў экскурсіях прымала ўдзел 5.261 чал. У розных гарадох Польшчы таварыства організавала 15 краёвых музэяў.

Час з 1914 да 1921 году быў для польскага таварыства вельмі цяжкім. Новы кругабег разьвіцьця дзейнасьці таварыства пачаўся пасьля вайны, у 1921 годзе. На заваяваных землях Заходняе Украіны і Заходняе Беларусі таварыства заснавала новыя аддзяленьні. Значна ўзмацнілася выдавецкая, популярызацыйная і экскурсійная праца. Таварыства ў апошні час складалася з 36 аддзяленьняў з агульнаю колькасьцю членаў каля 6.000. Аддзяленьні на заваяваных землях, дзякуючы свайму полёнізатарскаму характару, маюць невялікі лік членаў і асабліва багатай дзейнасьці ня выявілі. Гэта віцаць хоць-бы з таго, што пры павялічэньні колькасьці аддзяленьняў амаль не павялічыўся лік членаў таварыства. Аддзелы польскага таварыства краязнаўства на тэрыторыі ўласна Польшчы выканалі вялізарную працу ў справе організаваньня мясцовых музэяў, будаваньня экскурсійных дамоў і разьвіцьця экскурсійнай справы наогул, зьбіраньня фотографічных матар'ялаў і інш. За дваццаць год імі організавана каля 1.900 лекцый і каля 2.320 экскурсій.

У асобе сваёй камісіі па ахове помнікаў прыроды польскае таварыства краязнаўства зрабіла вялікую працу выяўленьня, апісаньня і ўласна аховы помнікаў на тэрыторыі Польшчы. Апрача артыкулаў у сваім органе і інш. выданьнях заслугоўвае ўвагі брошура Колодзейчыка „Помнікі прыроды“.

Орган таварыства—часопіс „Зямля“ выходзіць з 1910 году і зьмяшчае вельмі шмат каштоўных краязнаўчых матар'ялаў і надзвычайна прыгожых фотографій. У мінулым годзе рэдакцыя часопісу констатавала, што „новыя ўмовы політычнага жыцьця стараны патрабуюць рэвізіі сучасных задач і мэтодаў у галіне краязнаўства“. У сувязі з гэтым у часопісе зьявіўся шэраг артыкулаў, прысьвечаных пытаньням школьнага краязнаўства, прыцягненьня ў шэрагі краязнаўцаў шырокіх народных мас, а таксама войску і д. т. п. Польскае краязнаўства не замыкаецца толькі ў межах польскага таварыства краязнаўства. Ёсьць організацыі і па-за ім, якія выяўляюць сваю дзейнасьць. Так, сэкцыя краязнаўства віленскага аддзяленьня саюзу польскіх інжынэраў выдала брошуру аб касьцёле Пятра і Паўла на Антокалі ў Вільні.

Пры польскім таварыстве краязнаўства разьвівае зваю шырокую дзейнасьць саюз гурткоў краязнаўства польскай моладзі. Гэтыя організацыі маладых польскіх краязнаўцаў зьбіраюць багатыя мясцовыя колекцыі ў відзе рэчоўных матар'ялаў, фотографій, апісаньняў і інш., організуюць шматлічныя экскурсіі і популярызуюць ідэі краязнаўства сярод моладзі. Саюз выдае свой часопіс „Арліны лёт“, паасобныя нумары якога ўкладаюцца часьцей за ўсё мясцовымі гурткамі краязнаўства. Такім чынам, праца маладых польскіх краязнаўцаў мае ня толькі вялікае выхаваўчае значэньне, але ў пэўнай меры і навуковае.

Ня менш цікавая краязнаўчая праца выконваецца і ў іншых краінах: Нямеччыне, Чэхаславаччыне і інш.

**С. П. Нікіфаровіч.**

---

# Да пытаньня аб ахове птушак*).

Краязнаўчы рух у нас на Беларусі зараз уступіў у фазу штодзённай практычнай працы. Як вынік гэтае працы заўважваецца пашырэньне сеткі краязнаўчых музэяў (раённых, пры школах), дзе знаходзяць свой адбітак мясцовая прырода, гісторыя краю, яго культура і эконо-

*) Ня з усімі думкамі аўтара рэдакцыя згодна. Рэд.

міка. У сувязі з гэтым набывае значэньне пытаньне аб зборы і папаўненьні музэяў матар'яламі кразнаўчага характару.

Я хачу закрануць пытаньне аб зборы рэчаў, якія характарызуюць мясцовую прыроду. Па гэтым аддзеле ў першую чаргу пажадана мець у раённым ці школьным краязнаўчым музэі моноліты глебы, колекцыі карысных выкапняў, мінэраляў, гэрбары расьлін наогул і лекавых і пустазельля ў прыватнасьці, дэндролёгічныя колекцыі; шасьціножак, асабліва неабходна мець біолёгічныя колекцыі шкоднікаў (саду, гароду, лесу і інш), гэта значыць такія, паводле якіх селянін змог-бы добра пазнаёміцца з жыцьцём шкодніка: чым ён харчуецца, дзе жыве, фазы яго разьвіцьця і як з ім весьці барацьбу. Таксама ў Музэі павінны знайсьці сваё масца матар'ялы, характарызуючыя мясцовы клімат (графікі, дыяграмы), вынікі фэнолёгічных нагляданьняў і іншыя рэчы.

Праглядаючы „Наш Край“ за апошнія часы ўсё часьцей і часьцей прыходзіцца адзначаць збор для музэяў асобнымі краязнаўцамі і школьнымі гурткамі колекцыі птушыных яек. Вось, напрыклад, у „Н. К.“ (№ 1, за 1928 год) у аддзеле хронікі (стар. 58) (Краязнаўчы гурток пры Багушэўскай сямігодцы) чытаем: „Вясной пачата складаньне колекцыі птушыных яец; ужо маюцца яйцы 23 птушак“. На старонцы 56 там-жа чытаем „Сама настаўніца сабрала колекцыю птушыных яек 46 відаў, прычым ад кожнага віду бралася адно гняздо, папаўненьне колекцый працягваецца“. Хоцімскае Раённае Т-ва таксама вядзе зьбіраньне птушыных яек. („Н. К“, № 1 за 1927). Такім чынам, зьбіраньне яек у працы краязнаўчых організацый займае віднае месца. У працу ўцягваюцца як дарослыя краязнаўцы, таксама і вучні школ.

Цікава задаць пытаньне: ці патрэбны колекцыі яек у нашых нізавых краязнаўчых музэях, асабліва ў школьных, з пункту погляду аховы прыроды. Бязумоўна, не. Зьбіраньне яек прыносіць птушкам і нашай сельскай гаспадарцы вялікую шкоду. Азначэньне яек (да якой птушкі належыць) справа ня зусім лёгкая. Трэба быць добра падрыхтаваным у галіне орнітолёгіі, каб без памылкі сказаць, якая птушка палажыла тое ці іншае яйцо. Але, нават, і правільна азначаныя такія колецыі ня маюць ніякай біолёгічнай вартасьці. Адно яйцо яшчэ не дае поўнага ўяўленьня аб жыцьці птушкі. Асабліва недапушчальнымі з пэдагогічнага пункту погляду зьяўляюцца такія зборы вучнямі школ.

Вядомы зоолёг і пэдагог профэс. Кажэўнікаў у сваім артыкуле „Берегите птиц“ („Живая Природа“ № 5, 1926 г.) піша: У гэты час (гнездавы пэрыод) птушка патрабуе поўнае абароны. Ня толькі ня можна страляць, але і нельга браць у іх яйкі і гнёзды, нават ня можна падыходзіць да гнёзд, бо можна спалохаць птушку, якая сядзіць на яйках, і яйкі астынуць. Птушкі вельмі лёгка пакідаюць любую мясцовасьць, калі неасьцярожна да іх адносіцца. Каб гэтага не было, трэба:

1. Зусім спыніць зьбіраньне гнёзд і яек з вучэбнымі мэтамі. Гэтую тэму выкладчыкі павінны выкрэсьліць з заданьняў, якія даюцца вучням, тым болей, што мэтодычнае значэньне такіх колекцый зусім малае ў параўнаньні з многімы іншымі, асабліва колекцыі яек. А гзёзды дзеля вывучэньня тыпаў гнёздабудаўніцтва можна браць, калі яны пустыя ўжо. Нават да жаданьня шляхам вясеньняга паляваньня папоўніць колекцыі якога-колчы дробнага музэю трэба адносіцца з вялікай асьцярогай. А што тычыцца школьных музэяў, ці, інакш кажучы, школьных колекцый, дык там паставіць сабе мэтай прадставіць „мясцовую фаўну“ зусім недапушчальна. Школа ня мае права наладжваць „фаўністычнага музэю“.

Вось што піша аб ахове птушак такі высокааўторытэтны вучоны, як проф. Кажэўнікаў.

Савецкая грамадзкасьць зараз зварачае значную ўвагу на пытаньне аховы прыроды. У гэтай справе вялікая надзея ўскладаецца на нашу працоўную школу. (Глядзі аб гэтым вельмі каштоўны артыкул проф. Фядзюшына А. У.: „Ахова прыроды і школа“. „Н. К.“ № 8-9 1926 г.). Толькі праз школу, праз выхаваньне ў маладога падрастаючага пакаленьня сьвядомых ашчэдных адносін да прыроды магчыма ўнікнуць таго бязьлітаснага зьнішчэньне яе, якое заўважаецца зараз. Заместа непажаданых збораў яек мы павінны весьці ў школах упартую штодзенную асьветную працу па ахове птушак, накіроўваць зацікаўленасьць дзяцей об'ектамі жывой прыроды на шлях ашчэднага захаваньня іх, а ня зьнішчэньня. У школе ёсьць шмат лепшых і больш карысных магчымасьцяй у галіне вывучэньня мясцовых птушак, чымся зьбіраньне яек. Неабходна часьцей праводзіць з вучнямі орнітолёгічныя экскурсіі; вывучаць жыцьцё птушак, іх карысьць у сельскай гаспадарцы; сярод дарослага насельніцтва таксама весьці шырокую популярызацыю карысьці птушак. Узімку ставіць у прышкольных садкох столікі для падкормкі зімуючых птушак. Вясной нарыхтоўваць „дні птушкі“ (як мы робім „дні лесу“), у час якіх як найбольш разьвешваць шпакоўніц, дуплянак; прываблюваць птушак у нашы сады, паркі, каб яны не выглядалі пустэлямі.

Вось гэта будзе запраўдная і карысная краязнаўчая праца па вывучэньні мясцовых птушак.

---

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

М. Лур'е.

## Экономіка Віцебшчыны.

(*Кароткі нарыс паводле даных 1927 г.* *).

### Тэрыторыя і насяленьне.

Тэрыторыя Віцебскай акругі роўна 11362 кв. кіл., а зямельная плошча займае 1132174 гэктараў і разьмяркоўваецца наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| ральлі | 441413 | гэкт. |
| сенажаці | 262826,2 | „ |
| лясоў і хмызьнякоў | 228152,2 | „ |
| сядзібнай зямлі | 34021,5 | „ |
| няпрыгоднай зямлі | 86304,4 | „ |
| вазёр | 19348 | „ |
| дарог і інш. | 31413,1 | „ |

Населеных месц у акрузе—6082, з іх гарадзкіх—6 і сельскіх—6076. Сельсаветаў—132, раёнаў—11, земляробскіх гаспадарак—89735.

Усяго насяленьня паводле перапісу 1926 г. лічыцца 584155 чалавек, што складае 13,6 проц. усяго насяленьня БССР. З паказанага ліку мужчын—284986, жанчын—299169. Гарадзкога насяленьня—105470 чалавек (21,2 проц. усяго гарадзкога насяленьня БССР), з іх 51205 мужчын і 54265 жанчын. Местачковага насяленьня—12132 (8,6 проц. усяго местачковага насяленьня БССР, з іх мужчын—5730 і жанчын—6402.

Вясковага насяленьня—466553 (12,7 проц. усяго вясковага насяленьня БССР), з іх мужчын—228051 і жанчын—238502.

З усіх акруг БССР Віцебская акруга займае па колькасьці ўсяго насяленьня 2-е месца, гарадзкога насяленьня—3-яе месца, местачковага насяленьня—8-ае месца і вясковага насяленьня—3-яе месца.

Па гушчыні насяленьня Віцебская акруга зьяўляецца аднэй з самых населеных. Сярэдняя шчыльнасьць насяленьня ўсяе акругі—51,4 чал. на 1 кв. кіл.

На адзін раён у сярэднім прыходзіцца па акрузе 946,8 кв. кіл. і 40815 чал. (бяз гораду Віцебску), а на адзін сельсавет 86,1 кв. кіл. і 3710 чал. На адну сялянскую гаспадарку, ня прымаючы пад увагу

*) Матар'яламі для артыкулу паслужылі: 1. Аб экономіцы Віцебскай акругі—„Савецкае Будаўніцтва" № 6-7 за 1927 г.; 2. Справаздача Віцебскага Акруговага Камітэту КПБ да 4 акруговай партконфэрэнцыі ў 1927 г. і шэраг апублікаваных і неапублікаваных даных Віцебскага Акруговага Статбюро.

соцыяльныя групы, прыходзіцца ў сярэднім па акрузе: пасяўной плошы—3,3 гэкт., насяленьня—5,3 чал., рабочых коняй—1 і кароў—1,6.

### Сельская гаспадарка.

Зямельная плошча Віцебскае акругі налічвае 1132174 гэктараў. Разьмеркаваньне плошчы па прыгоднасьці зямлі можна ілюстраваць наступнымі данымі за 1917, 1926 і 1927 г.

| Прыгоднасьць зям. плошчы | 1917 проц. | 1926 проц. | 1927 проц. | проц. павялічэньня ці памяншэньня да 1917 г. |
|---|---|---|---|---|
| Ральля і сядзібы | 40,5 | 44 | 45,5 | +5 |
| Сенажаці . . | 22,9 | 23,8 | 23 | +0.1 |
| Лясы і хмызьнякі | 20,2 | 17,2 | 15,8 | —4,4 |
| Няпрыгодная зямля . . . . | 9,1 | 9 | 8,8 | —0,3 |
| Дарогі і інш. . | 7,3 | 6 | 6,9 | —0,4 |

Розьніца між 1917 і 1927 г. дае павялічэньне сядзібнай плошчы і ральлі на 5 проц, сенажацяй на 0,1 проц. і памяншэньне лясоў і хмызьнякоў на 4, 4 проц., няпрыгоднай зямлі на 0,3 проц., дарог і інш. на 0,4 проц. Процантныя суадносіны між ральлёй і сенажацямі сьведчаць аб тым, что ўмовы Віцебскае акругі зьяўляюцца вельмі спрыяючымі для жывёлаводзтва.

Глебы акругі па сваёй якасьці зьяўляюцца малаўраджайнымі.

Дынаміка росту колькасьці сялянскіх гаспадарак можа быць ілюстравана данымі за 1924 г. (год організацыі Віцебскай акр.) і 1927 г.

| 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|---|
| 85919 | 87686 | 88847 | 89735 |

Розьніца між 1924 і 1927 г. г. дае павялічэньне сялянскіх гаспадарак на 4,4 проц.

Паляводзтва. Дынаміка пасяўных культур ілюструецца наступнымі данымі:

| Якія культуры | 1913 г. | 1916 г. | 1920 г. | 1924 г. | 1926 г. | 1927 г. | Процантн. зьмены да 1913 г. | Процантн. зьмены да 1916 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У процантах | | | | | | | |
| Збожжавыя (хлеб) | 80,8 | 79,7 | 89,98 | 81,9 | 77,4 | 72,5 | —8,3 | —7,2 |
| Прапашныя . . | 7,5 | 8,2 | 7,36 | 9,7 | 10,3 | 13,1 | +5,6 | +4,9 |
| Тэхнічныя . . | 6,5 | 6,3 | 2,32 | 3,5 | 5,3 | 6,3 | —0,2 | 0 |
| Травы . . . . | 5,2 | 5,8 | 0,43 | 4,9 | 7 | 8,1 | +2,9 | +2,3 |

Пераважныя культуры Віцебшчыны—збожжавыя і прапашныя.

1920 год дае памяншэньне ўдзельнае вагі ўсіх культур і аднačасны рост збожжавых культур. 1924 год зьяўляецца годам пераломным. Розьніца між 1913 г. і 1927 г. дае памяншэньне збожжавых культур на 8,3 проц. і рост прапашных культур на 5,6 проц. і траў на 2,9 проц.

Працэс зьмяншэньня год за годам удзельнай вагі збожжавых культур і росту прапашных траў сьведчыць аб інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі Віцебшчыны.

Роўналежна росту інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі ідзе павялічэньне ўраджайнасьці параўнальна з даваенным часам:

| Гады | Жыта | Ярыца | Зімовая пшаніца | Яравая пшаніца | Ячмень | Авёс | Бульба | Лён |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У пудох | | | | | | | |
| 1905-1913 | 44,2 | 33 | 37,5 | 35 | 45 | 45,6 | 384,5 | 20,3 |
| 1923-26 | 46 | 36,6 | 46,8 | 44,2 | 43,6 | 49,4 | 414,6 | 18,3 |
| 1927 | 46 | 30 | 48 | 35 | 32 | 37 | 375 | 15 |

У 1926-27 г. г. з прычыны халоднай вясны, заліваў і граду ўраджайнасьць некаторых культур яравога кліну зьменшылася, але агульная ўраджайнасьць жыта і зімовай пшаніцы павялічылася і ў гэтым годзе.

Пераход на шматпольле паводле даных 1924-27 г. г. характарызуецца наступнымі лічбамі:

| Гады | Колькасьць гаспадарак | Колькасьць зямлі |
|---|---|---|
| 1924 | 96 | 728,2 гэкт. |
| 1925 | 1107 | 8380 „ |
| 1926 | 1324 | 10224 „ |
| 1927 | 1800 | 15652 „ |
| Усяго . | 4327 | 34784,2 гэкт. |

З кожным годам расьце лік гаспадарак, якія пераходзяць на шматпольле. Але зразумела, што, ня гледзячы на гэты шпаркі рост, удзельная вага шматпольных гаспадарак ва ўсёй сельскай гаспадарцы Віцебшчыны яшчэ вельмі малая і пераважнай формай яшчэ дагэтуль зьяўляецца трохпалёўка.

Вялікае значэньне для інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі мае дзяржаўная агрыкультурная дапамога насяленьню. Агрономаў на вёсцы ў 1924 г. было 24, а ў 1927 г.—49. Пракатных пунктаў было ў 1926 г.—12, а ў 1927 г.—14. Праведзена сельска-гаспадарчых курсаў у 1926 г.—28, а ў 1917 г.—36.

Насяленьне забясьпечана добраякасным насеньнем: збожжа ў 1926 г. выдадзена 6059 п., а ў 1927 г.—79355 п.; ільнянага семя выдана ў 1926 г. — 4686 п., а ў 1927 г.—8823 п.; розных траў у 1926 г.—6331 п., у 1927 г.—10761 п.; караньплодаў у 1926 г.—205 п., у 1927 г.—300 п.; мінэральных угнаеньняў у 1926 г.—302518 п., у 1927 г.—363666 п.

З кожным годам дзяржаўная агрыкультурная дапамога вёсцы павялічваецца ў досыць значных разьмерах.

**Жывёлаводзтва.** Кармовыя запасы складаюцца са збораў пасяўных траў і сена ад сенажацяй. Параўнальна вялікі лік натуральных сенажацяй дае стымул для разьвіцьця жывёлаводзтва на Віцебшчыне. У тым-жа напрамку дзейнічае і спрыяючая для жывёлаводзтва рыначная кон'юнктура.

Параўнальна з 1924 г. колькасьць жывёлы ў 1927 г. значна ўзрасла: коняй на 21,6 проц., буйнай рагатай жывёлы на 27,5 проц., авечак на 21,5 проц. У значна большай меры мы маем павялічэньне ліку сьвіньняў—на 51 проц.

Колькасьць жывёлы ў 1927 г. параўнальна з 1924 г. можна даць у такіх лічбах:

| | 1924 | | 1926 | | 1927 | | % зьмены да 1924 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць | % | Колькасьць | % | Колькасьць | % | |
| Коняй . . . | 87931 | 100 | 104923 | +19,3 | 107118 | +2,1 | +21,6 |
| Буйнай рагатай жывёлы . . | 168898 | 100 | 207913 | +23,1 | 214971 | +3,4 | +27,5 |
| Сьвіней . . . | 98710 | 100 | 134301 | +35,8 | 149019 | +11,2 | +51 |
| Авечак . . . | 270670 | 100 | 288589 | +6,7 | 328300 | +14 | +21,5 |

Забясьпечанасьць сялянскай гаспадаркі жывёлай можна ілюстраваць табліцай:

| Гады | На 100 гаспадарак прыходзілася | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Коняй | Буйнай раг. жывёлы | Сьвіней | Авечак |
| 1924 . . | 102 | 197 | 115 | 315 |
| 1926 . . | 118 | 234 | 151 | 325 |
| 1927 . . | 119 | 240 | 166 | 365 |

**Сельска-гаспадарчы інвэнтар.** Сельска-гаспадарчы інвэнтар складаецца з досыць простых сельска-гаспадарчых прылад. З прылад для ворыва найбольшае пашырэньне мае адналямешны плуг, дзе-ні-дзе захавалася саха. З больш складаных сельска-гаспадарчых машын найбольш пашыраны малатарні і веялкі. Трактары ёсьць выключна ў савецкіх і колектыўных гаспадарках. Забясьпечаньне сялянскай гаспадаркі сельска-гаспадарчымі машынамі можна бачыць з наступнай табліцы:

| Гады | Плугі | Бароны | Малатарні | Веялкі | Акучнікі | Сеялкі | Убіральныя машыны | Прыводы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1924 | 1100 | 850 | 400 | 150 | — | — | — | — |
| 1925 | 7800 | 2250 | 870 | — | — | — | — | — |
| 1926 | 12094 | 3670 | 1327 | 693 | 92 | 13 | — | — |
| 1927 | 8123 | 1979 | 1467 | 1321 | 221 | 16 | 8 | 375 |

Гэтая табліца характэрна тым, што калі да 1927 г. сялянства купляла галоўным чынам нескладаныя сельска-гаспадарчыя прылады, дык за апошні год за кошт зьмяншэньня закупак такіх прылад сялянства павялічвае набываньне больш складаных сельска-гаспадарчых машын і прылад.

Ступень забясьпечанасьці сялянскай гаспадаркі інвэнтаром ілюструецца наступнымі данымі: лік гаспадарак, пазбаўленых усялякага інвэнтару, складае 8,2 проц., бяз плугоў і сох—10,1 проц., бяз транспартнага інвэнтару—14,2 проц.

**Зямляўпарадкаваньне.** З даўных часоў галоўнай формай зямляўпарадкаваньня акругі былі хутары і адрубныя формы. З гэтае прычыны да сучаснага моманту вельмі павольна прыжываюцца іншыя формы зямляўпарадкаваньня, з 1922 г. да 1927 г. было зямляўпарадкавана 160000 гэктараў і нанова зямлёй надзелена 24348 гэкт., а ўсяго 184348 гэкт. З ліку 160000 гэкт. на хутары і адрубы было зямляўпарадкавана 135761 гэкт. і толькі 24239 гэкт. на прысёлкі.

Да 1927 г. усяго было зямляўпарадкавана 15929 двароў, з іх безьзямельных—3165, малазямельных—5581, сераднякоў—5865 і шматзямельных—1318. За 1927 г. зямляўпарадкавана 4607 двароў, з іх безьзямельных—499, малазямельных—1268, серадняцкіх—2240 і шматзямельных—600 двароў.

Пры зямляўпарадкаваньні бедната карысталася наступнымі ільготамі: 32 проц. усіх зямляўпарадкаваных гаспадарак былі зусім звольнены ад падаткаў, а 5 проц. часткова. Зазумела, што гэтыя льготы цалкам атрымалі бядняцкія гаспадаркі.

**Мэліорацыя.** Віцебская акруга мае да 217400 гэктараў забалочанай зямлі і сенажацяй, якія праз мэліорацыю можна зрабіць прыгоднымі для сельскай гаспадаркі. Усяго ў акрузе існуе 137 мэліорацыйных таварystваў з 6855 сябрамі.

Аб затратах на мэліорацыю гавораць такія лічбы:

| | Мэліорацыя | | | | Культурная тэхніка | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Дзяржаўныя сродкі | Пазыкі | Сродкі насяленьня | Усяго | Дзяржаўныя сродкі | Пазыкі | Сродкі насяленьня | Усяго |
| | У рублёх | | | | | | | |
| 1926 г. | 57620 | 34238 | 54303 | 146161 | 5924 | 8598 | 26460 | 40982 |
| 1927 г. | 65642 | 43422 | 143111 | 252175 | 10851 | 15055 | 28000 | 53906 |
| % росту | +13% | +27% | +163% | +72,6% | +86% | +75% | +0,6% | +31,5% |

Год за годам прыкмячаецца рост дзяржаўных сродкаў, пазык і галоўным чынам сялянскай працы, што ўкладваецца ў мэліорацыю.

**Социяльная структура сельскай гаспадаркі.** Для характарыстыкі дыфэрэнцыяцыі сялянскай гаспадаркі мы даем даныя аб дыфэрэнцыяцыі па пасяўной плошчы, па рабочай жывёле, па буйнай рагатай жывёле і інвэнтары. Дыфэрэнцыяцыю сялянскай гаспадаркі па пасеве можна ілюстраваць данымі за 1924—26 г. За 1927 г. мы маем няпоўныя даныя, але яны таксама падкрэсьліваюць процэс, які наглядаецца за 1924—26 г. (Табл. гл. на наст. стар.)

Такім чынам мы бачым, што год за годам зьмяншаюцца малапасеўныя групы і расьце лік сярэдня-пасеўных груп.

Адкідаючы іншыя мотывы, якія трэба прыняць пад увагу пры разьмеркаваньні сялянства на социяльныя групы, і бяручы за падставу для гэтага толькі пасяўную плошчу, прычым умовімся лічыць бядняц-

| Гады | Да 1 гэкт. проц. | 1-2 гэкт. проц. | 2-3 гэкт. проц. | 3-4 гэкт. проц. | 4 –6 гэкт. проц. | 6 – 8 гэкт. проц. | 8 і больш гэкт. проц. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1924 . . | 21,70 | 37,30 | 21,30 | 10,70 | 6,30 | 1,80 | 0,90 |
| 1925 . . | 14,90 | 32,90 | 26,50 | 14,40 | 8,90 | 1,80 | 0,60 |
| Зьмены . . | — 6,80 | — 4,40 | + 5,20 | + 3,70 | + 2,60 | — | — 0,30 |
| 1926 . . | 8,93 | 30,97 | 29,84 | 15,97 | 11,30 | 2,14 | 0,85 |
| Зьмены . . | — 5,97 | — 1,93 | + 3,34 | + 1,57 | + 2,40 | + 0,34 | + 0,25 |

кай гаспадарку да 1 гэкт., серадняцкай ад 2 да 8 гэкт. і кулацкай ад 8 і больш гэктараў, мы такім чынам зробім вывад, што працэс дыфэрэнцыяцыі ў вёсцы ідзе ў бок зьмяншэньня беднаты пры моцным узросьце сераднякоў і вельмі павольным і нязначным росьце кулацтва

| Групоўка гаспадарак па рабочай жывёле | 1924 г. проц. | 1925 г. | | 1926 г. | | 1927 г. | | Проц. зьмены да 1924 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Проц. | Зьмены | Проц. | Зьмены | Проц. | Зьмены | |
| Без рабочай жывёлы . . . . | 20,30 | 17,30 | — 3 | 15,60 | –1,70 | 13,50 | —2,10 | —6,80 |
| з 1 жывёлай . . | 76,10 | 75 | —1,10 | 75,60 | +0,60 | 77,20 | +1,60 | +1,10 |
| з 2 „ . . | 3,50 | 7,40 | +3,90 | 8,50 | +1,10 | 9 | +0,50 | +5,50 |
| з 3 і больш . . | 0,10 | 0,30 | +0,20 | 0,30 | — | 0,30 | — | +0,20 |

Розьніца між 1924 і 1927 г.г. у зьмяншэньні групы без рабочай жывёлы на 6,8 проц. і ў павялічэньні груп з 1 рабочай жывёлай на 1,1 проц., з 2-ма на 5,5 проц. і з 3-ма і больш на 0,2 проц. Такім чынам, асноўны і значны ўзрост дае серадняцкая група. Як бачым, працэс дыфэрэнцыяцыі па рабочай жывёле такі самы, як і па плошчы пасеву

| Групоўка гаспадарак па буйнай рагатай жывёле | 1924 г. проц. | 1925 г. | | 1926 г. | | 1927 г. | | Проц. зьмены да 1924 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Проц. | Зьмены | Проц. | Зьмены | Проц. | Зьмены | |
| Без кароў . . . | 5,20 | 6,20 | + 1 | 4,97 | —1,23 | 4,70 | —0,27 | —0,50 |
| з 1 каровай . . | 58,70 | 52,30 | —6,40 | 45,93 | —6,37 | 44,90 | —1,03 | --13,80 |
| з 2 каровамі . . | 28,70 | 32,40 | +3,70 | 36,33 | +3,93 | 38,50 | +2,17 | +9,80 |
| з 3 каровамі . . | 6 | 6,90 | +0,90 | 9,91 | +3,01 | 9,40 | –0,51 | +3,40 |
| з 4 і больш . . | 1,40 | 2,20 | +0,80 | 2,86 | +0,66 | 2,50 | —0,36 | +1,10 |

Розьніца між 1924 і 1927 г.г. у зьмяншэньні бескароўных гаспадарак, а таксама гаспадарак з 1 каровай на 14,3 проц. і павялічэньні ліку гаспадарак з 2 каровамі на 9,8 проц., з 3-ма на 3,4 проц., з 4-ма і больш на 1,1 проц. Асноўнае павялічэньне дае група з 2 каровамі—

сераднящкая група. Гаспадаркі з 1 ці 2 каровамі складаюць 43,4 проц. агульнага ліку гаспадарак. Такім чынам, процэс дыфэрэнцыяцыі і ў гэтым напрамку аднолькавы з паказаным раней.

| Забясьпечанасьць гаспадарак інвэнтаром | 1924 | | 1925 | | 1926 | | 1927 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць гаспадарак | проц. | Колькасьць гаспадарак | проц. | Колькасьць гаспадарак | проц. | Колькасьць гаспадарак | проц. |
| Без інвэнтару . . . . . | 9234 | 10,80 | 8954 | 10,20 | 8839 | 9,90 | 7355 | 8,20 |
| Менш ці больш папярэдняга году. . . . . . . | — | — | —290 | —0,60 | —115 | —0,30 | —1484 | —1,70 |
| Бяз плугоў і сох . . . . | 12910 | 15,10 | 11927 | 13,60 | 10721 | 12 | 9059 | 10,10 |
| Менш ці больш папярэдняга году. . . . . . | — | — | —983 | —1,50 | —1206 | —1,60 | —1662 | —1,90 |
| Без калёс. . . . . . . | 20691 | 26,20 | 17013 | 19,40 | 15197 | 17,11 | 13337 | 14,20 |
| Менш ці больш папярэдняга году. . . . . . . | — | — | —3678 | —6,80 | —1816 | —2,29 | —1860 | —2,91 |

Лічбы кажуць аб тым, што безінвэнтарнасьць у акрузе паступова зьнікае.

Калі мы ўлічым усе вышэйпрыведзеныя даныя, дык сялянская гаспадарка па сваіх социяльных групах будзе мець такі выгляд:

| | | Проц. гаспадарак | Плошча пасеву | | Насяленьне | | Рабочыя коні | | Каровы | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Сярэдняя колькасьць гэктараў на 1 гаспад. | Проц. да сумы | На 1 гаспадарку | Проц. да сумы | На 1 гаспадарку | Проц. да сумы | На 1 гаспадарку | Проц. да сумы | |
| Без пасеву | 1926 г. | 1,32 | — | — | 3,7 | 1,1 | 0,1 | 0,1 | 0,5 | 0,5 | Бедната. |
| | 1927 г. | 0,99 | — | — | 3,5 | 0,6 | 0.1 | 0,1 | 0,3 | 0,2 | |
| Проц. зьмены. . | | —0,33 | — | — | — | — 0,5 | — | — | — | —0.3 | |
| Да 2 гэкт. | 1926 г. | 39,39 | 1,55 | 22,30 | 4.5 | 33.30 | 0,7 | 31,2 | 1,2 | 29,6 | |
| | 1927 г. | 28,80 | 1,42 | 13,53 | 4,4 | 23,70 | 0,7 | 21,4 | 1,2 | 20,7 | |
| Проц. зьмены. . | | —10,59 | — | —8,77 | — | —9,60 | — | —9,8 | — | —8,9 | |
| Ад 2 да 6 гэкт. | 1926 г. | 56,34 | 3,36 | 69,50 | 5,8 | 61,5 | 1,1 | 63,5 | 1,9 | 63,9 | Серадняцтва. |
| | 1927 г. | 64,56 | 3,37 | 72,22 | 5,1 | 68,1 | 1 | 69,1 | 1,7 | 68,9 | |
| Проц. зьмены. . | | +8,22 | — | +2,72 | — | +6,6 | — | +5,6 | — | +5 | |
| Ад 6 да 9 гэкт. | 1926 г. | 2,12 | 6,83 | 5,30 | 7,3 | 2,9 | 1,6 | 3,5 | 3,1 | 4 | |
| | 1927 г. | 4,04 | 6,81 | 9,12 | 7 | 5,3 | 1,6 | 6,2 | 2,6 | 6,6 | |
| Проц. зьмены. . | | +1,92 | — | +3,82 | — | +2,4 | — | +2,7 | — | +2,6 | |
| Больш 9 гэкт. | 1926 г. | 0,83 | 9,68 | 2,90 | 7,5 | 1,2 | 1,9 | 1,7 | 4 | 2 | Кулацтва. |
| | 1927 г | 1,61 | 9,55 | 5,13 | 7,6 | 2,3 | 1,9 | 3,2 | 3,6 | 3,6 | |
| Проц. зьмены. . | | +0,78 | — | +2,23 | — | +1,1 | — | +1,5 | — | +1,6 | |
| Не паказваючы груп | 1926 г. | 100% | 2,77 | 100% | 5.3 | 100% | 0,9 | 100% | 1,6 | 100% | |
| | 1927 г. | 100% | 3,04 | 100% | 5,3 | 100% | 1 | 100% | 1,6 | 100% | |

Такім чынам, можна заўважыць зьмяшчэньне ліку бядняцкіх гаспадарак і рост галоўным чынам серадняцтва.

Бедната складае 23,76 проц. усяго вясковага насяленьня, уладае 29,79 проц. усіх гаспадарак, 13,53 проц. усяе плошчы пасеву, 21,5 проц рабочых коняй і 20,9 проц. усіх кароў.

Серадняцтва складае 73,4 проц. усяго вясковага насяленьня, уладае 68,60 проц. усіх гаспадарак, 81,34 проц. усяе плошчы пасеву, 75,3 проц. усіх рабочых коняй і 75,5 проц. усіх кароў.

Кулацтва складае 2,3 проц. усяго вясковага насяленьня, уладае 1,61 проц. усіх гаспадарак, 5,13 проц. усяе плошчы пасеву, 3,2 проц. рабочых коняй і 3,6 проц. усіх кароў.

Ленінскі тэзіс: „Серадняк--цэнтральная фігура вёскі"—поўнасьцю сьцьвярджаецца вышэйпрыведзенымі данымі, асабліва за 1927 г.

**Арэнда і наёмная праца ў сельскай гаспадарцы.** Усяго па 10 раёнах аддаецца ў арэнду 1300 гэктараў ральлі і 950 гэктараў сенажаці. Гэтыя лічбы трэба лічыць меньш за запраўдныя, ба шмат якія арэндныя ўмовы ўтойваюцца ад рэгістрацыі.

Які соцыяльны склад бяручых зямлю ў арэнду?

Бедната арандуе 6,65 проц., серадняцтва—89,74 проц. і кулацтва—3,61 проц. усяе плошчы, што аддаецца ў арэнду. Такім чынам цэнтральнае месца сярод арандатараў належыць серадняцтву.

Паводле забясьпечанасьці жывёлай гаспадаркі арандатараў разьмяркоўваюцца наступным чынам:

Да 2 шт. жывёлы 297 гаспадарак ці 44,73 проц. усіх гаспадарак арандатараў

Да 3 „ „ 225 „ ці 33,89 проц. „ „

Да 4 і больш „ 142 „ ці 21,38 проц. „ „

Такім чынам, і тут мы бачым, што галоўным арандатарам ёсьць серадняк.

Для характарыстыкі найму працоўнай сілы мы прывядзем даныя Саюзу Рабземлесу згодна ўчыненых дагавароў:

| | Колькасьць сель.-сав. | Батракоў | Пастухоў | Інш. рабочых | Усяго | Заключана дагавораў |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1926 г. | 123 | 2222 | 6388 | 826 | 9436 | 1723 |
| 1927 г. | 129 | 3413 | 7589 | 1315 | 12317 | 2523 |

Гэтыя лічбы кажуць аб тым, што наём працоўнай сілы на вёсцы павялічваецца. Большасьць наёмных—пастухі. Гэта мае сувязь з хутарской формай землякарыстаньня, якая вельмі пашырана ў акрузе.

**Саўгасы і калгасы.** Усяго ў акрузе ёсьць 23 савецкія гаспадаркі з зямельнай плошчай у 7716 гэктараў і 56 колектыўных гаспадарак з плошчай у 6682 гэкт. з 56 калгасаў комун 12, арцеляў 41 і таварыстваў па апрацоўцы зямлі 3. Большасьць саўгасаў і калгасаў мае агрыкультурнае значэньне для сялянскіх гаспадарак. Усе яны перайшлі на шматпольны севазварот.

Дзякуючы больш культурным формам апрацоўкі зямлі, саўгасы і калгасы маюць куды большы ўраджай, чымся вакольныя сялянскія гаспадаркі:

| Назва культур | 1926 г. | | 1927 г. | |
|---|---|---|---|---|
| | Саўгасы | Сялянская гаспадарка | Саўгасы | Сялянская гаспадарка |
| Жыта | 58,5 п. | 45,3 п. | 64,4 п. | 46 п. |
| Авёс | 50 „ | 37,6 „ | 51 „ | 37 „ |
| Ячмень | 48 „ | 38,5 „ | 44,8 „ | 32 „ |
| Бульба | 738 „ | 529 „ | 525 „ | 375 „ |

**Сельска-гаспадарчы крэдыт.**

Сродкі сельска-гаспадарчых т-ваў наступныя:

| | Уласныя сродкі | Пазычаныя | Усяго |
|---|---|---|---|
| На 1-X—26 г. . | 271370 р. | 1282433 р. | 1553803 р. |
| На 1-X—27 г. . | 335102 „ | 1988502 „ | 2323604 „ |
| Павялічэньне . | 63732 „ | 706069 „ | 769801 „ |
| | 23,6 проц. | 55 проц. | 48,9 проц. |

Такім чынам, уласныя сродкі сельска-гаспадарчых крэдытных т-ваў з кожным годам павялічваюцца, але рост іх адбываецца больш павольна, чым рост сродкаў, узятых у крэдыт.

Дзейнасьць сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў характарызуецца наступнымі данымі:

| | Доўгатэрміновы крэдыт | Кароткатэрмінов. крэдыт | Усяго |
|---|---|---|---|
| 1925-26 г. . . | 277000 р. | 1000000 р. | 1277000 р. |
| 1926-27 г. . . | 738000 „ | 1260777 „ | 1998777 „ |
| Павялічэньне . | 66 проц. | 26 проц. | 57 проц. |

Павялічэньне крэдытаў ідзе галоўным чынам за лік доўгатэрміновых пазык—66 проц.

Стан нізавой сеткі.

| | Колькасьць т-ваў | Колькасьць пайшчыкаў | Паявы капітал | На 1 пайшчыка | % коопэраваных гаспадарак |
|---|---|---|---|---|---|
| На 1-X—26 г. . | 17 | 19769 | 75394 р. | 3 р. 90 к. | 22,8% |
| На 1-X—27 г. . | 24 | 27877 | 119933 „ | 4 „ 30 „ | 32,4 „ |
| проц. зьмены . | +41% | +41% | +59% | +1р. 60 к. | + 9,6 „ |

Розьніца між 1926 і 1927 г. дае рост колькасьці пайшчыкаў і т-ваў на 41 проц., паявога капіталу на 59 проц. і коопэраваньне насяленьня на 9,6 проц.

Нязначнае павялічэньне сярэдняй велічыні паявога ўзносу на 1 пайшчыка тлумачыцца шырокім уцягненьнем беднаты ў сельска-гаспадарчую крэдытную коопэрацыю.

Аб разьмеркаваньні крэдыту між соцыяльнымі групамі насяленьня паказваюць даныя за 3 квартал 1926-27 г.

| Соцыяльныя групы | Колькі пазык | Па доўгатэрмінов. крэдыту | Па кароткатэрмін. крэдыту | Усяго | %% |
|---|---|---|---|---|---|
| Бедната . . | 7557 | 156179 р. | 198780 р. | 354959 р. | 40,4% |
| Серадняцтва . | 9562 | 174153 „ | 312468 „ | 486621 „ | 55,2 „ |
| Кулацтва . . | 604 | 11887 „ | 27153 „ | 39040 „ | 4,4 „ |
| Усяго . . | 17723 | 342219 „ | 538401 „ | 880620 „ | 100 „ |

З лічбаў можна бачыць, што пераважная большасьць пазык падае на бядняцка-серадняцкія гаспадаркі.

Даволі цікавыя даныя аб разьмеркаваньні мэтавых крэдытаў між соцыяльнымі групамі: (табл. гл. на наст. стар.)

| | Рабочая жывёла | | | | | Нерабочая жывёла | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Доўгатэрміновы крэдыт | | Кароткатэрміновы крэдыт | | | Доўгатэрміновы крэдыт | | Кароткатэрміновы крэдыт | | |
| | Кол. пазык | Сума у руб. | Кол. пазык | Сума у руб. | % да агульн. сумы | Кол. пазык | Сума у руб. | Кол. пазык | Сума у руб. | % да агульн. сумы |
| Беднякі . . | 200 | 16803 | 167 | 10526 | — | 100 | 6185 | 147 | 7478 | — |
| Сярэдні разьмер пазыкі . . | — | 84,2 | — | 63,5 | 54% | — | 61,8 | — | 51,2 | 58% |
| Серадням . . | 166 | 10616 | 174 | 10971 | — | 41 | 2635 | 117 | 7208 | — |
| Сярэдні разьмер пазыкі . . . | — | 65 | — | 63,5 | 44% | — | 65,2 | — | 59,8 | 41,2% |
| Кулацтва . . | 2 | 155 | 12 | 925 | — | 1 | 70 | 2 | 130 | 0,8% |
| Сярэдні разьмер пазыкі . . . | — | 77,75 | — | 75 | 2% | — | 70 | — | 65 | — |
| Усяго . | 368 | 27574 | 353 | 22422 | 100% | 142 | 8890 | 266 | 14816 | 100% |
| | Машыны | | | | | Будынкі | | | | |
| Бедната . . | 47 | 4060 | 266 | 8778 | — | 339 | 20217 | 154 | 6395 | — |
| Сярэдні разьмер пазыкі . . . | — | 82 | — | 43 | 40% | — | 61,8 | — | 41,2 | 45% |
| Серадняк . . | 69 | 6636 | 377 | 12922 | — | 346 | 20865 | 224 | 10761 | — |
| Сярэдні разьмер пазыкі . . . | — | 74,2 | — | 47,5 | 54% | — | 61 | — | 45,8 | 52% |
| Кулакі . . . | 8 | 940 | 28 | 864 | — | 16 | 1299 | 10 | 645 | — |
| Сярэдні разьмер пазыкі . . . | — | 117,5 | — | 34 | 6% | — | 94,2 | — | 64,5 | 3% |
| Усяго . | 124 | 11636 | 671 | 22564 | 100% | 701 | 42381 | 388 | 17801 | 100% |

Прыведзеная табліца сьцьвярджае наш вывад, што 97 проц. усяго крэдыту ідзе на разьвіцьцё бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Усе вышэйпрыведзеныя даныя кажуць аб росьце сельскай гаспадаркі на Віцебшчыне і аб вялікай дапамозе, якую робіць дзяржава бядняцка-серадняцкім групам вёскі.

### Прамысловасьць.

Прамысловасьць у Віцебскай акрузе досыць значна разьвіта параўнальна з іншымі акругамі Беларусі. У Віцебскай акрузе ёсьць шэраг буйнейшых фабрык БССР, як напр. лёнапральная фабрыка „Дзьвіна"—найбуйнейшая фабрыка БССР, машынабудаўнічы завод № 3, лёнапральная фабрыка імя К. Маркса, гута Побка, панчошна-трыкатажная фабрыка імя К. Цэткін, папяровая фабрыка, фабрыка акуляр і інш.

Усяго прадпрыемстваў у акрузе налічваецца: цэнзавых—56, нянцэзавых—212 і дробна-саматужных—6434. Паасобныя галіны цэнза-

вай прамысловасьці Віцебшчыны можна прадставіць у такім выглядзе:

| Галіны прамысловасьці | Колькі прадпрыемстваў | | Колькі рабочых | | Валавая продукцыя ў рублёх | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 25-26 год | 26-27 год | 26-27 год | % да ўсяго | 25-26 г. | 26-27 г. | % да ўсяго |
| Сылікатная . . . | 4 | 5 | 1129 | 13,5% | 999332 | 1194808 | 4.7% |
| Тарфяная . . . | 1 | 1 | 25 | 0,3 „ | 47392 | 64670 | 0,3 „ |
| Мэталяапрацоўчая . | 3 | 3 | 1220 | 14,6 „ | 1790650 | 2253972 | 8,6 „ |
| Дрэваапрацоўчая . . | 8 | 9 | 621 | 7,5 „ | 2091227 | 2088502 | 8,1 „ |
| Харчовая . . . | 18 | 16 | 490 | 5,9 „ | 4794271 | 4322999 | 16,6 „ |
| Апрацоўка матар'ялаў жывёлагадоўлі . | 2 | 2 | 214 | 2,6 „ | 917629 | 1196252 | 4,7 „ |
| Скураная і футравая . | 5 | 4 | 161 | 1,9 „ | 1449982 | 1522942 | 6 „ |
| Апрацоўка воўны . . | 4 | 2 | 28 | 0,3 „ | 352669 | 227893 | 0,9 „ |
| Тэкстыльная . . . | 2 | 2 | 2417 | 29 „ | 3993588 | 4651791 | 18,1 „ |
| Вопратка і туалет . | 6 | 7 | 1404 | 16,8 „ | 3544523 | 5407872 | 21 „ |
| Папяровая . . . | 2 | 2 | 460 | 5,5 „ | 1712357 | 1930276 | 7,5 „ |
| Поліграфічная . . | 2 | 2 | 101 | 1,2 „ | 220804 | 150302 | 0,6 „ |
| Эльвод і трамвай . . | 3 | 3 | 73 | 0,9 „ | 485789 | 481387 | 2,9 „ |
| Усяго . . | 60 | 58 | 8343 | 100 „ | 22400200 | 25493666 | 100 „ |

Найбольш разьвіты лёнапральная, мэталяапрацоўчая, сылікатная дрэваапрацоўчая галіны прамысловасьці. У параўнаньні з 1925/26 г. г. валавая продукцыя ў 1926/27 г. г. узрасла на 11,8 проц.

Валавая продукцыя цэнзавай прамысловасьці разьмяркоўваецца наступным чынам:

| | |
|---|---|
| Дзяржаўная прамысловасьць . . . . | 95,3 проц. |
| Коопэрацыйная . . . . . . . . . | 0,1 „ |
| Працколектывы . . . . . . . . . | 3 „ |
| Прыватная . . . . . . . . . . . | 0,6 „ |

У цэнзавай прамысловасьці прыватнік займае вельмі нязначны %.

Рост зарплаты і продукцыйнасьць працы ў найбольш буйных прадпрыемствах характарызуецца наступнымі данымі:

| | 2-е паўгодзьдзе 25/26 г. | 2-е паўгодзьдзе 62/27 г. | проц. зьмены |
|---|---|---|---|
| Зарплата за дзень у таварных рублёх . . . | 1 р. 16 к. | 1 р. 32. к. | +13,8 проц. |
| Продукцыйнасьць працы на 1 дзень чалавека ў даваенных рублёх . . . | 6 р. 59 к. | 7. р. 24. к. | +9,4 проц. |

Такім чынам, зарплата расла шпарчэй за продукцыйнасьць працы.

Гэтыя кароткія даныя цэнзавай прамысловасьці паказваюць бясспрэчны рост гэтай галіны народнай гаспадаркі Віцебшчыны.

**Мясцовая прамысловасьць.** Мясцовая прамысловасьць налічвае 241 прадпрыемства, з якіх Акрвыканкому належыць 147, працколектывам 10, Бельсельтрэсту і вучгасам 13, коопэрацыі 35 і прыватным асобам 36.

З ліку 147 прадпрыемстваў, якія належаць АВК, працуюць 125, а

бязьдзейнічаюць 22. Працуючыя прадпрыемствы разьмяркоўваюцца так: 61 з іх непасрэдна эксплёатуе АВК, 15 здадзена ў арэнду ўстановам і 49 з іх—у арэнду прыватным асобам.

Моц сілавой установкі прадпрыемстваў, якія непасрэдна эксплёатуе АВК, роўна 2061 конскай сіле. На гэтых прадпрыемствах працуе 978 рабочых.

Валавая продукцыя прадпрыемстваў АВК за 1926-1927 г. роўна 2410000 руб. Параўнальна з 1925-26 г. мы маем рост: сілавой установкі на 32,5 проц., рабочай сілы на 85 проц. і валавой продукцыі на 51 проц.

**Саматужная прамысловасьць.**

Усяго ў акрузе налічваецца 6434 саматужна-прамысловых прадпрыемстваў. З гэтага ліку прыватным асобам належыць 6273 прадпрыемствы ці 97,5 проц. усяго ліку прадпреымстваў. У тэрыторыяльным стасунку прадпрыемствы знаходзяцца:

Горад Віцебск . . . 29,5% усіх прадпрыемстваў і зварот 56,5%
Іншыя гарады і мястэчкі 17 „ „ „ „ 18,5 „
Вясковыя мясцовасьці 53,5 „ „ „ „ 25 „

Па колькасьці прадпрыемстваў Віцебск займае 2-е месца, але адносна сумы звароту займае 1-ае месца.

У саматужна-прамысловых прадпрыемствах 8617, з іх працуе па найму 1327 чалавек. Валавая продукцыя роўна 7200000 руб.

## Гандаль.

Гандлёвая дзейнасьць акругі і ўдзельная вага дзяржаўнага, коопэрацыйнага і прыватнага гандлю ілюструецца наступнымі данымі:

| | Дзяржаўны гандаль | | | Коопэрацыйны гандаль | | | Прыватны гандаль | | | Усяго гандлёвых прадпрыемстваў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | У гарадох | На вёсках | Усяго | У гарадох | На вёсках | Усяго | У гарадох | На вёсках | Усяго | |
| 1924-25 г. . . | 60 | 5 | 65 | 42 | 211 | 253 | 1123 | 612 | 1735 | 2053 |
| 1925-26 г. . . | 66 | 27 | 93 | 56 | 236 | 292 | 1031 | 710 | 1741 | 2126 |
| Больш ці менш мінулага году | +6 | +22 | +28 | +14 | +25 | +39 | —92 | +98 | +6 | +73 |
| 1926-27 г. . | 65 | 34 | 99 | 79 | 201 | 280 | 971 | 745 | 1716 | 2095 |
| Больш ці менш мінулага году | —1 | +7 | +6 | +23 | —35 | —12 | —60 | +35 | —25 | —31 |

Колькасьць прадпрыемстваў дзяржаўнага гандлю бязупынна расьце як у горадзе, так і на вёсцы, але рост у 1925-26 г. г. быў куды большы, чым у 1926-27 г. г. Агульная лічба гандлёвых коопэрацыйных прадпрыемстваў за апошні год зьменшылася пры павялічэньні гарадзкой сеткі. Зьмяншэньне можна заўважыць выключна ў вясковай сетцы. Колькасьць прадпрыемстваў прыватнага гандлю таксама зьмяншчаецца але за кошт гораду, а ня вёскі.

Такім чынам, гандлёва-праводная сетка акругі нязначна зьменшылася (на1,5 проц.), пры росьце дзяржаўных гандлёвых прадпрыемстваў і зьмяншчэньні коопэрацыйных і прыватных гандлёвых прадпрыемстваў.

| Гандаль | 1925/26 год | | | | | | 1926/27 год | | | | | | Зьмены | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Гуртавы | | Розьнічны | | Усяго | | Гуртавы | | Розьнічны | | Усяго | | Гуртавы | | Розьнічны | | Усяго | |
| | Сума | Проц. | Сума | Проц. | Сума | Проц. | Сума | Проц. | Сума | Проц. | Сума | Проц. | Сума | Проц. | Сума | Проц. | Сума | Проц. |
| | У тысячах рублёў | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Дзяржаўны . . . | 20024 | 63,5 | 5730 | 17,4 | 25754 | 40 | 13055 | 54,3 | 4953 | 12,5 | 18008 | 27,7 | —6969 | —34,8 | —777 | —13,5 | —7747 | —30 |
| Коопэрацыйны . . | 5703 | 18,1 | 12037 | 36,6 | 17740 | 27,5 | 6881 | 27 | 18132 | 45,8 | 25013 | 38,5 | +1178 | +20,6 | +6096 | +50,6 | +7279 | +40 |
| Прыватны . . . | 5795 | 18,4 | 15105 | 46 | 20900 | 32,5 | 5515 | 21,7 | 16489 | 41,7 | 22004 | 33,8 | —280 | —4,8 | +1383 | +9,1 | +1103 | +5,2 |
| Усяго . . . | 31552 | 100% | 32872 | 100% | 64394 | 100% | 25451 | 100% | 39574 | 100% | 65025 | 100% | —6071 | —19,2 | +6702 | +20,3 | +631 | +1 |

Які зварот гандлёва-праваднэй сеткі акругі, якая ўдзельная вага і дынаміка дзяржаўнага, коопэрацыйнага і прыватнага гандлю?

Наступная табліца дае адказ на гэтае пытаньне:

Першае месца ў гуртавым гандлі займае дзяржаўная гандлёвая сетка, яе ўдзельная вага 51,3 проц. ўсяе сумы гуртавога гандлю. Другое месца займае коопэрацыйны гандаль—27 проц. усяго гуртавога гандлю. Апошняе месца займае прыватны гандаль—21,7 проц.

У розьнічным гандлі коопэрацыя, хоць і нязначна, але пабівае прыватніка. Удзельная вага коопэрацыі—45,8 проц., а прыватніка — 41,7 проц. Нязначна ўдзельная вага і розьнічнага дзяржаўнага гандлю.

У агульным гандлёвым звароце (розьнічны+гуртавы) прыватнік займае толькі 33,8 проц., а дзяржаўна-коопэрацыйны гандаль—66,2 проц.

Таваразварот дзяржгандлю ў 1926/27 г. зьменшыўся параўнальна з 1925/26 г. г. на 30 проц. Гэта зьмяншэньне ў рознай меры дае і гуртавы і розьнічны гандаль. Коопэрацыйны гандаль павялічыў свой зварот на 40,9 проц. галоўным чынам за кошт розьнічнага гандлю. Прыватнік таксама павялічыў свой агульны таваразварот на 5,2 проц. пры зьмяншэньні свайго звароту ў гуртавым гандлі на 4,8 проц. Выключнае значэньне для прыватніка пры павялічэньні яго таваразвароту мае розьнічны гандаль.

Агульная сума звароту павялічылася ў 1926-27 г. на 1 проц. параўнальна з 1925-26 г.

Раўнуючы даныя дынамікі гандлёва-праводнай сеткі і таваразвароту, мы робім такія вывады: Коопэрацыйны і прыватны гандаль, ня гледзячы на зьмяншэньне гандлёва-праводнай сеткі, дае павялічэньне таваразвароту, дзяржаўны гандаль пры павялічэньні гандлёва-праводнай сеці дае скарачэньне таваразвароту.

Коопэрацыя ў большай меры, а прыватнік у меншай змаглі ўшчыльніць сваю сетку пры павялічаным таваразвароце. Дзяржаўны гандаль гэтага ня змог зрабіць. Сетка павялічана, але таваразварот зьменшыўся.

Прыватнік у адказ на падатковы націск дзяржавы скарачае сваю гандлёва-праводную сетку, але затое ў большай ступені павялічвае свой таваразварот.

Дзяржаўнаму гандлю, як відаць, прыдзецца ў некаторай частцы разам з частковай перадачай сваіх тавараў і функцый коопэрацыі перадаць і частку сваёй ганлёва-праводнай сеткі, у іншым выпадку пры наяўнасьці недахопу тавараў ушчыльненьня гандлёвай сеткі не адбудзецца, дзякуючы зьменшанаму таваразвароту.

Загатоўка сельска-гаспадарчых продуктаў і сыравіны ў 1926-27 г. мела больш плянавы характар, чымся ў 1925-26 г. Колькасьць загатоўшчыкаў і загатоўчых пунктаў, якія сваім мноствам уносілі анархію, была зьменшана. У 1925-26 г. г. на Віцебскім збожжавым рынку працавала 8 загатоўшчыкаў, якія мелі 44 загатоўчых пункты, а ў 1926-27 г. колькасьць загатоўшчыкаў была даведзена да 6 з 28 загатоўчымі пунктамі (у гэтую лічбу коопэрацыя не ўваходзіць). Гэта зьмяншэньне адбылося за кошт большага прыцягненьня коопэрацыйных організацый да загатоўчай працы.

За апошнія 2 гады дзяржаўнымі і коопэрацыйнымі організацыямі загатоўлена:

| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | Зьмены: сума | %% |
|---|---|---|---|---|
| Збожжа . . . . | 924000 р. | 539000 р. | —385000 р. | —41,6% |
| Сыравіны . . . | 2959000 р. | 3081000 р. | +122000 р. | + 4,1% |

Зьмяншэньне загатовак збожжа ў 1926-27 г. параўнальна з 1925-1926 г. тлумачыцца нізкім ураджаем жыта ў мінулым годзе. Пакажам, наколькі ўнесена плянавасьць у нашы загатоўкі і наколькі нашы пэрспэктыўныя пляны выконваюцца.

| | 1925-26 г. | | | 1926-27 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Плян. | Выканана | % | Плян | Выканана | % |
| Збожжа . | 820000 р. | 563000 р. | 68,6% | 370000 р. | 336000 р. | 90,8% |
| Сыравіны | 676000 р. | 648000 р. | 95,8% | 473000 р. | 446000 р. | 98,9% |

Як відаць з табліцы, выкананьне пляну загатовак у 1926-27 г. набліжаецца да 100 проц. Значнае невыкананьне пляну загатовак збожжа ў 1925-26 г., што мела месца па ўсёй Беларусі, тлумачыцца надвялічанымі падлікамі тavailable тварнага наяўнага збожжа, што было пакладзена ў падставу загатоўчага пляну.

Уся загатоўка была праведзена па такіх загатоўчых цэнах:

| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | Зьмены |
|---|---|---|---|
| Жыта . . . . . . | 1 р. 37 к. | 1 р. 05 к. | — 32 к. |
| Авёс . . . . . . | 1 р. | 1 р. 10 к. | + 10 к. |
| Ільнянае семя . . | 2 р. | 1 р. 65 к. | — 35 к. |
| Лён . . . . . . | 6 р. | 5 р. 25 к. | — 75 к. |
| Вялікія скуры . . | 10 р. | 12 р. | + 2 р. |
| Маленькія скуркі . | 4 р. | 3 р. 15 к. | — 85 к. |
| Мяса . . . . . | 5 р. 13 к. | 8 р. 49 к. | + 3 р. 36 к. |
| Шчаціна . . . . . | 71 р. 36 к. | 50 р. 76 к. | —20 р. 60 к. |
| Конскае валосьсе . | 21 р. 17 к. | 29 р. 42 к. | + 8 р. 25 к. |

Цэны 1926-27 г. параўнальна з цэнамі 1925-26 г. на большасьць асноўных загатоўных тавараў зьнізіліся за выключэньнем мяса, вялікіх скур і конскага валосься.

Накладныя выдаткі на загатоўкі складаюць: на збожжа 10 к. на пуд., альняное семя 12 к. на пуд і на лён 68 к. на пуд.

Скарачэньне на 15 проц. адміністрацыйных выдаткаў дзяржаўнай

і коопэрацыйнай гандлёва-праводнай сеткі ілюструецца наступнымі данымі:

**Сярэднія месячныя выдаткі.**

| | 1925-26 г. | 1926-27 г. | % зьмен |
|---|---|---|---|
| Утрыманьне апарату . . | 74756 р. | 72108 р. | — 3,5% |
| Канцэлярскія выдаткі . . | 2835 р. | 2068 р. | — 27% |
| Пошта, тэлеграф . . . | 2517 р. | 1438 р. | —42,8% |
| Утрыманьне памяшкан. . | 11829 р. | 11903 р. | — 0,6% |
| Командыроўкі . . . . | 6676 р. | 3410 р. | —48,9% |
| Гаспадарчыя выдаткі. . | 7790 р. | 2920 р. | —62,5% |
| Розныя . . . . . . . | 5296 р. | 2008 р. | —62 % |
| Усяго . . . | 111700 р. | 95856 р. | —14,1% |

Сярод прадпрыемстваў ёсьць такія, якія дырэктыву Ўраду аб 15 проц. зьніжэньні адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў выканалі поўнасьцю, ёсьць такія, якія выканалі ня поўнасьцю і ўрэшце ёсьць такія, што ня толькі ня зьнізілі, але яшчэ і павялічылі свае адміністрацыйна-гаспадарчыя выдаткі.

**Спажывецкая коопэрацыя.** Стан і дзейнасьць Віцебскага саюзу спажывецкай коопэрацыі і нізавой сеткі характарызуецца наступнымі данымі (гл. табл. на наст. стар.).

Паявы капітал саюзу спажывецкіх т-ваў узрос на 47,1 проц., а колькасьць т-ваў зьменшылася. Гэта сьведчыць аб тым, што спажывецкія т-вы значна больш чым раней удзельнічаюць сваім паявым капіталам у сродках саюзу.

Таваразварот павялічыўся на 23 проц. у той час як таваразварот усяе гандлёва-праводнае сеткі акругі павялічыўся толькі на 1 проц.

Зьмяншэньне сярэдняга процанту накладаў на 2,27 проц. і сярэдняга процанту выдаткаў на 1,02 проц. сьведчыць аб выкананьні спажывецкім саюзам дырэктыў Ураду аб зьніжэньні цэн.

Што датычыцца нізавой сеткі спажывецкай коопэрацыі, дык дынаміка яе росту значна большая, чым дынаміка росту спажывецкага саюзу.

Коопэраваньне сялянскіх двароў дасягнула 42 проц. і на працягу году павялічылася на 16,9 проц. Колькасьць пайшчыкаў павялічылася на 67 проц. і паявы капітал на 97 проц.

Таваразварот нізавой сеткі ўзрос на 34 проц. і продаж пайшчыкам на 6,9 проц. дасягнуўшы 45 проц. усяе сумы таваразвароту. Гэта зусім адпавядае процанту коопэраваньня сялянскіх двароў—42 проц.

Сярэдні процант накладаньня на тавары зьменшыўся на 1,4 проц., а выдаткі павялічыліся на 1,2 проц.

Ня меншы рост дае і Віцебскі ЦРК. Члены профсаюзаў Віцебску коопэраваны на 68 проц., даўшы павялічэньне на працягу году на 15,1 проц. Рабочае крэдытаваньне дасягнула 779.150 руб. у 1926/27 г., даўшы за год павялічэньне на 70 проц.

Дзейнасьць спажывецкай коопэрацыі на Віцебшчыне адбываецца бясспрэчна пад знакам узросту.

**Сельска-гаспадарчая коопэрацыя.** Нізавая сетка сельска-гаспадарчай коопэрацыі характарызуецца наступнымі лічбамі:

| | Колькасьць аб'яднаньняў | Колькасьць пайшчыкаў | Паявы капітал | Коопэравана двароў |
|---|---|---|---|---|
| На 1/х—26 г. | 88 | 20200 | 64164 р. | 24,5 проц. |
| На 1/х—27 г. | 51 | 29120 | 123118 „ | 37,9 „ |

За год нізавая сетка сельска-гаспадарчай коопэрацыі вырасла па колькасьці пайшчыкаў на 44 проц., па процанту коопэраваньня два-

| | Колькасьць спажывецкіх т-ваў | | Пайшчыкі | | | Тавараразварот | % продажы пайшчыкам | Сярэдні % накладаў | Сярэдні % выдаткаў | Фінансы | | | % коопэраваньня сялянскіх двароў | Фонд беднаты | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Т-ваў | Крам | Колькасьць пайшчыкаў | Паявы капітал | Сярэдні ўзнос на 1 пайшчыка | | | | | Уласныя сродкі | Чужыя сродкі | Спэцыяльныя сродкі | | Асыгнавана | Выдаткавана |
| Саюз спажывецкіх т-ваў | | | | | | | | | | | | | | | |
| На 1/х—26 г. | 73 | 137 | — | 32,727 р. | — | 5,160,337 | 92,6 | 7,27 | 5,77 | 31,261 | — | — | — | — | — |
| На 1/х—27 г. | 71 | 159 | — | 48,168 р. | — | 6,350,000 | 95 | 5 | 4,75 | 39,370 | — | 7,399 | — | — | — |
| % зьмены | — | +16% | — | +47.1% | — | +23% | +2,4 | —2,27 | —1,02 | +26% | — | — | — | — | — |
| Нізавая сетка | | | | | | | | | | | | | | | |
| На 1/х—26 г. | 73 | 137 | 23,458 | 63,841 | 2 р. 72 к. | 4,931,856 | 38,1 | 11,9 | 8,3 | 252,874 | 345,832 | — | 25,1% | 9256 | 6479 |
| На 1/х—27 г. | 71 | 159 | 38,000 | 125,916 | 3 р. 20 к. | 6,610,269 | 45 | 10,5 | 9,5 | 314,980 | 387,899 | — | 42,% | — | 70% |
| % зьмены | — | +16% | +67% | +97% | — | +34% | +6,9 | —1,4 | +1,2 | +24,5 | +12,2 | — | +16,9% | — | — |
| Віцебскі ЦРК | | | | | | | | | | | | | | | |
| На 1/х—26 г. | — | 38 | 11,783 | 52,043 | 4 р. 41 к. | 4,436,928 | — | 11,82 | 10,47 | — | — | — | — | — | — |
| На 1/х—27 г. | — | 49 | 17,300 | 93,800 | 5 р. 82 к. | 6,400,451 | — | 10,21 | 9,94 | — | — | — | — | — | — |
| % зьмены | — | +32% | +46% | +80% | +32% | +44% | — | —1,61 | —0,53 | — | — | — | — | — | — |

роў на 13,4 проц. і па паявым капітале на 98 проц. У сярэднім паявы капітал на 1 пайшчыка павялічыўся з 3 р. 60 к. да 4 р. 42 к.

Які социяльны склад пайшчыкаў сельска-гаспадарчай коопэрацыі?

Па разьмерах пасяўной плошчы: да 2 гэктараў—22,9 проц., ад 2 да 6 гэкт.—56,7 проц., ад 6 гэктараў і больш—21,6 проц. З гэтага можна бачыць, што асноўная маса пайшчыкаў сераднікі.

Звароты нізавой сеткі характарызуюцца наступнымі данымі:

| | Зварот забясьпечваньня | Збытавы зварот | Атрымана крэдытаў |
|---|---|---|---|
| 1926 г. . . | 1100000 р. | 533989 р. | 799000 р. |
| 1927 г. . . | 1299000 „ | 683362 „ | 1322325 р. |
| % зьмены . | 18,1 проц. | 28 проц. | 65,5 проц. |

Рост як таварных, так і крэдытных зваротаў вельмі значны. Што датычыцца малочнай коопэрацыі, дык на 1/х—27 г. у акрузе існавала 18 малочных арцеляй з 2.925 пайшчыкамі. Продукцыя гэтых арцеляй: масла 3.418 пуд. і сыру 5.261 пуд.

**Бюджэт.** Зусім зразумела, што пры агульным росьце прыбытковасьці ўсяе гаспадаркі і насяленьня, павінен быў вырасьці і бюджэт акругі.

У 1926/27 г. прыбытковая частка бюджэту складала 4.252.158 р., а ў 1927/28 г. будзе складаць 4.455.417 р.—рост на 4,78 проц.

Выдатковая частка ў 1926/27 г. складала 4.435.197 р., а ў 1927/28 г. дасьць 5.254.544 р.—рост на 15,86 проц.

Не пазбаўлена інтарэсу табліца разьмеркаваньня выдатковай часткі бюджэту па аддзельных больш важных артыкулах выдаткаў.

| | Агульная сума выдаткаў | Адміністрацыйна-судовыя | | Социяльна-культурныя | | Прамыслова-гаспадарчыя | | Іншыя | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Сума | % | Сума | % | Сума | % | Сума | % |
| 1926/27 г. | 4.535.197 р. | 725.246 р. | 15,99 | 2.366.042р. | 52,17 | 1.337.010р. | 29,42 | 109.899р. | 2,42 |
| 1927/28 г. | 5.254.544 „ | 749.979 „ | 14,24 | 2.707.856„ | 51,53 | 1.649.128„ | 31,39 | 147.581 „ | 2,81 |
| % зьмены | +15,86% | +3,41% | — | +14,44% | — | +23,62% | — | +34,28% | — |

Утрыманьне адміністрацыйна-судовага апарату павялічыцца на нязначны процант—3,41 проц., затое значна павялічыцца асыгнаваньне на социяльна-культурныя патрэбы—14,44 проц. і на прамысловасьць і іншыя гаспадарчыя прадпрыемствы—23,62 проц.

Выдатковая частка бюджэту складала ў 1926/27 г. 7 р. 28 кап. на 1 чалавека, а ў 1927/28 г. будзе складаць 9 р. 01 к. на 1 чалавека.

Вось асноўныя, кароткія і няпоўныя паказчыкі гаспадарчага ўзросту Віцебшчыны.

---

**Ул. Уладзіміраў.**

# Расліннасьць урочышча Расла.

*(Барысаўская акруга).*

Урочышча Расла ляжыць блізка каля самага гор. Барысава. З усходняга боку да яго прылягае прыгародная вёска Дымкі, а з заходняга на невялікай палянцы ляжыць засьценак Лядзішча, злучаны з Дымкамі прасёлачным шляхам. Рака Бяроза (Бярэзіна) нібы агібае ўрочышча, але цячэ бліжэй да гораду, а дзеля гэтага паміж ёю і ўро-

чышчам ляжыць лугавая нізіна. Лес прылягае непасрэдна да старога русла Бярозы, якая намеціла сабе новы напрамак, пакінуўшы тут нібы рукаво са слабым рухам вады. Рукаво зьліваецца з ракою вышэй новага вайсковага мосту.

Па рэльефу Расла стракатa. Адна частка агульнай плошчы занята лясамі, другая—сенажацьцю, а там палянка-ніва, узгорак, рукаў з разнальковай воднай зеленьню, жывёламі. Уся плошча вучастка раўняецца прыблізна ста дзесяцінам і зьяўляецца месцам маёвак, школьных экскурсій і паляваньня.

Заходняя частка ўрочышча Расла, абазначаная літарай „А“, бугрыстая і сухая. Амаль што ўся яна пакрыта лесам у большасьці гатункам дрэў Pinus silvestris L.—хвойкі. Лес сярэдняй гушчыні, мае каля 60 гадоў і па сваім знадворным выгляду займае нешта сярэдняе паміж лесам-гушчаром і асобнымі хвоямі, якія растуць на прасторы. Picea exelsa Link.—елка на гэтым вучастку сустракаецца асобнымі дрэвамі. Дзе-ні-дзе раскіданы асобныя прадстаўнікі Populus tremula L.—асіны, а таксама на ўзгорках Corylus Avellana L.—ляшчына, Juniperus communis L.—ялавец, Evonymus verrucosus Scop—брызьліна гузаватая, Daphne mezereum L.—воўчая ягада.

Панізавую расьліннасьць вучастка „А“ складаюць Lycopodium clavatum L.—дзераза, Equisetum silvaticum L.—хвошч лесавы, Asplenium Filix femina Berhn. і Pteridium aquilinum Kuhn., Hypnum crista castrensis, Polytrichum commune, Cladonia rangiferina Hoffm.

З кветкавых расьлін на плошчы ўсяго вучастку „А“ раскіданы Anemone nemorosa L.—курасьлеп гаёвы, Anthyllis Vulneraria L.—пералёт звычайны, Arctostaphylos Uva ursi Spr.—мучаньнік звычайны. Astragalus glycyphyllus L.—куравай салодкалісьцёвы, Calluna vulgaris Salisb—верас звычайны, Campanula persicifolia L.—званок вялікакветны, Dianthus superbus L.—іскарка пышная, Erythraea centaurium Pers—Цьвінтарэй звычайны, Fragaria vesca L.—суніцы звычайныя, Galium Aparine L. і G. Mollugo L.—маруна ўчэпістая і звычайная, Gnaphalium silvaticum L.—суніца лесавая, Hepatica triloba Chiax—пралеска трынадзельная, Hierochloa odorata Wahlb—зуброўка пахучая, Jasione montana L.—вобнарак звычайны, Melampyrum nemorosum L. — брашаўка гаёвая, Monotropa Hypopitys L.—сьліўшаня многакветная, Pirola media Sw., P. minor L., P. rotundifolia L. i P. secunda L.—грушаўнік, Plathanthera bifolia Rchb—чараўнік двохлісты, Polygala vulgaris L.—крапінец звычайны, Pulsatilla patens Mill—сон звычайны, Scorzonera humilis L.—Чарнакорань нізкі, Solidago virga aurea L.—сумнік залацісты, Trientalis europaea L.—седмачок эўропейскі, Tussilago Farfara L.—падбел звычайны, Vaccinium Myrtillus L.—чарніца, V. Vitis idaea L.—брусьніца, Verbascum Thapsus L.—Дзіванна вялікая, Veronica officinalis L.—вароніка лесавая і V. spicata L.—вароніка каласковая.

Вучастак „Б“—невялікая палянка, якая мае нахіл у бок ракі, апрацоўваецца сялянамі вёскі Дымкі пад сяўбу.

З палявых культур болей за ўсё практыкуюцца Secale cereale L.—жыта звычайнае, Arena sativa L.—авёс сеўны, Solanum tuberosum L.—бульба.

З дзікарастучых расьлін прадстаўнікамі расьліннасьці вучастку „Б“ зьяўляюцца: Fumaria officinalis L.—дымніца лекавая, Barbarea vulgaris R.—сьвярбіга звычайная, Draba verna L.—крупка веснавая, Thlaspi arvense L.—торбачнік палявы, Capsella Bursa pastoris Moench—стрэлкі звычайныя, Viola tricolor L.—бражкі звычайныя, Saponaria officinalis L.—мыльнік лекавы, Spergula arvensis L.—Сьвінакроп палявы, Sagina nodosa L.—гарыца вузлаватая, Cerastium triviale Linc—рагавінка зы-

чайная, Hypericum perforatum L.—сьвятаяньнік дзіркаватый, Erodium cicutarium L'Herit—бусельнік, Melilotus officinalis Desr—баркун лекавы, Trifolium arvense L.—Дзяцеліна ральлёвая, Potentilla Tormentilla Nech—дуброўка лесавая, Knautia arvensis Coult—паўночнік звычайны. Achilea Millefolium L.—крываўнік звычайны, Leucanthemum vulgare Lam—нівянка звычайная, Artemisia campestris L.—быльнік палявы, A. vulgaris L.—чарнобель, Tanacetum vulgare L.—піжма звычайная, Gnaphalium silvaticum L.—сушніца лесавая, Filago arvensis L.—калматка палявая, Senecio vulgaris L.—старасьцень звычайны, Centaurea Cyanus L.—валошка палявая, Scabiosa Columbaria L.—купніца блакітная, Cirsium arvense Scop—Асот палявы, Taraxacum vulgare Schrank—дмухавец звычайны, Plantago major L., P. media L., P. lanceolata L.—трыпутнікі, Hieracium Pilosella L., H. pratense Tausch. H. umbellatum L.—ястрабкі Campanula patula L.—званок лугавы, Convolvulus arvensis L.—павой палявы, Myosotis arenaria Sch.—незабудка палявая, Verbascum nigrum L.—дзіванна чорная, Linaria vulgaris Mill.—зарніца звычайная, Thymus Serpyllum L.—чабор звычайны, Galeopsis speciosa Mill.—зябер вялікі, Rumex Acetosella L.—шчаўе малае, Agrostemma Githago L.—кукаль звычайны.

Вучастак „В"—адзін з найбольшых у складзе цэлага ўрочышча. Амаль што ўвесь забалочаны, а ў веснавы час разьлізу Бярозы пакрываецца вадою. Балоцістасьць захоўваецца на працягу ўсяго году і толькі зіма замацоўвае паверхню. Вада прасочваецца праз зямлю ў форме крынічак і зьліваецца ў невялікую канаву, адкуль пападае ў вадазбор старога русла, аддзеленага невялікім узвышшам ад нізіны.

У большасьці вучастак „В" пакрыты вольхай Alnus glutinosa L., якая мае ня болей як 20 гадоў. Старых дрэў захавалася мала. Месцамі вольха ўтварыла цэлыя гушчары. Край вучастку, прылягаючы да „Б", пакрыты старымі Picea excelsa Link.—елкамі, высокімі, тоўстымі і стройнымі. Маюцца таксама старыя Populus tremula L.—асіны, хвоі, якім мінула за сто гадоў. Прырэчную частку „В" акаляе асобна растучымі старымі, гузаватымі Quercus pedunculata L.—дубамі (sessiliflora Smith.). Тут-жа расьце многа Avellana Corylus L.—ляшчына. На плошчы ўсяго вучастку можна знайсьці Salix Caprea L.—вярбу брэднік, Salix alba L.—вярбу звычайную, Rhamnus Frangula L.—крушыну крохкую, Tilia cordata Mill.—ліпу (невялікую), Rubus caesius L.—ажыну, Rubus idaeus L.—маліну звычайную, Sorbus aucuparia L.—рабіну звычайную, Ribes rubrum L. і R. nigrum L.—парэчкі, Viburnum Opulus L.—каліну звычайную, Rosa cinnamomea L.—шыпшыну, Pirus silvestris L.—дзікая яблыня, Crataegus Oxyacantha L.—баярышнік.

Травяністая расьліннасьць вучастку „В" досыць багата і стракаты рознастайнымі відамі. Чорная глеба, вільгаць даюць магчымасьць сяліцца і расьці такім расьлінам як: Anemone nemorosa L. і An. ranunculoides L.—курасьлепы, Hepatica triloba Chaix—пралеска трынадзельная, Ficaria ranunculoides Roth.—чысьцяк, Caltha palustris L.—лотаць балотны, Corydalis solida Sm.—чубатка звычайная, Viola odorata L. і V. palustris L.—браткі, Drosera rotundifolia L.—расіца круглалістая, Stellaria nemorum L.—зоркаўка гаёвая, S. media Vill.—макрыца, Stellaria Holostea L.—зоркаўка вялікакветная, Stachys palustris L.—чысьцік балотны, Cerastium triviale Link—рагавінка звычайная, Geranium palustre L., G. pratense L.—герані, Impatiens noli tangere L.—петрыкаўка жоўтая, Oxalis Acetosella L.—кісьліца, Vicia Cracca L.—віка птушыная, Orobus vernus L. — зьвярэц веснавы, Lathyrus pratensis L.—гарошак лугавы, Geum rivale L.—панікніца ўзьбярэжная, і G. urbanum L.—панікніца звычайная, Alchemilla vulgaris L.—гусяланка звычайная, Epilobium

angustifolium L. — скрыпень вузкалісты, E. parviflorum Schreb. — скрыпень дробнакветны, E. roseum Schreb. — скрыпень ружовы, Lythrum Salicaria L. — чальчак звычайны, Chrysosplenium alternifolium L.—мінушкі, Pimpinella magna L.—бядрынец вялікі, Archangelica officinalis Hoffm.—дзяглiца лек., Galium uliginosum L.—маруна багнавая, Valeriana officinalis L. — валер'яна лекавая, Pulicaria vulgaris Gaertn. — уман звычайны, Bidens tripartitus L. — ваўчкі трыдзельныя, Carduus crispus L.—чортапалох курчавы, Vaccinium Oxycoccus L.—журавіна, Ledum palustre L.—багун балотны, Lysimachia Nummularia L.—лазоўка сьцялуха, L. vulgaris L.—лазоўка звычайная, Palemonium coeruleum L.—сінюшнік звычайны, Symphytum officinale L.—жывакост лекавы, Pulmonaria officinalis L.—Шчамяліца лекавая, Myosotis palustris—незабудка балотная, Solanum Dulcamara L.—лісьнік салодкагоркі, Scrofularia nodosa L.—залозьніца, Gratiola officinalis L.—аўран лекавы, Veronica officinalis L.—вароніка лекавая, V. beccabunga L.—вароніка балотная, Mentha silvestris L.—мята лесавая, Glechoma hederacea L.—блюшчык звычайны, Lamium album L.—яснотка белая, L. purpureum L.—яснотка чырвоная, Scutellaria galericulata L.—шлемнік звычайны, Ajuga reptans L.—гарлянка паўзучая, Rumex crispus L.—шчаўе кучаравае, Urtica dioica L.—крапіва рознапнёвая і U. urens L.—кр. джыгучка, Humulus Lupulus L.—хмель звычайны, Lemna minor L.—раска, Paris quadrifolia L.—мудранка чатырохлістая, Polygonatum multiflorum All.-куп.—купэна многакветкавая, Majanthemum bifolium DC.—майнік двухлісьцёвы, Luzula pilosa Willd.—сітніца валасістая, Convallaria majalis L.—лантуш майскі, Mercurialis perennis L.—сіневароць трывалы, Andromeda polifolia L. — падбел, Ptarmica vulgaris Clus—чыхотная трава, Lathraea Squammaria L.—таемнік лускаваты.

Старарэчышча Бярозы агібае вучастак „В" і прадстаўляе вадазбор глыбінёю каля 2 мэтраў, а шырынёю аднальковаю амаль што з новай ракою. Вада болей мутная, чым у самай Бярозе і мае слабы рух. Месцамі ўтварылася затокі, дзе вада зусім стаіць. Дзякуючы гэтаму на даным вучастку прыспасобілася такая расьліннасьць як: Nymphaea alba L.—вадзяніца белая, Nuphar luteum Sm.—збанкі жоўтыя, Hydrocharis Morsus ranae L.—жабнік звычайны, Hippuris vulgaris L.—пярыльцы звычайныя, Hottonia palustris L.—вадаперыца балотная, Sparganium ramosum Huds. — плюшчэй галіністы, Rumex aquaticus L.—шчаўе вадзянае, Polygonum Hydropiper L.—драсен вадзяны, Calla palustris L. — белакапытнік балотны, Acorus Calamus L.—аер балотны, Lemna trisulca L.—раска трыдзельная, Potamogeton natans L. і P. crispus L.—урэчнікі, Alisma Plantago L.—шальнік трыкутнікавы, Sagittaria sagittifolia L.—стрэліца стрэлкаліста, Butomus umbellatus L.—банцушнік парасонавы, Stratiotes aloides L.—разак вадзяны, Elodea canadensis Rich - элёдэя, Iris Pseudacorus L.—касач жоўты, Juncus effusus L.—сіт разложысты, Scirpus palustris L.—міліца балотная. А на прылягаючым беразе ва мностве: Thalictrum angustifolium Jack, T. flavum—пылюшнікі, Myosurus minimus L.—мышахвосьнік, Ranunculus Flamula L., R. Lingua L., R. repens L., R. sceleratus L.—казяльцы, Cardamine pratensis L., C. Amara L.—буйміны, Parnassia palustris L.—відомец балотны, Lychnis Flos cuculi L.—сьветнік зязюлькавы, Geranium palustre L. G. pratense L.—геранія, Potentilla Anserina L. і P. pal. Scop. — дуброўкі, Centaurea Jacea L.—валошка лугавая, Campanula patula L.—званок лугавы, Menyanthes trifoliata L.—бабок трылісьцёвы, Ptarmica vulgaris Clus—чыхотная трава, Alectorolophus All.—званец, Pedicularis palustris L.—увярэднік балотны, Polygonum Bistorta L.—драсен вужоўнікавы, Orchis maculata L., O. incarnata L.—зязюлкі, Erio-

phorum angustifolium Roth.—падвей вузкалісты, Glyceria fluitans R. Br.—манна звычайная, Carex elongata L., C. Goodenowii Gay., C. praecox Schreb—асака, Brunella vulgaris L.—брунэлька звычайная, Briza media L.—дрыжнік сярэдні.

У гародзе апошняга дому вёска Дымак, прылягаючага да самага Расла, зарэгістраваны наступныя расьліны: Papaver somniferum L.—мак сеўны, Chelidonium majus L.—паджыньнік, Cochlearia Armoracia L.—хрэн звычайны, Malva neglecta Wallr.—мальва звычайная, Melilotus albus Desr.—баркун белы, Oenothera biennis L.—каўжунішнік двохгадовы, Arctium Lappa L.—лопух вялікі, Hyoscyamus niger L.—блёкат чорны, Solanum nigrum L.—ліснік чорны, Euphorbia helioscopia L.—малачай, Atriplex hastatum L. i A. patulum L.—лябеднікі.

Урочышча Расла, як было ўжо сказана, досыць прыгожы куток прыроды і багаты ня толькі расьлінамі, але і рознымі жывёламі. Праўда, гэты бок меней дасьледваны, але ўсё-ж такі за час краязнаўчых экскурсій з вучнямі, а таксама пэрсональных вандровак, гутарак з жыхарамі Дымак, лясьнічым адзначана наступнае.

Багацей за ўсё Расла птушкамі. Тут з раньняй вясны і да часу адлёту лес напоўнены птушыным гоманам. Асабліва ў часы гнездаваньня. Сустракаюцца: Falco respertimus—копчык, Astur palumbarius—шуляк-цецеравятнік, Asia otus і A. accipitrinus—сава, Caprimulgus europaeus—казадой, Coracias garrula, Upupa epops, Sitta caesia, Troglodytes parvulus, Accentus modularis, Turdus musicus, Parus major, Oriolus galbula, Motacilla alba, Alauda arvensis, Sturnus vulgaris, Pica caudata, Corvus corax, C. cornix, Emberiza miliaria, tringilla coelebs, Chrysomitris spinus, Cuculus canorus, Picus major, P. nedius, Columba palumbus, C. livia, у часы такаваньня можна сустрэць Tetrao urogallus, на сенажаці ўрочышча звычайна зьяўляецца Vanellus cristatus, а таксама гнязьдзіцца на дрэвах Ciconia alba, Ardea cinerea. Многа асабліва вясною дзікіх качак розналькових відаў.

У вадазборы Расла водзіцца рыба галоўным чынам: Perca fluviatilis—вокунь, Acerina cernua—ёрш, Lota vulgaris—мянтуз, Idus melanotus—язь, Esox lucius—шчупак, Abramis Brama—лешч, Gobio fluviatilis—пяшчур, Leuciscus rutilus—плотка, а ў стаячых—Carassius vulgaris—карась, Misgurnus fossilis—уюн.

На дне затокаў надзвычайна многа Anodonta Cygnea—начовачак, Paludina vivipara—лужанак, Planorbis corneus—катушак. У стаячай вадзе—Triton taeniatus—трытонаў.

---

# Програмы, анкеты і інструкцыі.

## Спроба ўкладаньня анкет для зьбіраньня крытычна-біографічных матар'ялаў па гісторыі беларускай літаратуры.

*(З прац Катэдры гісторыі белаларускае літаратуры ІБК).*

Паміж чарговых задач вывучэньня гісторыі беларускае літаратуры адно з галоўных месц займае зьбіраньне розных матар'ялаў аб беларускіх пісьменьніках як ужо памершых, таксама і тых, якія зьяўляюцца нашымі сучасьнікамі і працуюць у бягучы час. Гэткія матар'ялы патрэбны як наогул для вывучэньня беларускае літаратуры і выданьня яе твораў, таксама ў прыватнасьці для ўкладаньня крытычна-біографічнага слоўніка беларускіх пісьменьнікаў.

Для таго, каб з'арганізаваць справу гэткага зьбіраньня матар'ялаў, трэба было ўкласьці некалькі анкет, на падставе якіх можна было-б апытаць сучасных пісьменьнікаў і атрымаць ад іх патрэбныя даведкі. Для гэтае мэты пажаданы тры віды анкет: анкета біографічнага зьместу, анкета крытычнага і анкета псыхолёгічнага (г. зн. дапасавальна да вывучэньня псыхолёгіі творчасьці).

Проекты гэткіх уласна анкет і апрацаваны Катэдрай гісторыі беларускае літаратуры. Два першыя проекты (біографічны і крытычны разьдзелы) складзены І. І. Замоціным; проект трэцяга разьдзелу (псыхолёгічнага) і пэдолёгічная частка да разьдзелу першага ўкладзены, згодна просьбы катэдры, асыстэнтам БДУ А. А. Гайвароўскім.

Усе тры проекты былі абгаворананы на пасяджэньнях катэдры і выклікалі цэлы шэраг заўваг і дадаткаў, якія былі ўнесены ва ўсе тры проекты.

З свойго боку агульны сход Клясы філёлёгіі, заслухаўшы гэтыя анкеты, унёс да іх некаторыя папраўкі і выказаў пажаданьне, каб яны былі надрукаваны.

Распаўсюджаньне гэтых анкет сярод грамадзтва і асабліва сярод краязнаўцаў адразу пасуне наперад справу зьбіраньня гістарычна-літаратурных матар'ялаў.

Найвялікшае значэньне для працы катэдры мае зьбіраньне зьвестак паводле першай анкеты (А). Запаўненьне гэтае анкеты неабходна правесьці ў першую чаргу. Але, зразумела, і дзьве іншыя анкеты (Б і В) паступова павінны быць запоўнены ў адносінах да кожнага пісьменьніка.

Улічваючы, што адказы на другую і трэцюю анкеты могуць быць больш цяжкімі, чым на першую анкету, ня толькі дзякуючы складанасьці іх зьместу, але і з прычыны ўвядзеньня ў іх спэцыяльнае

тэрмінолёгіі, Катэдра исторыі беларускае літаратуры мае на мэце ў бліжэйшы час даць да гэтых анкет тлумачальную запіску, каб палягчыць іх запаўненьне.

Самы тэкст ніжэйнадрукаваных анкет трэба разглядаць як спробу, як першапачатковы проект, які падлягае выпраўленьню, дапаўненью і ўдакладненьню па меры таго, як практыка карыстаньня анкэтамі будзе выклікаць адпаведныя ўказаньні і пажаданьні як саміх пісьменьнікаў, так і іншых асоб, якія будуць гэтыя весткі зьбіраць.

Катэдра гісторыі беларускае літаратуры зьвяртаецца да беларускіх пісьменьнікаў і да краязнаўцаў, якія возьмуць на сябе труд зьбіраньня матар'ялаў да даных анкет, з шчырай просьбай дапамагчы ў даных адносінах для вывучэньню беларускае літаратуры.

*І. Замоцін.*

Увага: Для зьбіраньня вестак аб памершых беларускіх пісьменьніках рэдакцыя анкет павінна быць некалькі зьменена, што і будзе зроблена ў бліжэйшы час. Але і ў сучасным сваім выглядзе анкеты ў паасобных частках могуць быць выкарыстаны як для ўкладаньня ўспамінаў аб тым ці іншым памершым пісьменьніку, таксама і для апытаньня тых асоб, якія ў тэй ці іншай ступені маюць гэтыя ўспаміны.

### А. Біографічны разьдзел.

1. Імя, па бацьку і прозьвішча. Пад якімі псэўдонімамі (апроч прозьвішча) друкавалі і друкуеце свае творы? Па магчымасьці пажаданы поўны пералік псэўдонімаў з паказаньнем іх пахаджэньня і іх увязкі з тым пэрыодам творчасьці і з тым выданьнем (часопісам, зборнікам, групаю твораў і г. д.), да якіх адносіцца даны псэўдонім ці група псэўдонімаў.

2. Год, месяц і дзень нараджэньня; зазначаючы дзень месяца неабходна паказаць, паводле якога стылю паказваецца дзень—старога ці новага. Месца нараджэньня з падрабязным зазначэньнем (горад, вуліца, нумар дому; губэрня, павет, вёска, сяло, сядзіба і інш.).

3. Бацькі: прозьвішча, імя бацькі і дзеда; дзявочае прозьвішча, імя маткі і яе імя па бацьку; іх асьвета, заняткі і кола інтарэсаў. Бліжэйшыя продкі (дзед, прадзед, бабка, прабабка) па бацькаўскай і матчынай лініі.

4. Социяльная спадчыннасьць. Вашая ўвязка з клясавым жыцьцём (сялянскім, рабочым, буржуазным, жыцьцём працоўнае інтэлігенцыі і г. д.) у раньнім дзяцінстве і ў наступны час? Якое значэньне мелі для Вас станавыя традыцыі,—побыт, псыхіка і ідэолёгія таго асяродзішча, у якім праходзілі Вашыя дзіцячыя і юнацкія гады?

5. Псыхо-фізыолёгічная спадчыннасьць. Здароўе бацькоў і бліжэйшых продкаў? Ці адбылася спадчыннасьць па лініі бацькі ці маткі ў адносінах да Вашага здароўя? Прыродная надаронасьць бацькі, маткі, братоў, сясьцёр, бліжэйшых продкаў? Ці выявілася спадчыннасьць у гэтых адносінах (перадача праз спадчыннасьць жвавасьці пачуцьця і выабражэньня, сілы памяці і наагул разумовых надаронасьцяй таго ці іншага віду)?

6. Абстаноўка і ўражаньні раньняга дзяцінства. Дзе вы правялі дзяцінства? Вашыя ўлюбёныя забавы ў дзіцячыя гады? Што ў вас засталося ў памяці ад раньніх дзіцячых гадоў? Якія ўплывы Вы перажылі ў раньнім дзяцінстве і якое ім прыдаеце значэньне?

7. На якой мове гаварылі ў Вашай сям'і, якія мовы Вы вывучылі ў дзяцінстве і якімі мовамы ўладаеце зараз?

8. Ці падупадалі Вы ў сям'і ці ў асяродзішчы, дзе праводзілі Вашы дзіцячыя гады, рэлігійным уплывам і наколькі яны былі моцныя?

9. Як праходзіла Вашае першапачатковае навучаньне ў сям'і ці ў іншай абстаноўцы? Хто вёў Вашае навучаньне? Якое было кола Вашых дзіцячых назіраньняў і разумовых інтарэсаў?

10. Калі вы паступілі ў школу (у якім узросьце)? Па якіх прадметах Вы выяўлялі ў школе найвялікшую зацікаўленасьць і посьпехі? Па якіх прадметах Вы выяўлялі найвялікшую непасьпяховасьць? Ці былі ў Вас сябры ў школе і з каго яны складаліся (з аднагодак, з падросткаў, больш старэйшага ўзросту, з хлопчыкаў, з дзяўчынак)? Што Вам больш за ўсё падабалася і не падабалася ў школьным жыцьці?

11. Якія ў вас былі пераважныя пазаклясныя інтарэсы (удзел у гуртках, у пазаклясных грамадзкай працы і г. д.)?

12. Ці любілі Вы чытаць і што (бэлетрыстыку, навуковыя кнігі і г. д.), і з якога часу Вы пачалі чытаць? Якімі пісьменьнікамі Вы больш за ўсё захапляліся (якіх пісьменьнікаў і якія іх творы больш за ўсё любілі чытаць)? Якія з літаратурных твораў, прачытаных Вамі ў пэрыяд Вашага дзяцінства, ня страцілі для Вас і зараз яшчэ сваёй цікавасьці і некаторай прывабнасьці?

13. Ці была у Вас ў пэрыяд школьнага ўзросту думкі аб тым, каб зрабіцца працаўнікам тае ці іншае профэсіі а ўласна якой (Вашы ідэалы асабовай працоўнай чыннасьці)?

14. Ці любілі Вы пісаць школьныя ўкладаньні? Цяжка ці лёгка Вам было іх пісаць? Ці не захаваліся хоць-бы некаторыя з іх у Вас?

15. Ці не знаходзілася сярод людзей, што былі пры Вас у дзяцінстве такіх, якія рабілі на Вас той ці іншы ўплыў у напрамку разьвіцьця Вашае асобы? Калі гэткія былі, дык хоць-бы некаторымі рысамі апішэце іх характар і іх уплыў на Вас.

16. Што Вы лічыце за найбольш сьветлыя і найбольш цяжкія моманты свайго дзяцінства? Чаго больш за ўсё Вы баяліся ў дзяцінстве (якіх-небудзь зьяў навакольнага жыцьця і прыроды, хвароб, сьмерці, страшных апавяданьняў і г. д.)?

17. У якім узросьце пачаліся Вашыя першыя любоўныя ці іншыя (напрыклад—музыка, спорт і г. д.) захапленьні і ў якой форме яны выяўляліся?

18. Як праходзіла Вашае навучаньне ў гады Вашага юнацтва, асабліва ў вышэйшай школе? Які быў характар Вашых інтарэсаў разумовых і грамадзкіх? Ці падупадалі Вы ўплыву таварышоў, настаўнікаў, профэсароў, студэнцкіх і розных грамадзкіх організацый?

19. Характар Вашае чыннасьці пасьля заканчэньня асьветы: спэцыяльнасьць, профэсія, служба? Кола Вашых грамадзкіх інтарэсаў і сувязяй у сталыя гады пасьля заканчэньня асьветы? Якая Вамі вядзецца грамадзкая праца? У якіх грамадзкіх організацыях прымаеце ўдзел?

20. Склад Вашага асабовага жыцьця (ці былі Вы жанаты, ці жанаты Вы зараз? калі жанаты, з кім? склад сям'і?).

21. Дзе (у якім горадзе, вёсцы, сядзібе і г. д.) Вы жылі ў дзяцінстве, у гады навучаньня, у сталыя гады? Калі пераяжджалі з аднаго месца (горад, губэрня і г. д.) у другое, дык чаму? Ці езьдзілі Вы за межы? Якія наагул мясцовасьці ў сябе на бацькаўшчыне і па-за яе межамі Вам вядомы?

22. Што Вы лічыце за пачатак Вашае літаратурнае чыннасьці? Калі пачаліся Вашыя літаратурныя спробы (у дзяцінстве, у гады школьнага навучаньня, у студэнцкія гады)? Што трэба лічыць за Ваш першы друкаваны твор, калі і дзе ён быў надрукаваны? Ці зьяўляецца

літаратурная праца для Вас асноўным ці падсобным заняткам? Ці дае яна Вам сродкі для жыцьця?

23. Да якога часу вы адносіце пачатак разьвіцьця Вашае нацыянальнае самасьвядомасьці? Пад якім уплывам Вы пачалі пісаць Вашыя творы на беларускай мове?

24. Кола Вашых літаратурных знаёмстваў і сувязяй? Да якіх літаратурных організацый і груповак Вы бліжэй стаіцё? З якімі пісьменьнікамі знаходзіцеся ў найбольш блізкіх сяброўскіх адносінах? У якіх рэдакцыях і выдавецтвах супрацоўнічаеце?

25. Якія здарэньні Вашага жыцьця Вы лічыце за асабліва выдатныя ў сэнсе Вашага асабовага разьвіцьця і ў сэнсе ўплыву на Вашую творчасьць?

26. Дайце хронолёгічную канву Вашага жыцьця і літаратурнай дзейнасьці, г. зн. пералічэце больш выдатныя моманты Вашага жыцьця і Вашыя творы ў хронолёгічным парадку.

Увага: Тыя моманты Вашага жыцьця і чыннасьці, якія не ахоплены гэтаю анкетаю, пералічэце і коратка ахарактарызуйце дадаткова.

## Б (Крытычны разьдзел).

1. Ці карыстаецеся Вы ў Вашай творчасьці крыніцамі аўтобіографічнага характару і, калі карыстаецеся, дык у якой меры (прывядзеце конкрэтныя выпадкі)? Якія Вашыя творы Вы лічыце за найбольш аўтобіографічныя?

2. Якую ролю займаюць у Вашай творчасьці фабульныя крыніцы, г. зн. ці маеце Вы звычай даваць сюжэтную апрацоўку розным жыцьцёвым зьявам, газэтным весткам, анэкдотычным апавяданьням і г. д.?

3. Якія назіраньні над жыцьцём у яго соцыяльна-культурных і соцыяльна-псыхолёгічных адносінах часьцей за ўсё ўваходзяць як матар'ял у Вашую творчасьць,—іначай кажучы, якія зьявы грамадзкага жыцьця, узятыя ў яго бытавой, псыхічнай і ідэолёгічнай устаноўках, часьцей за ўсё зьяўляюцца матар'ялам для Вашае творчасьці,—пераважна для эпоса, калі Вы пішаце эпічныя творы?

4. Якія здарэньні Вашага асабова жыцьця, асабовыя перажываньні і настроі, асабовыя ўспрыйманьні навакольнае рэчаіснасьці і г. д. часьцей за ўсё уваходзяць, як матар'ял, у Вашую творчасьць,—пераважна ў Вашыя лірычныя творы, калі Вы зьяўляецеся лірыкам?

5. Што вы лічыце за пераважную ідэолёгічную крыніцу Вашае творчасьці (г. зн. крыніцу, якая дае матар'ял для таго ці іншага асьвятленьня Вашых літаратурных твораў)—Вашыя філёзофскія пераконаньні, Вашыя грамадзка-палітычныя погляды ці паасобныя мотывы Вашага сьветагляду?

6. Ці ня можаце паказаць пісьменьнікаў, якія выклікалі ў Вас натхненьне да стварэньня тых ці іншых Вашых твораў? Ці не зьяўляюцца некаторыя Вашыя творы вынікам некаторага ўплыву твораў іншых пісьменьнікаў? Ці няма сярод Вашых твораў такіх, якія пабудаваны на літаратурных матар'ялах рознага зьместу (на ўспамінах, дзеньніках, лістох і г. д.), на народных і поўнародных творах (казках, народным эпосе, народнай лірыцы, паданьнях, легендах і г. д.)?

7. Ці лічыце Вы Вашыя адносіны да матар'ялаў (крыніц) Вашае творчасьці аднолькавым для розных пэрыодаў Вашае літаратурнае дзейнасьці, ці яны мяняліся разам з разьвіцьцём і ростам Вашае творчае працы?

8. Як Вы ўяўляеце свае адносіны да літаратурных кірункаў: ці далучаецеся Вы да якое-небудзь літаратурнае традыцыі (г. зн. ці прытрымліваецеся вызначанага кірунку, школы, якія ўжо ўстанавіліся), ці лічыце сябе пачынальнікам новага кірунку або, у крайняй меры, выяўнікам якога-небудзь ухілу ў адным з існуючых кірункаў? Як эвалюцыянавалі Вашыя адносіны да літаратурных кірункаў ці школ?

9. Ці маеце Вы якія-небудзь свае асноўныя прадпасылкі ў галіне эстэтыкі і поэтыкі, ці Вы ў гэтых адносінах далучаецеся да аднэй з устаноўленых літаратурных тэорый і да якой уласна (рэалізм, сымболізм, футурызм, пролетарская поэзія і г. д.)? Ці прытрымоўваецеся Вы ўвесь час аднэй якой-небудзь з гэтых літаратурных тэорый ці Ваша позыцыя ў гэтых адносінах мянялася?

10. Як Вы самі вызначаеце (коратка) сутнасьць і значэньне мастацтва наогул і ў прыватнасьці мастацка-літаратурнае творчасьці ў яго асноўных адзнаках і задачах? Заўсёды Вы аднолькава глядзелі на мастацтва і поэзію ці Вашыя погляды мяняліся?

11. Які характар крытыкі (формальна-мастацкая, соцыолёгічная, імпрэсыяніцкая і інш.) Вы ставіце вышэй і, калі Вы пішаце крытычныя артыкулы, дык якія Вашыя звычайныя віды крытыкі?

12. Як Вы адносіцеся да сучаснай літаратуры і яе прадстаўнікоў? Як адносіцеся да клясычнае (эўропейскае і наогул сусьветнае) літаратуры? Якіх клясыкаў Вы чыталі і чытаеце і якія творы лічыце за асабліва каштоўныя?

13. Якому жанру ў творчасьці (лірыка, эпос, драма і іх разнавіды) Вы аддаеце перавагу і чаму? Прытрымоўваецеся Вы заўсёды адных і тых-жа жанраў, ці Вашая літаратурная манера ў гэтых адносінах таксама эволюцыянуе? Калі Вы працуеце ў галіне драматургіі, дык ці пішаце Вы свае драматычныя творы для сцэны, ці драматычная творчасьць зьяўляецца для Вас самамэтай?

14. Ці ёсьць у Вашым творчым апараце ўлюбёныя прыёмы композыцыі аповесьці, роману, поэмы, драмы, лірычнага твору і ўласна якія (дайце конкрэтныя прыклады)? Мяняюцца з цягам часу Вашыя композыцыйныя прыёмы ці не?

15. Якія асаблівасьці стылю Вы лічыце за характэрныя для Вашай манеры пісаньня? Якія асаблівасьці вершаскладаньня (памер, строфіка, рытміка і інш.) лічыце Вы для сябе за характэрныя? У якім кірунку разьвінаецца Ваш стыль і вершаскладаньне на працягу Вашае літаратурнае дзейнасьці?

16. Якія бакі і зьявы побыту і грамадзкага жыцьця Вы часьцей за ўсё адбіваеце ў Вашай творчасьці? Што Вам з гэтых зарысовак найбольш на Вашую думку ўдаецца?

17. Якія Вы часьцей за ўсё і, на Ваш погляд, лепей за ўсё выяўляеце чалавечыя характары, узятыя ў відзе паасобных прадстаўнікоў таго ці іншага грамадзкага асяродзішча, ці ў відзе цэльных клясавых груповак?

18. Як Вы выяўляеце жыцьцё ў яго здарэньнях і асобах—пераважна індывідуальнымі вобразамі ці пераважна тыповымі? Прывядзеце прыклады гэткіх Вашых зарысовак, якія Вы самі лічыце тыповымі?

19. Якія зьявы і малюнкі прыроды Вы звычайна ўводзіце ў Вашыя творы? Рысуеце іх у роўніцы конкрэтных індывідуальных зьяў ці ў роўніцы тыповых абагульненьняў? Як звычайна Вы самі ўспрымаеце прыроду, г. зн. якое Вашае адчуваньне прыроды, і як яно выяўляецца ў Вашай творчасьці?

20. Якое Вы звычайна даеце асьвятленьне Вашым зарысоўкам

жыцьця і наогул Вашым тэмам—псыхолёгічнае, філёзофскае ці ідэолёгічнае ў больш вузкім сэнсе слова, г. зн. грамадзка-палітычнае?

21. У якой меры Вам удалося выявіць у вашай творчасьці свой сьветапогляд?

22. Ці лічыце Вы сваю творчасьць тэндэнцыйнай і, калі лічыце, дык у якім сэнсе, у якой меры,—за ўвесь час Вашае літаратурнае дзейнасьці ці толькі ў некаторыя моманты?

23. Якія з сваіх твораў Вы лічыце за найбольш удалыя, найбольш каштоўныя, г. каж. стрыжнёвыя ці асяродкавыя?

24. У якіх водзывах аб Вас дадзена на Ваш погляд найбольш правільная ацэнка Вашае творчасьці наогул і паасобных твораў у прыватнасьці?

25. Ці ўстанавіліся ў Вас сувязі з паасобнымі выдавецтвамі і якія ў Вас з імі адносіны?

26. Пры якіх абставінах выдаваліся зборнікі Вашых твораў ці поўныя зборы іх (гісторыя ўзьнікненьня паасобных зборнікаў і поўных збораў)?

27. Ці захоўваюцца рукапісы Вашых твораў, і, калі захоўваюцца, ці ня можаце Вы іх цалкам ці часткова перадаць на захаваньне і навукова-дасьледчае выкарыстаньне Катэдры беларускае літаратуры ІКБ?

28. Што з Вашае асабовае перапіскі можа мець, на Ваш погляд, значэньне для пабудаваньня Вашае біографіі і для вывучэньня Вашае літаратурнае дзейнасьці, г. зн. якія Вашыя лісты да тае ці іншае асобы ці якія лісты да Вас сваякоў Вашых, сяброў, знаёмых і незнаёмых могуць зьяўляцца гісторычна-літаратурным матар'ялам? Ці ня можаце Вы тую ці іншую частку Вашай перапіскі перадаць у распараджэньне Катэдры беларускае літаратуры ІБК?

> Увага: Тыя весткі аб складзе і характары літаратурнае дзейнасьці, якія не ахоплены гэтай анкетай, але маюцца ў распараджэньні пісьменьніка, просім хоць-бы ў кароткай форме далучыць да анкеты дадаткова.

### В. (Псыхолёгічны разьдзел).

1. Калі і на якой мове Вы пачалі першыя Вашы спробы ў літаратурнай творчасьці? Пакажэце іх характар, тэмы, памеры. Калі Вы пачалі пісаць не на беларускай, а на іншай якой-небудзь мове, дык як лёгка ці цяжка ўдавалася Вам пісаць не на роднай мове?

2. Ці ня было ў Вас якіх-небудзь больш ці менш вызначаных мотываў (ідэёвага, практычнага і інш. характару) да напісаньня Вашых першых твораў?

3. Як аб іх адзываліся блізкія да вас асобы, і як Вы самі расцэньвалі іх у той час?

4. Як Вы іх зараз расцэньваеце?

5. Калі Вы ўпяршыню пачалі друкаваць Вашыя творы, і якія мотывы ў Вас былі да іх надрукаваньня?

6. Пры якіх абставінах Вам удалося надрукаваць першыя Вашыя творы?

7. Якая вонкавая тэхніка ў процэсе Вашае літаратурнае працы —ці пішаце Вы творы сваёй рукою, друкуеце на машынцы, дыктуеце іх каму-небудзь, запісваеце начыста ці амаль начыста тое, што Вы раньш абдумалі, ці пішаце ўчарне і робіце папраўкі, зьмены і дадаткі?

8 Ці хутка Вы пішаце (з боку руху рукі) ці не? Ці часта Вы робіце перапынкі ў пісаньні, абдумваючы тое, што Вам трэба пісаць далей?

9. Які агульны тэмп Вашае працы: ці пішаце Вы роўнамерна,

прысьвячаючы для гэтага гадзіны дня ці тыдня, ці нярођнамерна, г. зн. не вызначаючы, будзеце Вы ў гэты тыдзень пісаць ці не?

10. Якая абстаноўка найбольш спрыяе Вашай працы?

11. Якімі рэчамі вы абкружаеце сябе ў часе працы: што, напр., Вы прызвычаіліся мець на сваім пісьмовым стале і каля сябе ў часе працы?

12. Ці не заўважалі Вы, што ў вядомыя гадзіны дня Вы лепей здольны працаваць, чым у іншыя гадзіны, і якія ўласна—раніцаю, у дзень, у вечары, у ночы?

13. Што стварае для Вас імпульс да працы: ці няма якіх-небудзь момантаў і абставін, якія маглі-б павышаць Вашую працу (напр. уплыў наведваньня концэрту, тэатру, кіно, праведзенае вечарыны ў гасьцях, уплыў узмоцненага курэньня і іншых наркотычных сродкаў і г. д.)? Ці ўплывае на Вашую творчасьць павышаная нэрвовасьць, або тое ці іншае адчуваньне хворасьці, якія-небудзь сны, так званыя неадчэпныя ідэі і г. д.?

14. Ці прыходзіцца Вам пісаць згодна заказу, да вызначанага тэрміну, для конкурсу, з ганарарных мотываў? Як Вы адносіцеся да гэткае працы?

15. Пішаце Вы наогул больш для сябе і для абмежаванага кола блізкіх і знаёмых ці пераважна для друку?

16. Ці ўплывае настрой на Вашую працу: ці можаце Вы, напрыклад, пасьля якое-небудзь атрыманае Вамі няпрыемнасьці ў гэты дзень працаваць ці працаваць тады, калі знаходзіцеся ў якім-небудзь прыгнечаным стане?

17. Які ўплыў на Ваш настрой і на ход Вашае працы робіць крытыка Вашых твораў і наогул рознага віду аб іх водзывы? Калі Вы драматург і пішаце для сцэны, дык які ўплыў на Вашую працу мае пастаноўка на сцэне Вашых твораў?

18. Ці бываюць у Вас такія моманты, калі Вас настолькі моцна цягне да пісаньня, што Вы прымушаны кінуць тую ці іншую працу, каб узяцца за пісаньне? Ці маеце Вы нахіл для імпровізацыі? Ці ня было ў працягу Вашае літаратурнае чыннасьці выпадкаў імпровізацый у тым ці іншым выглядзе?

19. Зрабеце спробу апісаць хоць-бы адну-дзьве тэмы Вашых твораў з боку іх пахаджэньня, г. зн., як і чаму ў Вас спачатку зьявілася думка аб тэй ці іншай тэме.

20. Што Вам даецца больш цяжка ў пісаньні—пачатак (складаньне агульнага пляну ці пісаньне ўступнае часткі Вашага твору), сярэдзіна (самае ядро разгортваючайся фабулы, здарэньняў, якія разгортваюцца, і ўчынкаў гэрояў) ці канец працы?

21. Ці маеце Вы перад сваім нутраным зрокам фабулу, плян працы ці не, альбо Вы пішаце, ня ведаючы таго, што Вы скажаце ў далейшых частках свайго твору?

22. Калі Вы пішаце, дык ці не знаходзяцца ў Вашай сьвядомасьці зрокавыя, слухавыя, шчупальныя і іншыя вобразы таго, аб чым Вы пішаце, ці ня чуеце Вы нутраным спосабам напр. тых размоў, якія пры разгортваньні фабулы Вашага твору вядуць між сабою яе гэроі?

23. Ці ня прыходзілася Вам прыкмячаць, што Вы, апісваючы характары і ўчынкі тых ці іншых гэрояў, апісваеце тых ці іншых жывых асоб, якія спатыкаліся ў Вашым жыцьці?

24. Ці абдумываеце Вы тыя чалавечыя ўчынкі, якія Вы апісваеце, ці абмяркоўваеце магчымыя мотывы гэтых учынкаў, ці пішаце інтуітыўна, прычым усе гэтыя ўчынкі і здарэньні як-быццам самі сабою разгортваюцца перад Вамі, і Вам застаецца іх толькі запісваць?

25. Як Вы адносіцеся да гэрояў Вашых твораў у самым процэсе пісаньня Вашае працы: ці жывуць яны староньнім ад Вас жыцьцём, ці Вы ўваходзіце ў іх і як-бы яднаецеся з імі ў іх учынках і перажываньнях?

26. Як часта ў Вас зьяўляецца патрэба ў перапрацоўцы твораў? Ці давяраеце Вы больш першаму свайму натхненьню ці больш разьлічаеце на перапрацоўку напісанага? Ці заўсёды для Вас ясна, чаму іменна Вы перапрацоўваеце даны твор—у прыватнасьці, чаму адкідваеце адзін варыянт і чаму другі прызнаеце за больш удалы?

27. Ці лёгка Вы перарабліваеце і выпраўляеце Вашую працу, ці пераробка даецца заўсёды з цяжкасьцю, і ці часта Вы перарабліваеце паасобныя месцы працы і менавіта якія (апісаньні прыроды, характараў, абстаноўкі, учынкаў, стылістычныя месцы і г. д.)?

28. Ці зьяўляецца ў Вас у процэсе працы жаданьне паказаць Ваш твор Вашым блізкім, знаёмым, сябром і калі гэткае паказваньне адбываецца, дык які ўплыў гэта робіць на Вас і Вашую працу?

29. Колькі вершаў ці колькі старонак Вам удавалася напісаць за адзін „прысест“?

30. Як Вы пачынаеце новую працу? Якія імпульсы часьцей за ўсё накіроўваюць Вас да новае працы? Ці цяжка Вам даецца пачатак працы над новым творам?

31. Назавеце 4-5 пісьменьнікаў, якіх Вы лічыце найбольш роднымі Вам духам іх творчасьці і стылем іх пісьма.

---

Усевалад Мікіцінскі.

# Аб організацыі групавых падарожай з мэтай пазнаньня і вывучэньня краю.

З набліжэньнем летняга часу перад краязнаўчымі аб‘яднаньнямі паўстае пытаньне аб організацыі падарожніцкай справы з мэтай пазнаньня і вывучэньня краю. Справа падарожніцтва ўваходзіць у непасрэдныя задачы сучаснага краязнаўства. Трэба сказаць, што, дзякуючы навізьне, мы дагэтуль не змаглі выпрацаваць пэўных правіл, якія дапамагалі-б справе організацыі падарожай і папярэджвалі-б нашы памылкі. Тым часам, можна рэкомэндаваць некаторыя правілы, разьлічваючы на тое, што ў процэсе далейшае працы ў гэтым кірунку, вопыт будзе павялічвацца, а справа ўдасканаліцца.

Гэтым маецца на ўвазе закрануць пытаньне аб організацыі групавых падарожай з мэтай пазнаньня і вывучэньне краю. Групавыя падарожы можна падзяліць на каротка і доўгатэрміновыя; да першых трэба аднесьці тыя, якія павінны адбыцца на працягу 1-2 дзён. Зразумела, што ажыцьцяўленьне падобнага тыпу падорожы патрабуе менш увагі, падрыхтоўкі і сродкаў, а таму можа адбыцца пры вялікім ліку ўдзельнікаў. Іншая справа, калі трэба організаваць доўгатэрміновую падарож. У апошнім выпадку шмат чаго трэба прадугледзець, абмеркаваць. Лік удзельнікаў карысна абмежаваць 10—12 асобамі, прымаючы пад увагу цяжкасьць набыцьця харчу і няспрыяючыя ўмовы для разьмяшчэньня падарожнікаў у час начлегу. Падрыхтоўка і ажыцьцяўленьне падарожы складаецца прыблізна з наступных момантаў:

1) Выяўленьне грашовых сродкаў, абгаварэньне магчымасьці павялічыць іх, складаньне орыентовачнага маршруту.

2) Калі канчаткова выяўлены грашовыя магчымасьці, трэба скласьці пэўны, падрабязны маршрут, выпрацаваць умовы для ўдзель-

нікаў, таксама правілы, і абвясьціць аб апошнім тэрміне падачы заяў› вызначыць адказнага кіраўніка, азнаёміцца з адпаведнай літаратурай.

3) Уласна падарож.

4) Апрацоўкі матар‘ялаў пасьля звароту з подарожы.

Пункт першы не патрабуе ніякіх тлумачэньняў. Па пункту другім трэба сказаць шмат чаго. Грашовыя магчымасьці адаб‘юцца як на маршруце, гэтак і на ўмовах прыцягненьня ўдзельнікаў. Адсюль выцякае залежнасьць працягу падарожы, затым, умоў: выключна на сродкі таварыства, на ўмовах нейкіх затрат збоку ўдзельнікаў, (прыкладам, харчаваньня) ці цалкам на сродкі апошніх, пры захаваньні таварыствам чыста організацыйнага боку, кіраваньня, а таксама набыцьця неабходных прылад для самае працы.

1. Асноўным дэвізам падарожніка павінна быць солідарнасьць, парадак, далікатнасьць. Адсюль выцякае ўсюды і заўсёды клапаціцца аб адхіленьні небясьпекі, посьпеху сваіх таварышоў ня менш, як аб самім сабе. 2. Выпрацаваны плян падарожы павінен быць выкананы ўдзельнікамі солідарна. 3. Усякія адхіленьні ад вызначанага машруту і агульнага выкананьня дазваляюцца толькі з ведама кіраўніка падарожы. 4. Распараджэньні кіраўніка, якія маюць на ўвазе адхіленьне небясьпекі пагражаючай паасобным удзельнікам, ці ўсяму складу падарожнікаў, павінны выконвацца зараз-жа і бяз усякіх спрэчак. Ня ўхіляцца ў бок ад вызначанага кірунку падарожы і не пакідаць месца прыпынку без узгадненьня з кіраўнікам. Аб усіх фізычных недамаганьнях даводзіць да ведама кіраўніка. Непаразуменьні, якія ўзьнікаюць сярод удзельнікаў, павінны вырашацца таварыскім судом, па згодзе абодвых бакоў. Кожны падарожнік павінен мець опіс прадметаў, узятых у падарож. Гэта неабходна на выпадак непаразуменьняў у выпадку прапажы якой-небудзь рэчы ў час падарожы.

Пры абгаварэньні мэты падарожы можа ўзьнікнуць патрэбнасьць завастрыць увагу на вывучэньні якой-небудзь акрэсьленай мясьціны, прыкладам, возера Князь з яго ваколіцамі. У даным выпадку галоўная ўвага накіроўваецца на вывучэньне вызначанага об‘скту, а іншыя прасторы падарожы дасьледуюцца павярхоўна. Тут магчыма заснаваньне базы ў пэўным месцы, адкуль падарожнікі пачынаюць доследы згодна сваім здольнасьцям, ці зацікаўленасьці якой-небудзь галінай. Калі няма аднаго пэўнага месца, то ўвесь прастор па шляху вандроўкі вывучаецца з аднолькавай увагай.

Дасьледваньне павінна праводзіцца ў прыродна-географічным, грамадзка-экономічным і культурна-гістарычным напрамках. Наконт умоў, спосабу падарожы і складу ўдзельнікаў карысна трымацца таго прынцыпу, каб падарож адбывалася пешшу пры аднэй фурманцы пад маемасьць падарожнікаў і розныя прылады, што значна спрые справе, вызваляе ўдзельнікаў ад цяганіны на сабе цяжару, забясьпечвае больш сталае абсталяваньне падарожы. У падарож прымаць асоб фізычна здаровых. Выпрацоўваючы ўмовы падарожы, трэба скласьці каштарыс прыблізна з наступных пунктаў: на падрыхтоўку да падарожы, на аплату фурманкі, на харчаваньне, на набыцьцё фотографічных матар‘ялаў, на непрадбачныя выдаткі і калі дазваляюць сродкі,—на набыцьцё рэчаў для музэю. У падарож прымаць асоб па заявах у пісьмовай форме.

Кожны падарожнік павінен мець пры сабе:

1) Пасьведчаньне асобы, пашпарт ці сяброўскі білет. 2) Палатняную ці скураную торбачку. 3) Адну ці дзьве пары бялізны ў залежнасьці ад тэрміну падарожы. 4) 2-3 пары шкарпэтак ці парцянак. 5) Ручнік і кавалак мыла. 6) Сьцізорык. 7) Лыжку і кружачку. 8) Сшы-

так і аловак. 9) Некалькі насавых хустак. 10) Кавалак шпагату. 11) Цёплую куртку, сьвітку, дажджавік ці пыльнік. 12) Коўдру і невялічкую падушачку (пры ўмовах доўгае падарожы).

Увага: Наконт абутку трэба сказаць, што лепш за ўсё насіць чаравікі, цяжкія боты значна перашкаджаюць, а сандалі нікуды не гадзяцца, бо ў іх пападае пясок і націрае ногі. Неабходна клапаціцца, каб ногі ня коўзаліся ў абутку, іначай можна нацерці пузыры, а таксама стараніцца розных рубцоў і латак на шкарпэтках і парцянках.

Усе падрабязнасьці па пункту 2-ім трэба зафіксаваць у пісьмовай форме; толькі ў такім выпадку можна ўхіліцца ад непарадку, бо ўсё будзе зразумелым і стройна складзеным. Калі ўсё абмяркована, то аб падорожы і ўмовах яе даводзіцца да ведама саброў т-ва.

Па пункту трэцім можна параіць наступнае: папершае адпраўляючыся ў падарож, удзельнікі павінны выдзеліць з свайго складу загадчыка гаспадарчай часткай, у абавязкі якога ўваходзіць рупіцца аб набыцьці харчу і весьці рахункі выдаткаў. У абавязкі кіраўніка ўваходзіць кіраваньне падарожаю, розныя перамовы з прадстаўнікамі ўлады на мясцох, клопаты аб адшуканьні памяшканьня пад начлег, разам з тым ён можа выконваць абавязкі скарбніка.

Перад выхадам у падарож т-ва павінна паклапаціцца аб набыцьці неабходных прылад як для працы, гэтак і для агульнай карысьці.

Прадметамі гэтымі могуць быць наступныя:

1) Фотографічны апарат з неабходным запасам пласьцінак і пры ладамі. 2) Географічная 3-х ці 5-цівярстовая карта. 3) Компас. 4) Лапата (для выемкі глебавых узораў і інш. патрэб). 5) Піла-нажоўка (для адпілоўкі ўзораў дрэўных парод і інш. патрэб). 6) Малаток 2-х ці 3-фунтовы (для разьбіваньня каменьня). 7) Тапор (для госпадарчых патрэб). 8) Мэтр і рулетка. 9) Прэс для сушкі расьлін, папка для складаньня высушаных расьлін, запас прапускной і газэтнай паперы. 10) Некалькі клубкоў шпагату. 11) Скрынкі для глебавых узораў. 12) Батанізірку ці фанерны чамаданчык для зьбіраньня расьлін. 13) Некалькі скрынак для захаваньня зьбіраемых матар'ялаў. 14) Сачкі для лову жамяры (insekta), калі маецца на ўвазе іх зьбіраць, марылкі, пудэлкі для захаваньня. 15) Бутэлечка ёду, кропель Іназемцава, некалькі парашкоў хіны, бінт і кавалак ваты. 16) Вядро, вяроўка і бразэнт. Калі маецца на ўвазе варыць страву, то ўсё неабходнае для гэтага.

Перад тым, як рушыць у дарогу, добра сфотографавацца ў поўнай баявой выкладцы. Кожны падарожнік павінен запісваць у сшытак свае ўражаньні і досьледы. У час вячэрняга адпачынку разьмяркоўваць працу на наступны дзень.

Па пункту чацьвертым. Па звароту з падарожы ўдзельнікі здаюць свае матар'ялы, выдзяляюць камісію, якая канчаткова апрацоўвае іх.

## Агульныя заўвагі.

Пры складаньні маршруту трэба мець на ўвазе тое, каб падарож адбылася ў абодвы бакі па іншых дарогах. Перад падарожаю карысна атрымаць дазвол ад Політычнае Управы на фотографаваньне. Вельмі карысна, каб у склад падарожнікаў уваходзілі фотограф, аматар ці рысавальшчык, што значна павялічыць каштоўнасьць падарожы. Старацца не праходзіць па маршруту ў дзень больш 12—15 вёрст. Робячы досьледы карысна загадзя выпрацаваць шэраг пытаньняў, на якія неабходна атрымаць адказ на месцы. Зьбіраньне матар'ялаў лепш за ўсё

ўдаецца ў сьвяточныя дні, калі мясцовае насельніцтва бывае вольным. Пры наведваньні паселішч трымаць сябе ў адносінах да насельніцтва далікатна і папрыяцельску, не дозваляць учынкаў, якія-б маглі быць вытлумачаны не на карысьць падарожнікаў, памятуючы аб тым, што прыход падарожнікаў пакідае ў вёсцы глыбокі сьлед. Асобам, якія дапамагалі ў час падарожы, карысна прысылаць фотографічныя здымкі іх мясцовасьці.

### Што мажліва ажыцьцявіць у час падарожы.

1) *У прыродна-географічным напрамку.* Апісваць мясцовасьць, выпраўляць географічную карту, наносячы на яе новыя паселішчы, зьмены, якія наглядаюцца ў адносінах да лясоў, балот, вазёр. Зьбіраць узоры глеб, карысныя выкапні, па магчымасьці абсьледваць месцы іх знаходжаньня ў мэтах выяўленьня плошчы, апісваць іх. Зьбіраць расьліны, якія рэдка сустракаюцца, узоры дрэўных парод, запісваць са слоў мясцовых жыхароў аб птушках і зьвярох, якія сустракаюцца ў данай мясцовасьці, аб плошчы, глыбіні вазёр, аб пародах рыб, фотографаваць і замалёўваць тыповыя краявіды, расьлінныя згуртаваньні, лясы, балоты, узвышшы, рэчкі, вазёры, прыгожыя мясьціны, геолёгічныя абгаленьні, помнікі прыроды і г. д.

2) *У культурна-гістарычным напрамку.* Апісваць помнікі старасьветчыны: курганы, гарадзішчы, могілкі, старасьвецкія будынкі як культавыя, гэтак і сьвецкія. Зьбіраць весткі аб розных гістарычных падзеях, рэволюцыйным руху, паншчыне, запісваць ад старых людзей успаміны аб старых часох, зьбіраць весткі аб раскопках і выпадковых знаходках. Запісваць легенды, зьвязаныя з помнікамі і рознымі мясьцінамі.

Фотографаваць і замалёўваць усё тое, што зьвязана з гісторыяй і варта ўвагі, складаць схэматычныя пляны помнікаў і шмат іншага.

3) *У грамадзка-экономічным напрамку.* Зьбіраць вусную народную творчасьць, апісваць народны быт як стары, гэтак і новы, апісваць заняткі насельніцтва, рамёствы, прамысловасьць, савецкае будаўніцтва, шляхі зносін, гандаль, фотографаваць тыпы насельніцтва, тыповыя будынкі, залюднёныя мясцовасьці, жыхарства ў час працы. Наогул у гэтым напрамку для краязнаўцы знойдзецца працы непачаты край.

---

# ХРОНІКА.

## Справаздача Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

### А. Дзейнасьць ЦБК.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства ў сваёй дзейнасьці на працягу 1927 году кіравалася, галоўным чынам, пастановамі II Усебеларускага Краязнаўчага Зьезду, які, як вядома, замацаваў організацыйныя формы краязнаўчага руху ў БССР і вызначыў шляхі яго далейшага разьвіцьця.

На падставе пастаноў і ўказаньняў Зьезду, Цэнтральнае Бюро Краязнаўства склала плян працы на ўвесь год, які імкнулася ажыцьцяўляць у сваёй дзейнасьці. Галоўнымі пытаньнямі, якія ўвайшлі ў плян працы, былі: організацыйныя, популярызацыйныя, інструкцыйна-мэтодычныя, інструктаж мясцовых краязнаўчых організацый, выдавецкая справа і інш.

У організацыйным кірунку за справаздачны пэрыод праароблена наступнае: праведзена 45 пасяджэньняў прэзыдыуму Цэнтральнага Бюро Краязнаўства і адзін пленум. На пасяджэньнях Прэзыдыуму разгледжана: 70 пытаньняў організацыйнага характару, 81 пытаньне, датычнае працы мясцовых краязнаўчых організацый, 17 справаздач аб працы акруговых краязнаўчых таварystваў, 8 справаздач школьна-краязнаўчых організацый гор. Менску, 17 пытаньняў мэтодычнага характару і 18 пытаньняў аб працы розных камісій і

сэкцый ЦБК і ІБК з мэтай увязкі працы. У пачатку акадэмічнага году былі разасланы па ўсіх мясцовых краязнаўчых організацыях тарыскія лісты, у якіх вызначаліся тыя пытаньні, на якіх павінна быць сконцэнтравана ўвага мясцовых краязнаўчых організацый. На працягу ўсяго справаздачнага пэрыоду вызначаліся ў перадавых артыкулах часопісу „Наш Край" галоўныя пытаньні працы мясцовых краязнаўчых організацый, на якіх павінна быць спынена ўвага, а таксама ўвесь час зьмяшчаліся падагульненьні аб працы Цэнтральнага Бюро Краязнаўства і інструкцыйна-кіраўнічыя матар'ялы. У пачатку акадэмічнага году былі высьветлены ў Камісіях і Катэдрах Інстытуту Беларускае Культуры тыя пытаньні, дасьледваньне якіх магчыма правесьці пры дапамозе краязнаўчых організацый. Гэтыя пытаньні былі ўнесены ў плян працы мясцовых краязнаўчых організацый. Узьнята пытаньне перад профсаюзнымі організацыямі і Комсамолам аб узмацненьні ўвагі з боку членаў гэтых організацый да пытананьняў краязнаўства і залічэньні працы па краязнаўству, як грамадзкай нагрузкі. З мэтай падрыхтоўкі належнага ліку краязнаўцаў узьнята перад Наркамасьветы і вырашана ў станоўчым сэнсе пытаньне аб увядзеньні курсу краязнаўства ў Тэхнікумах і ВУЗ'ах БССР. Каб выявіць дасягненьні краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў у справе фотографаваньня і зарысовак, наладжана разам з Беларускім Дзяржаўным музэем выстаўка краязнаўчых фотографій і зарысовак. Своечасова былі дадзены мясцовым краязнаўчым організацыям належныя ўказаньні аб парадку і формах удзелу краязнаўчых організацый у сьвяткаваньні 10-годзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі з мэтай скарыстаньня гэтых матар'ялаў для краязнаўчага вывучэньня.

У мэтах популярызацыі краязнаўчай справы, сярод працоўных мас зроблена наступнае: праведзены і абслужаны сіламі Цэнтральнага Бюро Краязнаўства дзьве студэнцкія краязнаўчыя конфэрэнцыі і дзьве конфэрэнцыі вучняў г. Менску. Прачытаны курс краязнаўства на ўсіх настаўніцкіх курсах, якія былі організаваны ўлетку ў Менску. Зроблена прадстаўнікамі ЦБК дзесяць дакладаў па краязнаўству на акруговых краязнаўчых конфэрэнцыях. Прачытаны ў краязнаўчых гуртках менскіх навучальных устаноў прадстаўнікамі ЦБК разам з навуковымі працаўнікамі Інбелкульту сорак сем лекцый і дакладаў на краязнаўчыя тэмы. Прачытаны два цыклі лекцый па краязнаўству па дванаццаць тэм кожны, па радыё. У мэтах падрыхтоўкі краязнаўцаў, організаваны і праведзены разам з таварыствам Краязнаўства Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту курсы краязнаўства, на якіх прачытана 12 дакладаў і лекцый організацыйна-мэтодычнага характару.

У галіне навукова-мэтодычнай увесь час робіцца вывучэньне форм і мэтодаў краязнаўчага руху ў БССР, а таксама праведзены падлік краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў. Зроблен падлік анкет, програм і іншага інструкцыйна-мэтодычнага матар'ялу, якія выдадзены краязнаўчымі організацыямі, або навуковымі інстытуцыямі і вызначаны тыя анкеты і програмы, у якіх адчуваецца патрэба ў працы мясцовых краязнаўчых організацый. У гэтым кірунку зроблены захады перад адпаведнымі навуковымі інстытуцыямі аб апрацоўцы неабходных мэтодычных указаньняў.

Распрацаваны і выдадзены працаўнікамі Цэнтральнага Бюро Краязнаўства наступныя програмы па краязнаўству: вывучэньне мястэчка, вывучэньне і складаньне раённых слоўнікаў мовы і географічнага, статут Цэнтральнага Бюро Краязнаўства, програма і формы абагульненьняў фэнолёгічных нагляданьняў, програма курсу краязнаўства ў ВУЗ'ах і тэхнікумах; апрацавана абагульненьне фэнолёгічных нагляданьняў за 1927 год па БССР.

У галіне інструктажу праведзена абсьледваньне працы акруговых таварыстваў краязнаўства па два-тры разы ў сярэднім. Абсьледвана інструктарамі праца трыццаці пяці раённых таварыстваў краязнаўства. Абсьледвана па два разы праца краязнаўчых гурткоў менскіх навучальных устаноў. У часе абсьледваньняў працы краязнаўчых організацый праведзена інструктарскім пэрсоналам ЦБК 39 сходаў і пасяджэньняў членаў організацый, на якіх зроблены інструкцыйна-мэтодычныя даклады па краязнаўству.

У галіне школьнага краязнаўства была зьвернута ўвага на ўвязку працы школьных краязнаўчых гурткоў з агульнымі краязнаўчымі організацыямі, а таксама са школьнымі саветамі. Ужыты належныя захады, каб унесьці краязнаўчы зьмест у школьныя програмы.

Праведзены падлік школьна-краязнаўчых гурткоў і іх працы, аб чым весткі накіраваны на школьную выстаўку ў Лейпцыг.

Згодна ўказаньняў Краязнаўчага Зьезду была ўдзелена значная ўвага пытаньням краязнаўства сярод нацыянальных меншасьцяй. Праведзена праца па організацыі сэкцый пры мясцовых краязнаўчых організацыях і вызначаны тыя пытаньні, на якіх павінна спыняцца ўвага нацменшасьцяй пры вывучэньні краю. Але трэба зазначыць, што, ня гледзячы на ўжытыя ў гэтым кірунку мерапрыемствы, краязнаўчая справа сярод нацменшасьцяй не разгарнулася належным чынам. У гэтым кірунку ёсьць дырэктыва больш дасканала вывучыць формы і асаблівасьці краязнаўства сярод нацменшасьцяй з тым, каб наладзіць яе.

У галіне выдавецкай справы выдадзена 10 нумароў часопісу „Наш Край", працы II Усебеларускага Краязнаўчага Зьезду, краязнаўчае апісаньне прыроды Асіпавіцкага раёну.

Праз часопіс „Наш край", як і ў мінулым годзе ішло накіраваньне ўсёй краязнаўчай справы і высьвятленьне стану яе на мясцох. На працягу справаздачнага пэрыоду ў часопісу зьмешчана:

а) артыкулаў агульна-кіраўнічага характару—35.

б) навуковага—34.

в) інструкцыйна-мэтодычнага—33.

г) мясцовых матар'ялаў—32.
д) хронікёрскіх заметак—100.

Гэты просты пералік зьмешчаных у часопісу матар'ялаў сьведчыць аб тым, што дырэктыва Краязнаўчага Зьезду, якая была дадзена ЦБК у гэтым кірунку, выканана: павялічыўся лік кіраўнічага і інструкцыйна-мэтодычнага матар'ялу, а таксама досыць добра адбівалася праца мясцовых краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў. Аб гэтым сьведчаць водзывы мясцовых краязнаўчых організацый у справаздачах за мінулы год: лік нездаволеных зьместам часопісу „Наш край" значна паменшыўся. Апошняе магчыма тлумачыцца тым, што часопіс выходзіў больш своечасова і рэгулярна, чым у папярэднія гады. Таксама значна пашырыўся лік супрацоўнікаў часопісу за мінулы год: выявіліся новыя сілы краязнаўцаў на мясцох, якія імкнуцца супрацоўнічаць у часопісу; прыцягнуты да супрацоўніцтва некаторыя вучоныя РСФСР, пашырыўся лік падпісчыкаў. Наогул часопіс набывае чым далей усё большую вагу сярод краязнаўчых організацый БССР і грамадзкасьці.

У справе апрацоўкі матар'ялаў з месц інстытуцыямі ІБК таксама ёсьць за мінулы год дасягненьні: наладжана справа з апрацоўкай фэнолёгічных матар'ялаў, мэтэоролёгічных, фольклёрных, а таксама з апрацоўкай розных анкет. Наладжана справа з паведамленьнем дапісчыкаў аб атрыманых матар'ялах: на кожны допіс даваліся сваечасова паведамленьні ці ЦБК ці адпаведнай камісіі ІБК непасрэдна, або праз часопіс „Наш Край", дзе зьмяшчаліся весткі аб атрыманых матар'ялах.

Як і ў мінулым годзе, праз часопіс „Наш Край" падтрымлівалася рэгулярная сувязь з краязнаўчымі організацыямі і навуковымі ўстановамі СССР. Усяго ЦБК вядзе абмен выданьнямі з 66 навуковымі організацыямі Саюзу, з замежнымі навуковымі ўстановамі і з усімі пэрыодычнымі і сталымі выданьнямі БССР. Апрача гэтага ў часе навуковай камандыроўкі т. Касьпяровіча ў Фіншчыну ім заснавана непасрэдная сувязь з краязнаўчымі організацыямі гэтай краіны, Латвіі, Літвы і Эстоніі. У часе III Усерасійскай Конфэрэнцыі ў студзені, дэлегатамі конфэрэнцыі наладжана сувязь з краязнаўчымі організацыямі Саюзу. Наладжаньне сувязі з паказанымі вышэй краязнаўчымі організацыямі адбілася ў працы ЦБК, якое скарыстоўвала вопыт і дасягненьні іх у процэсе сваёй працы, што значна дапамагала росту і пашырэньню краязнаўчай справы.

**Б. Стан краязнаўчай справы на мясцох.**

Асноўным пытаньнем у працы краязнаўчай сеткі на мясцох ёсьць усебаковае вывучэньне адпаведнай тэрыторыі—раёну, акругі. У гэтым кірунку і вялася праца большасьцю мясцовых краязнаўчых організацый.

Матар'яльная база краязнаўчых організацый у справаздачным годзе ў параўнаньні з мінулым павялічылася з 8.500 руб. да 10.572 руб., што дае рост каля 25%. Але ўзмацненьне матар'яльнага становішча ідзе неаднолькава па ўсіх акругах. Ёсьць акругі (Магілеўшчына, Аршаншчына), у якіх заўважаецца зьмяншэньне выдачы сродкаў на краязнаўчую справу. Па акруговых таварыствах краязнаўства гэтыя сродкі разьмяркоўваюцца такім чынам:

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Колькі т-ва мела летась | Колькі мае сёлета | Колькі ўнесена ў каштарыс |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Аршанская . . . . . . | 600 | 500 | 1000 |
| 2 | Бабруйская і б. Слуцкая . . . | 1000 | 2262 | 2300 |
| 3 | Віцебская . . . . . . | 2000 | 1500 | 3000 |
| 4 | Гомельская і б. Рэчыцкая . . . | — | 1500 | 1500 |
| 5 | Магілеўская і б. Калінінская . . . | 1100 | 500 | 1000 |
| 6 | Мазырская . . . . . . | 3800 | 2310 | 3800 |
| 7 | Менская і б. Барысаўская . . . | — | 1000 | 1000 |
| 8 | Полацкая . . . . . . | — | 1000 | 1500 |
| | Разам . . . | 8500 | 10572 | 15100 |

Гэтыя невялічкія пакуль што асыгнаваньні па мясцовых каштарысах на краязнаўчую справу, галоўным чынам, ідуць на ўтрыманьне краязнаўчых музэяў (Бабруйск, Слуцак, Полацак і Мазыр) і на выданьні акруговых краязнаўчых зборнікаў (Менск, Віцебск, Гомель, Полацак, Мазыр і Бабруйск). На разгортваньне і пашырэньне краязнаўчымі організацыямі навукова-дасьледчай справы сродкі амаль не выдаваліся. А Магілеўская акруга не адпусьціла нават сродкаў на ўтрыманьне існуючага Калінінскага краязнаўчага музэю. Паміж тым рост і важнасьць справы вымагаюць выдаткаваньня сродкаў і на гэты бок працы. У будучым мясцовыя органы ўлады павінны будуць улічыць гэта пры складаньні каштарысу.

На 1 студзеня 1928 г. ўсіх краязнаўчых організацый налічваецца 301, з ліку якіх: акруговых таварыстваў краязнаўства—8, раённых—100, гурткоў краязнаўства—96, школьных і тэхнікумаўскіх гурткоў і таварыстваў краязнаўства ў Вузах—97. Ня гледзячы на тое, што справаздачныя весткі дасланы толькі акруговымі і паловай раённых краязнаўчых таварыстваў, назіраецца рост нізавых сельсавецкіх і школьных гурткоў краязнаўства. Лік організацый па акругах відаць з наступнай табліцы.

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Даслалі весткі: К II Зьезду | Даслалі весткі: На 1/I 28 г. | Не даслалі вестак: К II Зьезду | Не даслалі вестак: На 1/I 28 г. | Усіх: Перад II З. | Усіх: Цяпер |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Аршанская . . . . . . . | 6 | 41 | 23 | 4 | 29 | 45 |
| 2 | Бабруйская разам з б. Слуцкай . . | 12 | 18 | 14 | 10 | 26 | 28 |
| 3 | Віцебская . . . . . . . | 16 | 41 | 6 | 5 | 22 | 46 |
| 4 | Гомельская . . . . . . . | — | 2 | 2 | 10 | 2 | 12 |
| 5 | Магілеўская разам з б. Калінінскай . | 24 | 57 | 50 | 7 | 74 | 64 |
| 6 | Мазырская . . . . . . . | 10 | 37 | 5 | 1 | 15 | 38 |
| 7 | Менская і б. Барысаўская . . . | 23 | 39 | 34 | 10 | 57 | 49 |
| 8 | Полацкая . . . . . . . | 5 | 15 | 10 | 4 | 15 | 19 |
| | Разам . . . | 96 | 250 | 144 | 51 | 240 | 301 |

Гэтыя весткі відавочна сьведчаць аб тым, што лік краязнаўчых організацый расьце за кошт нізавых сельсавецкіх гурткоў, а таксама за кошт павялічэньня школьных гурткоў.

Процант організацый не даслаўшых справаздачных вестак хоць і панізіўся, але ўсётакі ён яшчэ досыць значны, прычым ён падае, галоўным чынам на раённыя краязнаўчыя організацыі. Гэтая акалічнасьць вельмі перашкаджае выяўленьню дасканалага і дакладнага малюнку росту краязнаўчай сеткі. Па некаторых організацыях прыходзіцца браць весткі мінулага году.

Лік членаў краязнаўчай сеткі на 1 студзеня агулам павялічыўся на 12% з 9367 да 10510. Гэты тэмп росту сьведчыць, што краязнаўчыя організацыі ад буйнага тэмпу росту пераходзяць да больш нормальнага. Падзел па партыйнасьці, нацыянальнасьці і профэсіі членаў краязнаўчых організацый выяўляецца з наступнай табліцы (гл. стар. 59).

У параўнаньні з мінулым годам склад членаў краязнаўчых організацый значна аднавіўся як па партыйнасьці, гэтак і па профэсіі. Па партыйнасьці хоць лік партыйцаў трохі і зьменшыўся (з 10% да 8), але значна ўзрос процант членаў КСМ з 6% да 11,7. Такім чынам, можна лічыць, што агулам процант партыйнага складу павялічыўся на 3,7% або дасягае да 20%. Таксама назіраецца рост складу за кошт вучняў нашых тэхнікумаў, Вузаў старэйшых клясаў сямігодак. Гэты рост, па нашай думцы, зьяўляецца ростам здаровым і адпавядаючым агульнай установцы савецкага краязнаўчага руху. Нацыянальны склад зьмяніўся мала. Як адмоўнае зьявішча, трэба адзначыць адыход часткі настаўніцтва ад удзелу ў краязнаўчай справе. На працягу мінулага году ў працы мясцовых краязнаўчых організацый ёсьць наступныя дасягненьні: выданы зборнік Магілеўшчына і Горацкі раён, друкуецца II ч. зборніку Віцебшчына, падрыхтоўваюцца да друку школьна-краязнаўчая хрэстоматыя

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Па партыйнасьці | | | Па нацыянальнасьці | | | | | Па профэсіі | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Чл.і канд. КПБ | Чл. КСМ | Беспарт. | Белар. | Яўрэяў | Паляк. | Расіяцаў | Іншых | Асьветнікаў | Вучняў | Іншых | |
| 1 | Аршанская . . | 7 | 17 | 76 | 82 | 14 | 1,4 | 1,9 | 0,7 | 38 | 43 | 19 | Весткі пададзены ў проц. |
| 2 | Бабруйская . . | 7 | 19 | 74 | 75 | 22 | 1 | 1 | 1 | 25 | 61 | 14 | |
| 3 | Віцебская . . | 6,2 | 8 | 85,8 | 84 | 13 | 0,6 | 1 | 1,4 | 61 | 27 | 12 | |
| 4 | Гомельская . . | 8 | 0,5 | 91,5 | 80 | 14 | — | 6 | — | 100 | — | — | |
| 5 | Магілеўская . | 6,3 | 9,6 | 84,1 | 90,5 | 6,3 | 1,2 | 1,5 | 0,5 | 65 | 15 | 20 | |
| 6 | Мазырская . . | 13 | 18 | 69 | 69 | 24 | 2 | 2,5 | 2,5 | 40 | 33 | 27 | |
| 7 | Менская . . | 6,5 | 13 | 80,5 | 84 | 12 | 2 | 1 | 1 | 60 | 35 | 5 | |
| 8 | Полацкая . . | 10 | 9 | 81 | 85 | 10 | 2,3 | 2,2 | 0,5 | 82 | 1 | 17 | |
| | Сярэдні %. | 8 | 11,7 | 80,3 | 81 | 14,4 | 1,3 | 2,2 | 1,1 | 60 | 27 | 13 | |

Магілеўшчыны, зборнікі Полаччыны, Гомельшчыны, Меншчыны, Бабруйшчыны і Мазыршчыны, зроблены 207 штук розных апісаньняў, выпускаюцца два раённыя часопісы (Барысаўскі раён і Смалявіцкі). Лік сяброў па 58 організацыях, якія даслалі ў ЦБК весткі аб сваёй краязнаўчай дзейнасьці, з 1334 узрос да 1494. Па акругах гэты рост ідзе такім чынам:

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Лік членаў, якія зрабілі краязн. працу | | Увага |
|---|---|---|---|---|
| | | У мінулым годзе | У справаздачным | |
| 1 | Аршанская . . . . . . | 200 | 307 | Памянёныя весткі летась улічаны на 93 краязнаўчых організацыях, а сёлета на 58. |
| 2 | Бабруйская з б. Слуцкая . . | 142 | 142 | |
| 3 | Віцебская . . . . . . | 288 | 249 | |
| 4 | Гомельская . . . . . | — | — | |
| 5 | Магілеўская . . . . . | 211 | 180 | |
| 6 | Мазырская . . . . . | 103 | 451 | |
| 7 | Менская . . . . . | 244 | 123 | |
| 8 | Полацкая . . . . . | 104 | 72 | |
| | Разам . . . | 1334 | 1494 | |

Лік краязнаўчых музэяў у справаздачным годзе таксама ўзрос толькі па 58 організацыях, якія даслалі весткі. Зарэгістравана 19 музэяў супроць 18 мінулага году, з іх забясьпечаных памяшканьнямі 17 супроць 12. Лік экспонатаў у музэях узрос з 11.239 да 15.319. Дэталёвы рост па акругах вызначаецца наступнай табліцай (гл. стар. 60).

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Музэяў | | Экспонатаў | | Памяшканьняў уласных | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Перад II Зьезд. | На 1/I 28 г. | Перад II Зьезд. | Цяпер | Перад II Зьезд. | Цяпер | |
| 1 | Аршанская . . | 3 | 4 | 1150 | 4000 | 2 | 4 | Па Бабруйскай акрузе назіраецца зьмяншэньне даных, бо шмат організацый не дасалі вестак. |
| 2 | Бабруйская . . | 4 | 2 | 5825 | 4475 | 3 | 2 | |
| 3 | Віцебская . . . | 1 | 1 | 240 | 480 | 1 | 1 | |
| 4 | Гомельская . . | — | — | — | — | — | — | |
| 5 | Магілеўская . . | 4 | 4 | 2990 | 2344 | 4 | 4 | |
| 6 | Мазырская . . | 3 | 4 | — | 1800 | — | 4 | |
| 7 | Менская . . . | 2 | 2 | 534 | 1020 | 2 | 2 | |
| 8 | Полацкая . . . | 1 | 2 | 500 | 1200 | 1 | 2 | |
| | Разам . . | 18 | 19 | 11239 | 15319 | 12 | 17 | |

Пададзеныя весткі сьведчаць аб паглыбленьні краязнаўчай справы. Аб гэтым гаворыць і той факт, што ёсьць выпадкі, калі Раённыя Выканаўчыя Камітэты, бачучы рэальныя вынікі краязнаўчай справы мясцовых організацый, робяць грашовую дапамогу (Коханава, Талачын, Нароўля, Капаткевічы і іншыя).

Таксама праароблена вялікая праца мясцовымі краязнаўчымі організацыямі ў справе дапамогі навуковым інстытуцыям БССР, што можна бачыць з наступнага:

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | Сабрана краязн. організацыямі | | | | | | Праведзена | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Картак-слоў | Фольклёрных запісаў | Колекцый | Апісаньняў | Анкет | Іншых матар'ялаў | Экскурсій | Экспэдыцый |
| 1 | Аршанская . . . | 18232 | 7366 | 22 | 15 | 89 | 13 | 14 | — |
| 2 | Бабруйская . . . | 4100 | 1145 | 9 | — | 8 | 235 | 5 | — |
| 3 | Віцебская . . . . | 2400 | 2634 | 17 | 44 | 80 | 23 | 6 | — |
| 4 | Гомельская . . . | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 5 | Магілеўская . . . | 12313 | 2108 | 20 | 73 | 84 | 38 | 15 | 2 |
| 6 | Мазырская . . . | 14345 | 1210 | 10 | 56 | 126 | 405 | 18 | 2 |
| 7 | Менская . . . . | 9865 | 1521 | 10 | 11 | 51 | 305 | 2 | — |
| 8 | Полацкая . . . . | 11050 | 2323 | 10 | 8 | 8 | 18 | 8 | — |
| | Разам . . | 62305 | 18307 | 98 | 207 | 446 | 1037 | 68 | 4 |

У справе рэалізацыі краязнаўчымі організацыямі сваёй творчасьці ёсьць у гэтым годзе крок наперад—гэта выданьне двох раённых краязнаўчых часопісаў—Барысаўскім і Смалявіцкім таварыствамі краязнаўства. Гэты прыклад іншым краязнаўчым організацыям трэба ўзяць пад увагу і таксама ўжыць у сваёй практыцы. Гэта дапаможа

росту і ўзмацненьню ўвагі да краязнаўства з боку мясцовых органаў улады і ўсёй грамадзкасьці.

Як дадатны бок у росьце краязнаўчай справы ў сучасны момант трэба адзначыць надзвычайна вялікую зацікаўленасьць да яе з боку нашай вучнёўскай моладзі.

Краязнаўчы рух у школах сямігодках, у пэдтэхнікумах і асабліва ў апошні год у БДУ мае вялікія посьпехі, як з боку набыцьця ведаў мэтодычных, гэтак і ў навукова-дасьледчым кірунку. Увядзеньне курсу краязнаўства ў тэхнікумах і Вузах дапаможа ўзмацненьню гэтай працы і надасьць ёй сталы выгляд.

Адзначаючы дасягненьні ў краязнаўчай справе за мінулы год, прыходзіцца спыніцца і на недахопах, якія перашкаджаюць росту справы. Галоўнымі недахопамі зьяўляліся: адсутнасьць сродкаў, памяшканьняў для організацый раённых краязнаўчых музэяў і недахоп у некаторых мясцох кіраўнікоў-організатараў справы. Гэтыя недахопы былі прычынай таго, што слаба рэалізавалася творчая дзейнасьць краязнаўчай сеткі; гэтым тлумачыцца слабая дзейнасьць некаторых раённых організацый. Але паступова праз узмацненьне аўтарытэту краязнаўчага руху, праз выяўленьне вынікаў яго працы гэтыя недахопы памяншаюцца.

У мэтах наладжаньня і ўзмацненьня краязнаўчай справы ў далейшым патрэбна:

а) працягваць працу па папулярызацыі краязнаўства, каб стварыць навокал гэтага пытаньня належную грамадзкую думку.

б) стаць на шлях выдачы сродкаў па мясцовым каштарысе на падтрыманьне працы мясцовых краязнаўчых організацый і рэалізацыі іх творчай дзейнасьці.

в) увесьці ў Вузах і тэхнікумах курс краязнаўства і, наогул, наладзіць справу з падрыхтоўкай кадру краязнаўцаў.

г) увязаць працу мясцовых краязнаўчых організацый з мясцовымі дзяржаўнымі плянавымі органамі.

Вось асноўныя мерапрыемствы, якія могуць дапамагчы ўзмацненьню краязнаўчай справы. А. Казак.

## Краязнаўчая праца Яўрэйскага сэктару Інбелкульту.

За апошнія месяцы (люты-май) Яўрэйскі сэктар Інбелкульту атрымаў для распрацоўкі вось якія матар'ялы:

Ад тав. Фрыдмана (Менск)—Анэкдоты (зладзейскія, цыганскія, хасыдзкія, рэлігійныя і інш.), усяго 128 нумароў.

Ад тав. Бэрына (Гомель)—20 народных песень.

Ад тав. Аргуса (Віцебск)—Пагаворкі прымоўкі, і інш. каля 500 нумароў, анэкдоты—30 нумароў.

Ад тав. Голомштока (Менск)—Народна-рэлігійная драма „Продаж Ёсіфа", запісаная ў м. Нароўлі, Мазырск. акр.

Ад тав. Ангеловіча (Менск)—Народныя песьні—2 №№.

Ад тав. Чахоцкага (Рагачэў)—Пагаворкі і прымоўкі (230 №№).

Ад тав. Мельцара (Мазыр) — Народныя песьні 4 №№.

Ад тав. Рэмез (Ворша)—Пагаворкі, анэкдоты (55 №№).

Ад тав. Азёрскай (БДУ)—Пролетарскія песьні (7 №№).

Ад тав. Душмана (Менск)—Запіс народна-рэлігійнай драмы „Прынясеньне ў ахвяру Ісаака".

Ад тав. Іткінай (Прапойск) — Анкетнае абсьледваньне м. Прапойску.

Ад тав. Рутшрэйна (Касьцюковічы) —Анкеты абсьледваньня м. Касьцюковічы.

Ад тав. А. Чарнага (Бабруйск) — Гістарычныя докумэнты пэрыоду польскай окупацыі ў г. Чэрвені.

Ад тав. А. Валабрынскага (Менск)—Кніга па народнай мэдыцыне, зложана ў м. Койданаве, менскай акр., у 1811 г.

На ўсесаюзным зьезьдзе ў Харкаве (9-14 красавіка г. г.) яўрэйскіх культурных працаўнікоў прынята рэзолюцыя аб узмацненьні краязнаўчай працы сярод яўрэйскага насельніцтва СССР і павялічэньня краязнаўчай працы сярод яўрэйскіх навуковых установу Саюзу.

Яўрэйскі сэктар Інбелкульту выпусьціў з друку на яўрэйскай мове кніжку-інструкцыю т. Г. С. Аляксандрава „Вывучайце сваё мястэчка". Кніжка разаслана краязнаўчым т-вам па мясцох для яўрэйскіх сэкцый.

## Што атрымала ЦБК у красавіку месяцы.

Ад Слуцкага раён. т-ва краязнаўства 150 песень рознага зьместу, запісаных у час краязнаўчай экскурсіі на „Князь-возера".

Ад Мазырскага акр. т-ва кр-ва—83 песьні рознага зьместу, запісаных краязнаўчым гуртком II Мазырскай 7-годкі.

Ад краязнаўчага гуртка Рагачэўскага пэдтэхнікума—36 песень, прыпевак і інш. фольклёрны матар'ял, сабраны студэнтамі.

Ад гр-на У. Я. Парфёнава—казкі аб ваўкалаках і інш. матар'ялы на 12 лістох.

Ад гр-на І. А. Суруса—казкі і інш. матар'ялы народнай творчасьці на 26 лістох.

Ад краязнаўчага гуртка Каралінскай 7-годкі Мазырскай акр.—12 сшыткаў розных песень, прыказак і інш., запісаных сябрамі гуртка.

Ад краязнаўчага гуртка Клімавіцкай 2-ой 7-годкі Магілеўск. акр.—125 вучнёўскіх сшыткаў з розным фольклёрным матар'ялам, запісаным вучнямі.

Ад краязнаўчага гуртка Асіпавіцкай чыгуначнай 7-годкі—10 песень і інш. фольклёрны матар'ял на 9 лістох.

Ад студэнта Віцебскага Мастацкага Тэхнікума Стальмашэўскага—апісаньне вясельля з песьнямі і 20 песень рознага зьместу.

Ад гр-на Я. А. Цэхановіча (Менск)—артыкул „Да пытаньня аб навукова-архэолёгічных экспэдыцыях у краязнаўчай працы".

Ад В. П. Марыновіча (ст. Лосьвіда, Ві-

цебск. акр.)—артыкул „Зимняя жизнь большого пестрого дятла в Витебщине".

Ад В. Самцэвіча і П. Стрыгуцкага (гор. Барысаў)—артыкул „Прамысловыя прадпрыемствы Барысаўскага гарадзкога камбінату".

Ад К. Гурвіча (г. Менск)—артыкул „Краязнаўчыя бібліотэкі і іх склад".

Ад В. Дзьмітрава (г. Смаленск)—артыкул „Краеведческая работа в Смоленской губернии в 1927 году".

Ад З. І. Даўгялы (г. Менск)—артыкул „Места Сьвіславіцкае ў 1560 годзе".

Ад Р. П. Рака (г. Менск) – артыкул „Інструкцыя для вывучэньня базараў".

Ад г. Вялішчанскага (г. Рагачэў)—артыкул „Рыбная фаўна Дняпра".

Ад краязнаўчага гуртка Рагачэўскага Пэдтэхнікума—артыкул „Абсьледаваньне вёскі Збароў Рагач. раёну".

Ад М. Цыганова (г. Бабруйск)—артыкул „Цьвярдыня расійскага царызму на Беларусі" (Бабруйская крэпасьць да паловы XIX в.).

Ад проф. В. Салаўёва (г. Горкі)—артыкул „Краязнаўчая праца і паляўніцтва".

Ад З. Кагана і Д. Рыжа (г. Сянно)—артыкул „Пахаваньне яўрэяў у г. Сянно".

Ад М. Х. Зубовіча (г. Горкі)—артыкул „Як гістарычна зьмянялася на Беларусі лясістасьць".

Ад М. Дабратворскага (г. Менск)—артыкул „Нашы чмялі".

Ад М. С. Сучко (г. Магілёў)—артыкул „З жыцьця рыб на Беларусі" (Назіраньні аматара-рыбалова).

Ад розных мэтэоролёгічных пунктаў нагляданьні над атмосфэрнымі ападкамі за сакавік і красавік—24 ведамасьці.

Ад 64 фэнолёгічных пунктаў паведамленьні аб зьявах у прыродзе.

На краязнаўчую выстаўку—фотоздымкі і зарысоўкі: ад А. Немцава (м. Асіпавічы)—11 фотографій; ад І Сьляпяна (г. Менск)—10 фотогр., ад Барысаўскага т-ва кр-ва—51 фотографія, ад Слуцкага р. т. кр.—90 фотографій, ад Шацкага краязн. гуртка—50 фотогр., ад Магілеўскага аддзяленьня Белар. Дзярж. Музэю—61 фотогр. і 6 мастацкіх зарысовак; ад мастака Р. Пархоменка (г. Магілеў)—30 зарысовак; ад мастака А. Тычыны—20 малюнкаў, ад мастака-фотографа Соловейчыка (Менск)—12 фотогр.; ад гр. К. Фальковіча (Менск)—20 фотогр.; ад гр. Валькоўскага (г. Бабруйск) і інш.

## Праца краязнаўчага гуртка пры Барысаўскім Пэдтэхнікуме.

Праца пашырылася па розных напрамках. Самі вучні зьяўляюцца штурхачамі працы. Наладжваецца сувязь гуртка з іншымі мясцовасьцямі. Гурток распрацоўвае плян працы на лета і летніх экскурсій, рыхтуе выданьні зборніка, у якім будзе разгледжана да 20 тэм дасьледваньня. 1 красавіка гурток правёў „дзень птушкі", апісаньне якога зьмяшчаецца.



Дзень птушкі.

### „Дзень птушкі“.

Умовіліся „Дзень аховы птушак“ правясьці 1 красавіка. Трохі для другога году было-б пазнавата, але, як бачым, у гэтым годзе перашкоды няма. Да 1-га вялася падрыхтоўчая праца. Былі апрацованы лёзунгі, разьмяркована вырабка шпакоўняў паміж вучнямі, апрацованы тэзісы для прамовы, з якою павінен быў выступіць вучань на мітынгу.

Назначылі 1 красавіка сабрацца каля будынку школы а 10 гадзіне. Амаль што і не спазьніліся.

Каля школы вучні пастроіліся „па чатыры“, узялі школьны сьцяг, лёзунгі, шпакоўні і, падняўшы над плячом, пашлі на галоўную вуліцу.

1-га красавіка выпадала ў нядзелю, на вуліцы было шмат людзей. Дзень быў сонечны. У Н.-Барысаве гэта было новым зьявішчам, дзеля чаго грамадзяне спыняліся і глядзелі з зацікаўленасьцю на вучнёўскую калёну.

Супроць фотографа затрымаліся, бо фотографу захацелася засьняць.

Каля базарнай плошчы калёна застанавілася. Тут быў праведзены мітынг для грамадзян. Выступіў вучань, які падкрэсьліў значэньне птушак для нашай гаспадаркі ў барацьбе са шкоднікамі, аб нашых абавязках дапамагчы птушкам пабудаваць гнёзды, а не руйнаваць іх.

Пасьля мітынгу вучні падзяліліся на групкі і пашлі прыбіваць шпакоўні ў тыя месцы, дзе раней было намечана. Расстаўлена 16 шпакоўняў. Бязумоўна, што гэта ня так многа. Але ня ў гэтым справа. Справа ў тым, што гэтым быў заложан пачатак таму, за што павінна ўзяцца шырокая грамадзкасьць. Сябры школьнага краязнаўства, якія вышлі са шпакоўнямі, як піонэры гэтае справы, паказалі сябе праваднікамі каштоўнай грамадзкай працы па ахове прыроды, на што часамі мала зварачваецца ўвагі шырокім насельніцтвам.

Будзем спадзяецца, што маладыя краязнаўцы ня толькі будуць праводзіць „Дзень лесу“, „Дзень птушкі“, але навучацца цэлы год захоўваць прыроду і гэта ўвойдзе ў быт усяго насельніцтва.

### Рост працы краязнаўчага гуртка пры 7 Н.-Барысаўскай школе.

Набываючы вопыт у працы, школьны краязнаўчы гурток выяўляе рост ініцыятывы. У сучасны момант гурток аб‘ядноае 79 сяброў, з якіх—хлопцаў 43, дзяўчат—36. Па групах разьмяркоўваюцца сябры так: 7 гр — 10 чал., 6 гр.—19 чал., 5 гр.—20 чал. і 4 гр.— 30 чал.

Як бачым, перавагу па групах складаюць вучні 4 групы. Праўда, іх праца ня так каштоўна, як вучняў старэйшых груп, але ім даручаецца і праца па іх разьвіцьці. Дапушчэньне значнага ліку вучняў 4 групы тлумачыцца жаданьнем гуртка паступова выхоўваць краязнаўцаў, тым болей, што цяга да ўдзелу ў працы моцная.

З боку організацыйнага гурток мае цьвёрды плян працы. Паседжаньні бюро і сходы вядуцца па каляндарным пляне.

На 2-ое паўгодзьдзе бюро зацьвердзіла наступны плян:

1. Агульны сход гуртка рабіць два разы ў месяц і два разы пасяджэньні бюро.
2. Зрабіць перарэгістрацыю сяброў гуртка.
3. Чарговай задачай на вясновы сэзон паставіць назіраньні за ажываючай прыродай.
4. Організаваць школьна-краязнаўчы музэй.
5. Выдзеліць і падрыхтаваць корэспондэнцкую вучнёўскую групу пры гуртку.
6. Абавязаць кожнага сябра гуртка вясьці дзеньнік назіраньняў.
7. Наладзіць пісьмовую сувязь з гурткамі іншых мест БССР і РСФСР.
8. Прыняць шэфства над вясковай школай у сэнсе організацыі там краязнаўчага гуртка з мэтаю вывучэньня вёскі.
9. Організаваць дзьве краязнаўчыя экскурсіі ў раён да канчаткаў навучальнага году.
10. Падрыхтаваць плян працы на лета.
11. Організаваць ядро экскурсантаў на летні пэрыод.
12. Заклікаць у лік шаноўных сяброў гуртка асоб грамадзкіх і краязнаўчых організацый з мэтаю дапамогі з іх боку ў працы гуртка.
13. Завясьці сяброўскія білеты для паметкі аб ступені актыўнасьці сяброў у працы.
14. Падрыхтаваць матар‘ял да выданьня зборніка прац гуртка.

Згодна пастаўленаму пляну на сёньнешні дзень выканана наступнае:

1. Сабрана каля 143 рацэптаў народнай мэдыцыны.
2. Абсьледвана паляваньне па Барысаўскім раёне і вядзецца дэталізацыя данай тэмы.
3. Сабрана народных песень—56, прымет і забабонаў — 211, прыпевак — 96, апісаньняў вясельля, хрэсьбін—3, загавораў—36, загадак—52, гаданьняў—55, прыгаворак—9, народных казак—3.
4. Вядуцца назіраньні за прыродай.
5. Выдзелена музэйная камісія, якая ўжо вядзе працу па організацыі музэю.
6. Паслана адозва да краязнаўчых організацый Мазыра, Гомелю і Смаленску.
7. Выдзелена група корэспондэнтаў з актыўных сяброў гуртка і намечана апрацоўка сабранага матар‘ялу, а таксама пытаньняў організацыйнага характару і пасылка ў піонэрскі часопіс для популярызацыі краязнаўчай вучнёўскай працы.
8. Распрацоўваецца і часткова пачынаецца праца па вывучэньні беларускага мастацтва паводле атрыманай інструкцыі проф. Шчакаціхіна.
9. Праведзены „Дзень птушкі“ 1 красавіка.
10. Паслана выпіска з протоколу асобам, заклiканым у сябры гуртка.
11. Рыхтуецца анкета і плян па антропа-географічным абсьледваньні глухога парэчча свайго раёну.
12. Вывучаецца ў даны момант піварарня,

жылбудаўніцтва, колектыўная ганчарня і гарбарня.

13. Удзел у мітынгу выклікаў вывучэньне рэволюцыйных сьцягоў барысаўскіх організацый.

14. „Вялікодныя Сьвяты" высунулі вывучэньне звычаю „валачобні", а таксама яўрэйскіх сьвятковых забабонаў.

15. Працяжнай роботай лічыцца вывучэньне мясцовага рынку.

16. Падрыхтоеан плян па вывучэньні рэлігійных кірмашоў „Кальвары".

Вучнёўская зацікаўленасьць сама наштурхоўвае на тэмы.

На апошніх пасяджэньнях вучнямі высунуты пытаньні аб закліканьні на наступныя сходы вучняў барысаўскіх школ (па 2 чалавекі), і выпрацоўцы жэтона для сяброў краязнаўчых організацый. Вучні нават узяліся фантаз'яваць над проектам жэтона і думаюць падзяліцца думкаю з ЦБК.

Сябры гуртка азнаёмлены з організацыяй агульнага краязнаўчага руху, яго асяродкавых органах, сьвядомы ў пытаньні організацыі Інбелкульту і ЦБК. На сходах дадаецца інформацыя аб зьмешчаных артыкулах у часопісе „Наш Край" і асабліва наэлектрызоўваюцца сябры, калі пачуюць напісанае аб сваім гуртку. Апошняе ўздымае настрой сяброў і служыць лепшай адплатай за працу.

Гурток мае надзею, што плян працы будзе вакананы поўнасьцю.

У гурток закліка괴ы ганаровымі сябрамі асобы з дзяржаўных і грамадзкіх устаноў, як напрыклад: старшыня Горсавету т. Кандакоў, інспэктар школ г. Барысава, упаўнаважаны ГПУ па Барысаўскім раёне т. Васіленко, доктар Сабалеўскі і начальнік гарнізону г. Барысава т. Скугараў, а таксама ўвесь пэдагогічны склад школы.

З ЦБК заклікан т. М. Касьпяровіч.

Асобы, якія пасьпелі атрымаць запрашальныя лісты, адклікнуліся цёпла і пашлі практычна насустрэчу. Гурток гэта ўжо адчувае.

На летні сэзон гурток рыхтуецца да правядзеньня нядзельнай экскурсіі па антропагеографічным абсьледваньні глухога парэчча. З боку некаторых ганаровых сяброў гуртка ўжо абяцана дапамога ў правядзеньні нашага пляну.

І. Уладзіміраў.

---

# Бібліографія.

## ОРГАНІЗАВАНАЕ ВЫВУЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСІ*).

### БІБЛІОГРАФІЧНЫ ПАКАЗЧЫК.

### Музэі, сады, архівы і інш.

[...

1926—Клімавіцкі Акруговы Музэй.

„Наш Край", Менск 1926, № 1, ст. 62-63.

Даўгяла, З.

1926—З Магілеўскага Музэю.

„Наш Край", Менск 1926, № 1, ст. 62-63.

Фядзюшын, А.

1926—Дзяржаўны паляўнічы запаведнік БССР.

„Наш Край", Менск 1926, № 1, ст. 24-28.

Пратасеня З.

1927—Магілеўская дасьледчая станцыя лекавых расьлін.

„Магілеўшчына", Магілёў 1927, ст. 7-10.

Сташэўскі.

1927—Магілеўскае Аддзяленьне Дзяржаўнага Беларускага Музэю.

„Магілеўшчына", Магілёў 1927, ст. 101-106.

[...

1927—Бабруйскі Акруговы Краязнаўчы Музэй.

„Наш Край", Менск 1927 г. № 3. ст. 63.

Фрыдэ, М.

1927—Колекцыі па этнографіі беларусаў у этнографічным аддзеле Дзяржаўнага Рускага Музэю.

„Наш Край", Менск 1927, № 11, ст. 8-13.

Мялешка М.

1927—Архівы БССР за 10 год Кастрычніка.

„Наш Край", Менск 1927, № 10, ст. 61-64.

Аляксандраў, Г.

1927—Краязнаўчыя музэі і дзесяцігодзьдзе Кастрычнікавай Рэволюцыі.

„Наш Край", Менск 1927, № 10, ст. 58-60.

Сацункевіч Ю.

1927—Музэй Раволюцыі к дзесяцігодзьдзю Кастрычніка.

„Наш Край", Менск 1927, № 10, ст. 53-57.

Савіцкі М.

1927—Дасягненьні ў галіне с.-гасп. навукова-дасьледчай справы БССР.

„Наш Край", Менск 1927, № 10, ст. 36-42.

Макарэўскі М.

1927—Мэтэоролёгічная сетка БССР к дзесяцігодзьдзю Кастрычніка.

„Наш Край", Менск 1927, № 10, ст. 43-46.

Ластоўскі В.

1927—Беларускі Дзяржаўны Музэй.

„Наш Край", Менск 1927, № 10, ст. 47-52.

Харламповіч, П. В.

1927—Пяцігодзьдзе Беларускага Дзяржаўнага Музэю.

„Наш Край", Менск 1927, № 1, ст. 10-16.

---

*) Пачатак і працяг гл. „Наш Край" №№ 1, 3, 4.

## Мэтодычная літаратура па краязнаўству *).

**Агульныя пытаньні краязнаўства.**

Байкоў М.
1923—Пазнаньне Беларусі, як навуковая і рэволюцыйна-грамадзянская проблема.
„Полымя", Менск, 1923, № 3—4, ст. 63—68.

Смоліч Арк.
1923.—Краяведаньне і Ўнівэрсытэт у Савецкай Беларусі.
„Полымя", Менск, 1223. № 2, ст. 101—104.

Касьпяровіч, М. І.
1927—Зарысоўкі мясцовага краю.
„Чырвоны Сейбіт", Менск, 1927, № 14, ст. 10—13.

Самцэвіч В.
1927—Вывучэньне вёскі—неадкладная задача краязнаўчых організацый.
„Наш Край", Менск, 1927, № 6—7, ст. 3—4.

[ . . .
1927—Плян працы раённага т-ва краязнаўства.
„Наш Край", Менск, 1927, № 11, ст. 34—36.

Касьпяровіч М. І.
1927—Жанчына і краязнаўства (аб вывучэньньні творчасьці жанчын у краязнаўчай працы).
„Наш Край", Менск, 1927, № 2, ст. 37—39.

Самцэвіч.
1926—Краязнаўства ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве краю.
„Наш Край", Менск, 1926, № 12, ст. 3—5.

[ . . .
1926—Програма першапачатковага азнаямленьня з краязнаўствам.
„Наш Край", Менск, 1926, № 10—11, ст. 49—50.

[ . . .
1926—Do ludnosci polskiej na Bialorusi (аб удзеле польскай насельнасьці ў краязнаўчай працы).
„Наш Край", Менск, 1926, № 4—5, ст. 79.

Ігнатоўскі.
1926—Далейшыя шляхі краязнаўства на Беларусі.
„Працы І Усеб. Краязнаўчага Зьезду", Менск, 1926, ст. 71.

Азбукін.
1925.—Што рабіць раённым таварыствам краязнаўства.
„Наш Край", Менск, 1925, № 1, ст. 41—44.

Дзэнс-Літоўскі.
1925—Краязнаўчыя мэтоды.
„Віцебшчына", Віцебск. 1925, ст. 120—121.

М. К. (Касьпяровіч М.)
1926.—„Ziemia" (рэцэнзія).
„Наш Край", Менск, 1926, № 12.

Касьпяровіч М.
1926—Краяведчая праца студэнтаў.
„Зяря Запада", Віцебск, 1926, № 140.

Касьпяровіч М.
1926.—Насьценгазэты і краязнаўства.
„Заря Запада", Віцебск, 1926, № 189.

Слуцкер (Касьпяровіч М.).
1927—Аб'яднаньне краязнаўчых сіл.
„Савецкая Беларусь", Менск, 1927, № 30.

Касьпяровіч М.
1927—Летам—за краязнаўчую працу!
„Савецкая Беларусь", Менск, 1927, № 130.

Касьпяровіч М.
1927—Вывучай свой край.
„Беларускі Піонэр", Менск, 1927, № 8.

Касьпяровіч М.
1927—Краязнаўчыя вечарыны.
„Савецкая Беларусь", Менск, 1927, № 247.

Касьпяровіч М.
1927—Музэй мовы і літаратуры пры школе.
„Савецкая Беларусь", Менск, 1927, № 261.

[ . . .
1925—1927—(Перадавіцы часопісу „Наш Край" аб чарговых задачах краязнаўства).
„Наш Край", Менск, 1925 г.—I (3—5), 1926 г.—IV—V (3—4); X—XI (3—5); 1927 г.—I (3—5); IV (3—4); V (3—4); VIII—IX (3); XI (3—4); XII (3 -6).

Касьпяровіч М.
1927—Мясцовы навуковы друк.
„Чырвоная краіна", Менск, 1927, № 2.

Касьпяровіч М.
1927—Краязнаўчыя музэі.
„Чырвоная Полаччына", Менск, 1927, №№ 15, 16.

Волмар М. (Касьпяровіч М.).
1927—Краязнаўства і „Зьвязда".
„Зьвязда", Менск, 1927, № 243.

Касьпяровіч, М.
1927—Проф. Лунгергаўзэн. Да пытаньня аб пастаноўцы курсу беларусазнаўства ў вышэйшых навучальных установах (рэцэнзія).
„Наш Край", Менск, 1927, № 5.

М. К. (Касьпяровіч М.).
1927.—Дэталізацыя працы па комплекснай сыстэме (рэцэнзія).
„Наш Край", Менск, 1927, № 1.

Смалярскі М. (Касьпяровіч).
1927—Валентин Отомановський. Краєзнавство на Поділлі... (рэцэнзія).
„Наш Край", Менск, 1927, № 1.

Касьпяровіч М.
1927—Што трэба зрабіць раённым таварыствам краязнаўства.
„Наш Край", Менск, 1927, № 5.

Смалярскі М. (Касьпяровіч М.).
1927 -Н. В. Здобнов. Основы краевой бібліографіі (рэцэнзія).
„Наш Край", Менск, 1927, № 2.

Касьпяровіч М.
1927—Нашы чарговыя задачы.
„Наш Край", Менск, 1927, № 4.

Волмар М. (Касьпяровіч М.).
1928—Наша навука.
„Літаратурны дадатак да газэты „Савецкая Беларусь", Менск, 1928, № 6.

---

*) Частка гэтага аддзелу паказчыку, а ўласна аддзелы: а) організацыя краязнаўчага руху; б) краязнаўчыя організацыі ў асьветных установах; в) організаваньне музэяў, садоў, заказьнікаў і д. т. п.; г) экскурсійная справа; д) бібліографаваньне; е) асьветнае краязнаўства — апублікаваны ў № 1 часопісу „Асьвета" (Менск 1928, ст. 124—130) пад назваю „Організаванае вывучэньне краю і школа".

Касьпяровіч М.
1928—„Зьвязда" і краязнаўцы.
„Зьвязда", Менск, 1928, № 91.
Стаход Алесь (Касьпяровіч М.).
1928—Дзесяцігодзьзе беларускага краязнаўства.
„Зьвязда", Менск, 1928, № 91.

Касьпяровіч М.
1928—Краязнаўчыя аб'яднаньні ў профсаюзных організацыях.
„Зьвязда", Менск, 1928, № 92.
Волмар М. (Касьпяровіч М.).
1928—Рыхтуйцеся вандраваць!
„Зьвязда", Менск, 1928, № 94.
Касьпяровіч М.
1928—Аб краязнаўстве ў Фіншчыне.
„Наш край", Менск, 1928, № 4.

Самцэвіч В.
1928—Краязнаўчыя экскурсіі ў выхаваньні моладзі.
„Наш Край", Менск, 1928, № 3.

Аляксандраў Г.
1928—Падрыхтоўка краязнаўцаў.
„Наш Край", Менск, 1928, № 2.

### Грамадзка-экономічнае вывучэньне краю.

Некрашэвіч С.
1925—Да пытаньня аб укладаньні слоўніка жывой беларускай мовы.
„Полымя", Менск, 1925, № 5 і асобны адбітак, Менск, 1926, 23 ст.
Касьпяровіч М.
1925—Народны орнамэнт (аб зьбіраньні).
„Віцебшчына", Віцебск, 1925, ст. 49—51.
Багародзкі М.
1925—Горад як прадмет краязнаўчага дасьледваньня.
„Віцебшчына", Віцебск, 1925, ст. 113—116.

[ . . .
1925—Програма апісаньняў паселішчаў гарадзкога тыпу.
„Віцебшчына", Віцебск, 1925, ст. 128—130.

[ . . .
1925—Апытальны ліст „Культ і народная гаспадарка".
„Віцебшчына", Віцебск, 1925, ст. 127—128.
(Азбукін).
1925—Програма апісаньня паселішчаў гарадзкога тыпу (гарадоў, мястэчак, пасадаў, гандлёвых сёл і інш.).
„Наш Край", Менск, 1925, № 1. ст. 56—58.
Грыневіч.
1925—Програма-інструкцыя для зьбіральнікаў беларускай музычна-этнографічнай творчасьці.
„Наш Край", Менск, 1925, № 1, ст. 45—48.

[ . . .
1925—Інструкцыя для зьбіраньня народнага слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове.
„Наш Край, Менск, 1925, № 1, ст. 49—53.
Гарэцкі М.
1925—Програма зьбіраньня вуснае народнае творчасьці.
„Наш Край", Менск, 1925, № 2, ст. 43—47.
Некрашэвіч С.
1926—Мовазнаўчая праца краязнаўчых організацый.
„Працы І Ўсеб. Краязн. Зьезду", Менск 1926, ст. 48—56.
Гарэцкі.
1926.—Зьбіраньне і апрацоўка фольклёру.
„Працы І Ўсеб. Краязн. Зьезду", Менск, 1926, ст. 56—59.

Грыневіч.
1926—Тлумачэньні да анкеты па зьбіраньню народных мэлёдый.
„Працы І Ўсеб. Краязн. Зьезду", Менск, 1926, ст. 59—61.

Мялешка.
1926.—Вывучэньне народнага быту.
„Працы І Усеб. Краязн. Зьезду". Менск, 1926, ст. 63—69.

Ракаў.
1926—Вывучэньне бюджэту часу беларускага селяніна.
„Працы І Ўсеб. Краязн. Зьезду", Менск, 1926, ст. 69—70.

Мялешка.
1926—Апытальны ліст да зьбіраньня народных вераваньняў і прадстаўленьньняў, зьвязаных з каменем, і вестак аб каменных помніках гістарычна-археолёгічнай значнасьці.
„Наш край", Менск, 1926, № 1, ст. 43—46.

[ . . .
1926—Інструкцыя да зьбіраньня беларускіх народных тэрмінаў па анатоміі жывёл.
„Наш Край", Менск, 1926, № 1, ст. 47—53.
Натальлін.
1926—Аб зьбіраньні слоўніка жывой мовы.
„Наш Край", Менск, 1926, № 2—3, ст. 44—47.
Шчакаціхін М.
1926—Спосабы зьбіраньня матар'ялаў з беларускага мастацтва.
„Наш Край", Менск, 1926, № 2—3, ст. 62—69.
Ракаў Я.
1926—Пастаноўка падлічэньня бюджэту часу беларускага селяніна.
„Наш Край", Менск, 1926, № 2—3, ст. 70—76.

[ . . .
1926—Ад тэатральнае падсэкцыі Інстытуту Беларускае Культуры.
„Наш край", Менск, 1926, № 2—3, ст. 79—80.

(Канец будзе).

Выдавец—Інстытут Беларускае Культуры.
Рэдактар—З. Бядуля.


Члены Рэдакцыі: М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.

## Да наглядальнікаў фэнолёгічных зьяў.

На Беларусі даволі распашырана патвараньне галасоў розных птушак і зьвяроў падборам адпаведных па гучнасьці слоў, або перадражніваньне птушынай песьні сьмешнай фразай, як прыкладам:

*Перапёлка* пахваляецца: „Я маладзічка невялічка, хоць куды! хоць куды!“

*Салаўя* дражняць словамі: „Цыган, цыган сала пёк, пёк, пёк, — кап, кап, кап. Цюррр!.

*Жаўранак* падлятаючы ў гару быццам трымае ў лапцы галінку і гаворыць: „Пайду бога біць! Пайду бога біць! Галінка вырываецца з лапкі, дык ён даганяе яе пакрыкаючы: „Кій упаў! Кій упаў!“

*Ластаўка* хуценька шчабеча: „Пашоў ратай на ніўку, узяў хлеба скарынку, а як ідзе то й скрыпіць“! Або: вярнуўшыся вясной ластавачка бачыць, што запасаў, якія былі ў восень, калі яна вылятала ў вырай, няма, дык лётае і бядуе: „Усё перапілі, пераелі, пералушчылі! А ніхто не такі, як пастух праклятыя: ён і дома жарэ, і на паству бярэ, і ўсё яму мала“!

*Цецер* (цецярук) такуючы кажа: „Твой парабак у майго парабка сякеру ўкраў! Ніхай твой парабак майму парабку сякеру аддась. Ці чууеш“?

*Варона* будучы з роду і племені зладзейнай і неахайнай у сваім гнязьдзе, каб гэта скінуць на іншых, – кожнага ўбачанага ва ўсё горла ўсчувае: „Краў! Драў! Браў! Скрываў! Скрываў!.. Во бруд, во гразь! Во гразь!..“

*Дзяргач і Перапёлка.* Дзяргач крычыць: „Бач! бач! — Дзяргач ідзець! — Вала вядзець!!! А перапёлка (быццам-то дзергачова жонка) зачуўшы гэта і думаючы, што ён запраўды злавіўшы вала вядзе, — бядуе: „Вот бяда. Вот ідзець. Няма хлява. Няма дзе дзець“!

*Індык (калакут) і індычка.* Індычка падышла да гаспадара, калі той малаціў і просіць: „Дзядзька, дзядзька дай абурррын!“ А індык кажа: „А голага зярна ня можна?! Зачуўшы гэта, гаспадар пагразіў індыку мятлой. Індык надуўся і злосна агрызнуўся гаспадару: „Сам чорт тутка ня ўбудзе, калі гэтак будзе“!

*Куры і певень.* Куры залезшы ў гарод разграбаюць лехі і дудукаюць паміж сабой: „Усё гэта нам, усё гэта нам“! А як, убачыўшы шкоду, гаспадыня закрычыць на іх, тады певень падымае галаву і пытае: „А хто там!? Урэшце, калі выганяюць курэй з гароду, то яны ўцякаючы крычаць: „Во яно як, во яно як, свайго ня меўшы!“

Ці маюцца ў Вас падобныя перадражніваньні і калі ёсьць, то якія, на якіх птушак і якімі словамі? Запісы новых тэкстаў і адменьнікі вышэйпададзеных просім прысылаць у ЦБ Краязнаўства. Гэтыя новыя задачы для наглядальнікаў вельмі лёгкія і ня толькі не абцяжарваюць працы, але робяць яе больш цікавай.




ЦАНА 50 КАП.